РУСЬ І ЛІТВА

АНДРЭЙ ФЕДАРЭНКА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 7(24) — 2020




ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ДЫК ДЗЕ Ж ШУКАЦЬ СКАРБЫ РАДЗІВІЛАЎ?

«ТРОЙЦА» З ДАСТОЕВА

DER MINSKER GAJST
НА РУІНАХ ЦЫТАДЭЛІ ІДЫШКАЙТУ

НАША СТРАВА
ЗЭМЭЛАХ І ФІШБУЛЬБА

# КРАІНА ЦЕНЯЎ

## ГІД ПА ЯЎРЭЙСКАЙ БЕЛАРУСІ

16+





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.


# Наша Гісторыя
7/2020

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — карціна Хаіма Суціна «Ева». З калекцыі Белгазпрамбанка.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.



**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by



Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 13.07.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0395/20.
Наклад 4061.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


## Ад рэдакцыі

Як толькі наш часопіс два гады таму пачаў выходзіць, на яго старонках адразу з'явілася рубрыка «Народы Беларусі». У ёй расказваецца пра розныя адметныя этнічныя і канфесійныя групы, прысутнасць якіх паўплывала на нашу гісторыю, а часам працягвае ўплываць і на сучаснасць. Бо гісторыя Беларусі — гэта ж гісторыя не толькі беларусаў. Цягам стагоддзяў побач з намі тут жылі таксама носьбіты іншых моў, культур, традыцый. Якія ўзаемна перапляталіся, скрыжоўваліся, узбагачаліся. Але часам і канфліктавалі — без гэтага ў гісторыі таксама не абыходзіцца.

Сённяшняя Беларусь значна розніцца ад колішняй паводле этнічнай і культурнай разнастайнасці. Цяперашняя нашым продкам, відаць, падалася б культурна амаль аднароднай. Але такі стан — гістарычна зусім нядаўняя з'ява. Як такая яна пачала складвацца толькі ў XX стагоддзі, а спадарожнічалі гэтаму працэсу вялікія людскія трагедыі. Яшчэ ў 1930-я гады ў ходзе сталінскага тэрору махавік рэпрэсій абрынуўся сярод іншага на тыя асяродкі, якія рупіліся пра захаванне і развіццё культурна-этнічнай самабытнасці асобных груп. Некаторыя адметныя нацыянальна-культурныя супольнасці Беларусі былі тады калі не цалкам разгромленыя, то прынамсі абяскроўленыя. Пасля таго яны больш практычна не падняліся, ціха згасаючы.

І гэта быў толькі пачатак, бо працяг аказаўся яшчэ больш сумны. Падчас Другой сусветнай вайны нямецкімі нацыстамі было фізічна амаль цалкам вынішчана габрэйскае насельніцтва, якое апынулася пад іх уладай. А пасля вайны ў выніку абмену насельніцтвам паміж Польшчай і СССР Заходнюю Беларусь былі вымушаныя назаўсёды пакінуць сотні тысяч мясцовых палякаў...

І хоць найбольш нялюдскія часы скончыліся пасля смерці Іосіфа Сталіна, умовы для захавання і развіцця культурнай разнастайнасці заставаліся неспрыяльнымі і пры яго наступніках. Курс на фармаванне адзінага савецкага народа, які стаў праводзіцца ў апошнія дзесяцігоддзі існавання СССР, усяляк заахвочваў культурную ўніфікацыю і падгонку ўсяго пад агульны стандарт. Па інерцыі, хоць ужо без ідэалагічнага абгрунтавання, тое самае ў значнай ступені працягнулася і ў новых умовах, ужо пасля краху камунізму. Як вынік, многія культурныя здабыткі ранейшых пакаленняў ці свядома знішчаліся, ці самі сабой разбураліся з-за адсутнасці догляду за імі. Спачатку ўсё гэта знікала з культурнага ландшафту, а пасля і з нашай памяці.

Але ўсё ж такі знікла не ўсё, тое-сёе і захавалася ці дзякуючы неабыякавым людзям, ці проста насуперак абставінам. У гэтым нумары Алесь Белы, Сяргей Шупа, Паўліна Скурко, Андрэй Шпунт, Ірына Ваўранюк пішуць пра тое, што ў сучаснай Беларусі засталося ад колішняй габрэйскай культуры (**старонкі 4–21, 30–43, 72–75, 80–83**). Нярэдка гэта падарожжа па руінах, але бываюць і вельмі натхняльныя прыклады, як з амаль нічога можна зрабіць нешта.


4


24


Ребёнок 8-10 лет
Their child of 8-10 years old
30


48


54


67


84


40


44




88


96



Эдуард Левін. Менск. Раён гета. 1975 год.

# Горад ценяў

**Яўрэйскі Менск — гэта фантомны боль, кажа перакладчык Мойшэ Кульбака на беларускую Сяргей Шупа.**

Яшчэ нейкіх сто гадоў таму яўрэі складалі палову насельніцтва горада, найбольш пашыранай мовай Менска быў ідыш. У школьных класах нашага дзяцінства (1960–1970-я гады) яўрэяў яшчэ было не менш за чвэрць, праўда, на ідышы гаварылі ўжо толькі старыя бабулькі ў нашых ціхіх дварах. Сёння яўрэяў засталася жменька, ідыш амаль знік. І яно баліць. Ад знікнення яўрэяў у горадзе ўзніклі незагойныя раны, пусткі, якія дагэтуль застаюцца незапоўненыя. Але душа засталася. Нябачная, бязважкая, бязмоўная. Горад ценяў.

## Самыя яўрэйскія раёны

Яўрэйскі Менск мае за сабой як найменей паўтысячагоддзя пісанай гісторыі. Яго геаграфія і храналогія, замацаваная ў традыцыі самасвядомасць, былі жывыя фактычна да Другой сусветнай вайны. Аднак можна сказаць, што яўрэйскіх раёнаў як такіх у горадзе не было: у Менску ад XVIII стагоддзя фактычна не было яўрэйскай меншасці, якая б замыкалася ў нейкім традыцыйным гета. Яўрэйскім быў увесь горад. Магчыма, найбольшая канцэнтрацыя яўрэяў была ў Замчышчы, на Нямізе і Ніжнім рынку. Але важнымі яўрэйскімі мясцінамі былі і прадмесці: Камароўка, Серабранка, Пярэспа...

Аднак сэрцам яўрэйскага Менска без сумневу быў Школьны двор, квартал на рагу вуліц Няміжскай і Школьнай, цяпер там двор будынка «Белпрампраекта». На Школьным двары было 14 з больш чым 80 менскіх сінагог, у тым ліку галоўная менская сінагога — Халодная, самы стары будынак у горадзе. Ніякіх школ там, вядома, не было. Школа — гэта і ёсць сінагога (на ідышы *шул*), такое значэнне гэта слова мела і ў беларускай мове, зафіксаванае і ў слоўніку Насовіча.

Школьны двор быў не толькі рэлігійным, але і грамадскім цэнтрам — гэта была менская агора, там вырашаліся ўсе важныя пытанні, там можна было без газет і інтэрнэту даведацца пра ўсе навіны горада і свету, туды па ратунак беглі ў моманты вялікіх бедаў і катастроф. (Але не пагромаў — іх у Менску не было, бо хто рызыкне ладзіць пагром у горадзе з яўрэйскай большасцю?..)

Асобна трэба згадаць Балота, *Di Blote* — легендарны раён паміж Замчышчам і Татарскімі агародамі, вакол колішняй вуліцы Падзамкавай на Балоце. Герметычная, закрытая для чужых, амаль недаступная для паліцыі і ўладаў прастора. Рассаднік рабіністычнай вучонасці, гняздо дынастыі Маскілейсонаў са славутай кнігарняй, а таксама асяродак усялякага палітычнага крыміналу, бундысцкага падполля. Нехта са страхам абыходзіў Балота стараной, нехта хаваўся там, як рыба ў вадзе. Побач са Школьным дваром, Балота было квінтэсенцыяй яўрэйскага Менска. Таму Ізі Харык і выбраў яго як знакавае, тыповае, сімвалічнае месца для сваёй паэмы «Менскія Балоты» — не Камароўку, не Пярэспу і не Ляхаўку, якія ўсе былі больш «звычайнымі», нічым для яго асабліва не выразнымі яўрэйскімі раёнамі.

## Знаёмства з яўрэйскім светам

Маё знаёмства з яўрэйскім Менскам адбылося, калі мне было гадоў дванаццаць. Аднойчы па дарозе з пацанамі на легендарную «авіязвалку»* мы выпадкова трапілі на могілкі на вуліцы Сухой. Яны былі ўсе раскапаныя, паўсюль валяліся чарапы і косці, паваленыя надмагільныя помнікі дзіўнай формы і з яшчэ больш дзіўнымі надпісамі. Для мяне, апрача ўсяго іншага, было шокам, што мой горад хаваў ад мяне сваю таямніцу, пра якую я не здагадваўся... Так пачалася доўгая дарога.

* «Авіязвалкай» звалася база прадпрыемства «Вторцветмет», якая месцілася на скрыжаванні вуліцы Апанскага (цяпер Кальварыйская) і чыгуначных шляхоў. Сярод іншага лому каляровых металаў там было шмат і спісаных парэзаных самалётаў — адгэтуль і назва.

## Мінскія «разынкі»

Гісторыя яўрэйскага Менска багатая рознымі адметнасцямі, вартымі добрай літаратуры. Пра што напісаў бы я, калі б быў пісьменнікам? Пра тое, як у XVII стагоддзі іўдзеі знайшлі саюзнікаў у асобе ўніятаў і разам з імі бараніліся ад рыма-каталіцкага і праваслаўнага ўціску і праследу. Пра тое, як амаль усё XVIII стагоддзе ішла неабвешчаная вайна яўрэйскіх рамесніцкіх цэхаў з кіраўніцтвам кагалу. Пра канфлікт двух вялікіх мудрацоў Ар'е-Лэйба бэн Ашэра Гінцбурга і Ехіеля Гэйлпрына, аўтараў вядомых ва ўсім яўрэйскім свеце трактатаў. Пра таямніцы яўрэйскіх могілак: новых, на Сухой, і старых на месцы стадыёна «Дынама» (якія калісьці таксама былі новыя, а старыя былі недзе далёка за горадам, але пра гэта ўжо ніхто не памятае...). Пра менскія друкарні Зымеля і Бланштэйна, якія на пачатку XIX стагоддзя выдалі 24 кнігі, пакуль Мікалай I усё не пазабараняў. Пра страшнага разбойніка Бойтру (насамрэч, ніякага не Робіна Гуда). Пра хадзячую легенду, гарадскога вар'ята Моргенштэрна, які вельмі ўмела прыкідваўся вар'ятам, а ў рэальнасці быў некім іншым. Пра гандляра на Ніжнім рынку. Пра Яшчара на Балоце. Пра вайну сіяністаў з бундыстамі. Пра Чарніхоўскага ў Менску. Пра Трумпэльдора ў Менску. Пра яўрэяў у БНР. Пра 1920–1930-я гады, калі Менск быў адной са сталіц савецкага ідышланду са школамі, газетамі, часопісамі, тэатрам, судамі, багатым грамадскім жыццём. Пра менскі ідыш, адметны, пазнавальны і назаўсёды забыты. Гэты спіс можна было б доўжыць і доўжыць — а я ж ведаю толькі малую кроплю ў гэтым моры...

## Постаці

Калі гаварыць пра людзей, то, мабыць, біяграфічны слоўнік яўрэйскага Менска заняў бы не адну сотню старонак. Гэта і старадаўнія вучоныя людзі, і рабіны, і кантары, і дактары, і рамеснікі, і бізнэсоўцы, і палітыкі, і літаратары. Сярод іх мне цяжка выбраць самых-самых, я б не абмежаваўся і дзясяткам, але найбольш мне дарагі Мэйшэ** Кульбак — хоць ён нарадзіўся ў Смаргоні і жыў і ў Коўне, і ў Вільні, і ў Берліне, усё роўна цэнтрам гравітацыі для яго заўсёды быў Менск, куды ён двойчы вяртаўся і дзе сустрэў сваю смерць. Думаю, што адна з менскіх вуліц мусіла б насіць ягонае імя.

## Дух яўрэйскага Менска сёння

Вядома, сёння, каб адчуць і пабачыць яўрэйскі Менск, трэба мець багатае ўяўленне. Аднак некалькі месяцаў усё яшчэ захоўваюць сваю моцную аўру. Найперш гэта «Яма», якая цудам перажыла дзесяцігоддзі савецкага дзяржаўнага антысемітызму. Могілкі на Сухой. Прывіды Школьнага двара і Замчышча: можна ўявіць іх сабе, седзячы ў Траецкім прадмесці на беразе Свіслачы і гледзячы цераз раку. Вуліца Ракаўская — ці не апошні астравок аўтэнтычнага Старога Менска. Ды і сама менская глеба, прасякнутая крывёй, потам і слязьмі дзясяткаў яўрэйскіх пакаленняў, якія знайшлі ў ёй свой спачын. ◆

** Мэйшэ — так гэтае імя вымаўлялася ў Беларусі і Літве, гэта літвацкі дыялект. Мойшэ — літаратурны варыянт.

**Дом з мезузай (прымацаваным да вушака скрутачкам пергаменту з тэкстам малітвы) на рагу Ракаўскай і Вызвалення**, цяпер тут кавярня «Добры кут». А мезуза перанесеная ў габрэйскі музей. На жаль, і нішу для яе затынкавалі.

# Der Minsker Gajst

## На руінах цытадэлі ідышкайту

**Мінск быў савецкай сталіцай традыцыйнай габрэйскасці. Што сёння пра гэта нагадвае і што магло б нагадваць? Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Мемарыял «Яма» на скрыжаванні Мельнікайце і Заслаўскай застаецца галоўным месцам габрэйскай памяці ў Беларусі. Таму замежных гасцей, што прыехалі ў нашу краіну перадусім дзеля аднаго канкрэтнага штэтла (так на ідыш завуцца мястэчкі) сваіх продкаў і не збіраюцца праводзіць у сталіцы шмат часу, вядуць перш за ўсё сюды.

На 5-годдзе аднаго з самых вялікіх пагромаў у гета, які адбыўся ў сакавіку 1942 года, акурат на свята Пурым, тут быў усталяваны сціплы абеліск — на сродкі, сабраныя з ацалелых членаў грамады.

Кажуць, гэта быў першы такі помнік у СССР, таму што мінскія габрэі, у адрозненне ад кіеўскіх, адэскіх і тым больш маскоўскіх, больш трымаліся сваіх дарэвалюцыйных звычаяў і не адмаўляліся ад каранёў.

Аўтары помніка былі арыштаваныя і адпраўленыя ў ГУЛАГ. У гэтым сэнсе «Яма» — помнік ахвярам не толькі Халакосту, але і сталінскай юдафобскай кампаніі 1948–1953 гадоў, ахвярамі якой зрабіліся дзясяткі тысяч чалавек.

Сімвалічна, што старт антыгабрэйскай кампаніі быў дадзены менавіта ў Мінску, у «цытадэлі ідышкайту*», каб застрашыць усіх. За гучным забойствам славутага рэжысёра ▸

* **Ідышкайт** (на ідыш літаральна «габрэйскасць» ці «габрэйскі лад жыцця») — тэрмін, якім у шырокім сэнсе азначаецца ўся сукупнасць ідэалогій, практык і культурных традыцый ашкеназскіх (ідышамоўных) габрэяў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Помнік ахвярам на «Яме».** Габрэі спускаюцца на смерць. Апошні нясе скрыпачку. Гэты помнік быў пастаўлены ўжо пры незалежнай Беларусі. Да таго была толькі сціплая стэла, пастаўленая ў 1947 годзе стараннямі франтавіка Хаіма Мальцінскага.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Стары помнік на «Яме».** За збор каля яго ў савецкі час можна было зарабіць абвінавачванне ў сіянізме.

Саламона Міхоэлса ў 1948-м ішоў разгром Габрэйскага антыфашысцкага камітэта, які ён узначальваў, — з расстрэлам амаль усяго яго кіраўніцтва. А далей была доўгая кампанія цкавання «бязродных касмапалітаў» у прэсе і ўсіх сферах грамадскага жыцця, звальненняў, зняволенняў, расстрэлаў. Савецкіх габрэяў пакінулі ў адносным спакоі толькі пасля смерці Сталіна. Гэтая старонка нашай гісторыі — вельмі павучальная, нават у сусветным маштабе.

**«Калі паэт Хаім Мальцінскі, аднаногі (нагу ён страціў на фронце)**, прыйшоў у Дом урада ўзгадняць верш на ідыш, які мусіў з'явіцца на помніку, дазвол спярша не далі. "У мяне там ляжыць маці, жонка і сямігадовы сын", — сказаў паэт, выходзячы. І цэнзар, таксама франтавік, падпісаў дазвол», — расказвае Міхаіл Валодзін у «Мінскіх гісторыйках». Пазней паэта асудзяць на дзесяць гадоў лагераў «за спробу прадаць амерыканцам Далёкі Усход і Сібір». А аўтар помніка, каменячос Спрышан, трапіць у лагер за калекцыю пласцінак з яўрэйскімі песнямі.
У савецкі час да «Ямы» прыходзілі толькі самыя смелыя: дзеці, моладзь і заўтрашнія эмігранты. Штогадовыя жалобныя мітынгі заглушалі міліцэйскія машыны, з якіх праз узмацняльнікі грала музыка.

Можа быць, з цягам часу канкурэнцыю «Яме» складзе «Трасцянец», месца знішчэння найвялікшай у Беларусі колькасці габрэяў (і не толькі іх), хоць да яго ўладкавання застаецца шмат пытанняў. Ахвяры там не названыя па імені, і тым больш нідзе вы не знойдзеце згадкі пра іх нацыянальнасць. Ды і ўвогуле ў надпісах на помніках шмат фактаалагічных памылак. Аж да таго, што сусветная габрэйская грамада палічыла «Трасцянец» не знакам ушанавання, а сімвалічнай абразай.



ВОЛЬГА ШУКАЙЛА, TYT.BY

**План мемарыяла «Трасцянец».**

## Музеі

Увогуле з габрэйскімі музеямі сітуацыя ў Беларусі не вельмі спрыяльная. Перш за ўсё кепска з іх статусам і дзяржаўнай падтрымкай. Немагчыма параўнаць нашы музеі не тое што з гіганцкім Варшаўскім музеем гісторыі польскіх габрэяў *Polin*, які пару гадоў таму быў прызнаны музеем года ў Еўропе, але і з нашмат сціплейшым, але таксама з дзяржаўным статусам і падтрымкай музеем імя Віленскага гаона ў Літве.

Аднак сціплы грамадскі музей гісторыі і культуры габрэяў Беларусі пры Габрэйскім абшчынным доме ў Мінску (вул. Веры Харужай, 28) таксама мае сваё аўру і шарм. Сярод найбольш цікавых яго экспанатаў — кавалак дзвярэй з дзіркай ад мезузы з Ракаўскага прадмесця; цудам захаваная на гарышчы сялянскай хаты Тора з мястэчка Дукора цяперашняга Пухавіцкага раёна; дзённік Лялі і Берты Брук, якія прайшлі праз усе жахі Мінскага гета (гл. пра гэта гета артыкул Андрэя Замойскага ў № 4/2018 «Нашай гісторыі»); сапраўдная жоўтая лата з гэтага самага гета; паліто, якое двухгадовай Мары Плакс маці перашыла з коўдры. А машынку для падпольнай вытворчасці мацы, зробленую з валіка ад пральнай машыны і роварнага ланцуга, можна лічыць адным з сімвалаў выжывання габрэйскай ідэнтычнасці пад ціскам атэістычнай «інтэрнацыянальнай» савецкай улады.


TYT.BY

**Мацаробка з Музея гісторыі і культуры габрэяў.** Мае вельмі арыгінальную канструкцыю, элементамі якой з'яўляюцца роварны ланцуг і валікі пральнай машыны.

Адносна нядрэнна ў нас выглядаюць справы з музеефікацыяй габрэйскага мастацтва. Больш за тое, пры належнай арганізацыі і піяры габрэйская мастацкая спадчына горада магла б стаць адной з ягоных разынак. Да нядаўняга часу зацікаўленых гасцей можна было смела весці ў прыватную галерэю «Белгазпрамбанка» *Art Belarus* (яе стварэнне — у значнай ступені заслуга былога кіраўніка банка Віктара Бабарыкі), дзе экспанавалася даволі значная калекцыя твораў мастакоў парыжскай школы, народжаных у Беларусі: Марка Шагала (у чым яго геній — гл. у № 5/2019 «Нашай гісторыі»), Хаіма Суціна (у чым яго геній — гл. у № 12/2019 «Нашай гісторыі»), Пінхаса Крэменя, Восіпа Цадкіна, Восіпа Любіча, Файбіша-Шрагі Царфіна, Міхаіла Кікоіна.

Самая дарагая і самая славутая карціна з калекцыі — «Ева» Хаіма Суціна (1928, Парыж) — літаральна за апошні месяц зрабілася інтэрнэт-мемам. У 2013 годзе «Белгазпрамбанк» набыў яе на аўкцыёне *Sotheby's* за 1,8 мільёна долараў ЗША. У Беларусі яна набыла статус самай дарагой карціны і гісторыка-культурнай каштоўнасці нацыянальнага значэння.


ARTBELARUS.BY

**«Дарога»** мастака парыжскай школы Файбіша-Шрагі Царфіна. Са збораў прыватнай калекцыі «Белгазпрамбанка» *Art Belarus*.

## І Усерасійскі з’езд сіяністаў

У вясельнай зале «Парыж» на рагу Калектарнай і Мяснікова (не захавалася) у верасні 1902 года сабралася 526 дэлегатаў, надзвычайная колькасць людзей для 100-тысячнага Мінска. І Усерасійскі з’езд сіяністаў доўжыўся тыдзень, ніякіх лёсавызначальных рашэнняў на ім не прынялі, гэта была хутчэй тусоўка, абмен думкамі.
З’езд не чапала паліцыя, і вялікую ролю ў гэтым адыграў Сяргей Зубатаў, загадчык Асобага аддзела расійскай жандармерыі: «Калі будуць думаць пра Палесціну, то ў Расіі рэвалюцыянерамі не стануць». Па яго імені названа зубатаўшчына: ён прыдумаў пераарыентаваць рабочых з палітычнага змагання на змаганне за матэрыяльны дабрабыт. Вымушаў уласнікаў фабрык задавальняць патрэбы рабочых і так зніжаў рэвалюцыйныя настроі.
Прыхільніцай Зубатава была адна з арганізатарак сіяністскага з’езда Марыя Вільбушэвіч. Ураджэнка Горадні, у Мінску яна працавала столяркай і падпрацоўвала на братавым машынабудаўнічым заводзіку на вуліцы Фізкультурнай. Паехаўшы ў Палесціну да хворага сваяка, мімаходзь яна стварыла першую ваенізаваную яўрэйскую арганізацыю «Ха-Шомер», на аснове якой потым узнікла армія Ізраіля.


Сотні дэлегатаў І Усерасійскага з’езда сіяністаў. Мінск, 1902 год.

BOLSHOI.BY

▸ Сімвалічна-вобразная прастора *Art Belarus* мае своеасаблівы працяг у размешчанай даволі блізка ад сталіцы, у Смілавічах Чэрвеньскага раёна, музеі «Прастора Хаіма Суціна» (вул. Рэвалюцыйная, 20, Цэнтр дзіцячай творчасці). З годнай экспазіцыяй, якая распавядае пра двух мастакоў з гэтага ж кола — апроч самога Суціна, яшчэ і пра Файбіша-Шрагу Царфіна.

Ёсць творы беларускіх габрэяў і ў Нацыянальным мастацкім музеі, але было б добра хаця б частку твораў Янкеля Кругера, Юдаля Пэна і іншых сабраць разам (у адной зале або нават у асобнай тэматычнай філіі), каб скласці цэласнае ўражанне пра карціну дарэвалюцыйнага і міжваеннага жыцця тутэйшай габрэйскай супольнасці і краіны ў цэлым.

### Калектарная-Габрэйская

Вельмі важны і часта наведваны куток габрэйскага Мінска — вуліца Калектарная, былая Габрэйская, якая вядзе да спляжаных габрэйскіх могілак і некалькіх помнікаў ахвярам гета: алеі мемарыяльных камянёў-стэлаў у памяць пра нямецкіх, аўстрыйскіх і чэшскіх габрэяў, дэпартаваных для знішчэння ў Мінск і Трасцянец, і сентыментальнага помніка «Разбіты агмень».

Размешчаныя тут апошнія габрэйскія могілкі Мінска (трэція па храналогіі пасля тых, на месцах якіх цяпер стадыён «Дынама» і ўніверсітэцкі гарадок) былі знішчаныя ў 1950-я, калі Ізраіль успрымаўся як ваенна-палітычны вораг, а габрэйская дыяспара — як яго патэнцыйныя агенты. На месцы могілак цяпер парк. Апошнім часам грамадскія ▸

**Мінчук Міхаіл Гебелеў, па мянушцы Бясстрашны Герман, ды Ісай (сапраўднае імя — Іегуда) Казінец з мянушкай Слаўка Пабядзіт, ураджэнец украінскага прыморскага Генічаска, два гады ўзначальвалі мінскае падполле.**
Паплечніцай і каханай Казінца была Лёля Равенская — дачка кампазітара Міколы Равенскага, аўтара беларускага духоўнага гімна «Магутны Божа». «Гебелеў умеў некалькі разоў на дзень прабірацца ў горад, яго можна было ўбачыць усюды... Ён упэўнена ішоў да калючага дроту, якім быў абвязаны раён гета. Я ўбачыў, як ён дастаў з кішэні кусачкі і прарэзаў імі праход у дроце, агледзеўшыся па баках, увайшоў у дом. Гебель зрабіў на мяне вялікае ўражанне сваёй адвагай», — успамінае яго паплечнік. «У гета ў таты загінулі 16 родных, у тым ліку і яго бацька Лейба. Прытым што Міхаіл Гебелеў мог бы, валодаючы дакументамі, выратаваць родных... Але ён думаў пра выратаванне баяздольных людзей», — разважае дачка Гебелева Святлана.
І Гебелева, і Казінца выкрылі і павесілі ў 1942 годзе. Іх геройства знайшло прызнанне толькі ў 1960-я, бо ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі пра яўрэяў у супраціве гаварыць было непажадана.


**Ад габрэйскіх могілак** савецкія ўлады не пакінулі амаль нічога. Але іх тэрыторыю не забудавалі. І сквер на месцы могілак і гета мог бы стаць Паркам памяці.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО



**Мемарыяльная шыльда на вуліцы імя Міхаіла Гебелева.** Адзін з трох кіраўнікоў камуністычнага падполля ў гета, 37-гадовы Гебелеў мог бы сысці ў партызаны, але на сваё месца ў грузавіку пасадзіў іншага пабраціма. А сам застаўся. І загінуў.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

### Габрэйскія «маліны»

Мінскае гета, як і гета ў іншых гарадах, было поўнае «малінаў» — таемных схованак паміж сценамі або пад падлогай дамоў, дзе падчас акцый знішчэння людзі спрабавалі знайсці паратунак. Паступова нацысты і іх памагатыя знаходзілі іх і знішчалі.
Апошняя мінская «маліна» была зробленая печнікам Пінхасам Добіным у канцы кастрычніка 1943 года. Разам з ім тут схаваліся яшчэ 25 чалавек сваякоў і знаёмых. Невялічкае памяшканне служыла ім адначасова спальняй, сталовай, прыбіральняй і магілкамі: да вызвалення горада 3 ліпеня 1944 года дажылі толькі 13 чалавек. Гэтае месца заслугоўвае адбудовы, каб яно стала месцам паломніцтва.

актывісты спрабуюць дамагчыся для іх ахоўнага статуса, прызнання іх помнікам гісторыі мінскай габрэйскай грамады, але пакуль марна.

Уздоўж усёй гэтай вуліцы, пачынаючы ад самай Нямігі, успамін за ўспамінам: пра І з'езд расійскіх сіяністаў, які адбыўся ў двухпавярховым цагляным дамку на скрыжаванні Нямігі і Калектарнай у 1902 годзе; пра сінагогу рэфармаванага іўдаізму «Бейт Сімха» («Дом радасці») на рагу былой Габрэйскай і Рымарнай — адзіную, якая прынцыпова пасялілася некалькі гадоў таму менавіта ў гэтым раёне, на першым паверсе сучаснага офіснага шматпавярховіка. І пра кіраўніка камуністычнага падполля ў гета Міхаіла Гебелева, іменем якога названая адна з перпендыкулярных Калектарнай вуліц, і пра 13 апошніх вязняў гета, якія ў жахлівых умовах здолелі пражыць 9 месяцаў у «маліне» побач з цяперашняй Гістарычнай майстэрняй на Сухой, 25. Шкада, што сам гэты дом зусім нядаўна паспелі знесці.


МІНСК СТАРЫ І НОВЫ

## Прыхаваная спадчына

Яўных знакаў былой габрэйскай прысутнасці ў горадзе вельмі мала. Большасць памятных мясцін ніяк не абазначаныя і не прыцягваюць

## Маўрытанскі стыль

Маўрытанскі стыль адсылае да архітэктуры Усходу, прычым у самым шырокім сэнсе: ад Індыі да Егіпта. Яго рысы — спічастыя вокны, вежачкі, купалы, скляпенні, што нагадваюць шатры, усходнія арнаменты і палоска ў афармленні, звівістыя ўзоры і дэкор, што імітуе каменную разьбу. Цікава, што ў Расійскай імперыі маўрытанскі стыль заўважна распаўсюдзіўся пасля расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў: вайна вайной, а мусульманскае мастацтва заваражвала.

Акрамя Харальнай сінагогі, у гэткім жа стылі была збудавана 3-я гарадская бальніца імя Клумава **(на фота зверху)**, найбольш вядомая найстарэйшым у Беларусі афтальмалагічным цэнтрам. Яўрэйская бальніца з'явілася ў Мінску ў 1828 годзе і спярша размяшчалася ў драўляных будынках старой турмы. У канцы XIX стагоддзя ўзвялі карпусы ў камені. У 1920-я гады бальніца стала называцца 1-й Савецкай, тут працавалі найлепшыя спецыялісты, у тым ліку доктар Яўген Клумаў, які надзвычай дапамог антынацысцкаму супраціву (болей пра Клумава чытайце ў артыкуле Ганны Севярынец у «Нашай гісторыі» №1/ 2019). У вайну пад выглядам тыфозных хворых бальніца ратавала яўрэйскіх дзяцей.



WIKIMEDIA COMMONS

**Харальная сінагога ў першасным выглядзе.** Пасля яна абзавядзецца пампезнымі сталінскімі калонамі і ператворыцца ў вядомы цяпер будынак Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага.



**Пакуль беларусы ладзілі вяселлі** ва ўласных хатах, яўрэі ўжо карысталіся банкетнымі заламі. У Мінску славіліся тры: «Чэрчэс-зала», «Бончыкс-зала» і «Парыж». Іх уласнікі цалкам бралі на сябе арганізацыю ўрачыстасці. Запрашалі клезмераў — вясельных музыкаў са скрыпкамі, флейтамі, талеркамі і бадхена — прафесійнага тамаду. Аплачвалі вяселлі ў складчыну ўсёй грамадой. Адна такая зала ў Мінску захавалася, гэта жоўты будынак з белай урачыстай ляпнінай па адрасе Ракаўская, 17. Зараз ён на рэстаўрацыі.

выпадковай увагі. А вельмі хацелася б бачыць тэматычны інфастэнд ля будынка былой галоўнай Харальнай сінагогі, а потым Дзяржаўнага габрэйскага тэатра (цяпер тэатр імя Максіма Горкага) на Валадарскага, 5. Ці каля былой габрэйскай бальніцы на скрыжаванні Леніна і Ульянаўскай (цяпер 3-я гарадская клінічная бальніца). Або ля былой талмуд-торы, а пазней педтэхнікума, які да 1938 года рыхтаваў кадры для шматлікіх ідышамоўных школ БССР (Віцебская, 21а)...

Дарэчы, з перабудовай бальніцы і Харальнай сінагогі горад страціў рэдкія помнікі маўрытанскага стылю ў архітэктуры, які для габрэяў XIX стагоддзя быў своеасаблівым паролем, прызнаннем блізкаўсходняга паходжання народа.

## Сімвалічная Ляхаўка

Габрэйскі сімвалізм Ляхаўкі для мяне — улюбёная, але разам з тым і балючая, бо «глухая» тэма. Гэты першы кампактны прамысловы раён Мінска мог бы лічыцца аб'ектам габрэйскай спадчыны, калі б быў належным чынам абыграны, асэнсаваны. Бо патэнцыйна ён дэманструе адразу некалькі гістарычных пластоў: пачатак індустрыяльнай рэвалюцыі ў канцы XIX стагоддзя — поле канфлікту паміж габрэйскім капіталам і пераважна габрэйскай жа працай; нядоўгі і аднабокі росквіт камуністычнай ідыш-культуры ў міжваенныя гады; габрэйскія пакуты ад Халакосту і ад сталінскіх рэпрэсій.

Часта сустракаюся з дзіўнымі аргументамі, што, маўляў, габрэйская гісторыя Ляхаўкі

## З габрэяў у савецкіх людзей

Міжваенная гісторыя мінскіх габрэяў, спробам іх часткі захаваць сваю ідэнтычнасць і палымянаму імкненню іншых зрабіцца «савецкімі габрэямі» або ўвогуле «савецкімі людзьмі» прысвечаная грунтоўная кніга амерыканскай даследчыцы Эліcы Бемпарад «Ператварэнне ў савецкіх габрэяў. Бальшавіцкі эксперымент у Мінску», якая ёсць і ў рускім перакладзе.




На падставе вялікай колькасці архіўных дакументаў Бемпарад малюе падрабязную і супярэчлівую карціну асіміляцыі, парадаксальна змяшанай з кароткім перыядам росквіту «габрэйскай пралетарскай культуры». І над тым, і над другім завісае няўмольны цень будучай Катастрофы.

Па-мастацку гэтую ўнікальную атмасферу выказаў відавочца, габрэйскі пісьменнік Мойшэ Кульбак у рамане «Зельманцы», які лічыцца адным з найлепшых габрэйскіх раманаў XX стагоддзя ва ўсім свеце і нядаўна зазнаў хвалю перакладаў на асноўныя еўрапейскія мовы.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У будынку былой габрэйскай школы цяпер рэстаран «Ракаўскі бровар»** — той самы, дзе бард Зміцер Бартосік некалі замовіў «на закусь свінячых вушэй». Звярніце на «броўкі» над вокнамі і маўрытанскія рэмінісцэнцыі ў маленькіх верхніх аконцах. Рабочыя ідуць побач на рэканструкцыю будынка яўрэйскага педтэхнікума, а раней талмуд-торы на Віцебскай, 21а.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Будынак былой хасідскай сінагогі — адзін з усяго двух у Траецкім прадмесці Мінска, які захаваўся з пачатку XIX стагоддзя.** Тыповыя для Старога Мінска «броўкі» над вокнамі і ўласцівая сінагогам сіметрыя. Цяпер у будынку — Дом прыроды.

«Менск — вясёлы, жывы горад. Тут усё яшчэ адчуваецца шарм, тыповы для прыгранічных літоўскіх яўрэйскіх гарадоў, дзе ідэі і кантрабанда, страх і беззаконне, набожнасць і ерась, сціпласць і бессаромнасць, старажытнасць і сучаснасць труцца адзін аб адно ў неахайных дамах і завулках і напаўняюць горад жыццём, рухам і надзеяй».

*Ісраэль-Іешуа Зінгер, журналіст, пра Мінск 1920-х*

▸ не мае ніякага значэння для горада, бо нібыта габрэі ў насельніцтве гэтага прадмесця былі толькі меншасцю. Але ў той жа час мала які раён горада дае такі багаты і разнастайны сімвалічны матэрыял для габрэйскай гісторыі 1890-х – 1940-х, як менавіта Ляхаўка, і пры належнай стратэгіі рэпрэзентацыі гэты аповед таксама можа быць вельмі цікавы.




BELISRAEL.INFO

Толькі як сёння мінаку на Кастрычніцкай можна здагадацца, хто будаваў заводы Ляхаўкі і хто на іх спачатку працаваў? Увогуле муралаў на вуліцы Кастрычніцкай цяпер колькі хочаш, дзякуй і беларускім, і бразільскім мастакам стрыт-арту. Вось толькі на габрэйскую тэму ▸

## Сцэнкі з паваеннага жыцця

У паваенныя дзесяцігоддзі ў Мінску яшчэ захоўваліся фрагменты мінулага разнамоўя. Яшчэ гучалі звыклыя імёны: Гітка, Ізя, Іцка, Рахіля, Шлома, Цыля, Хася, Хаім... Гуляючы па парку, можна было пачуць дыялогі на ідыш. Дажывала пакаленне беларусаў, якія ўмелі паразумецца на гэтай мове (і гэтае ўменне ў вайну ратавала ім жыццё, бо многія словы ў ідыш і нямецкай падобныя). Усе мінскія яўрэі паваеннага часу — людзі, што перажылі эвакуацыю, але страцілі ў акупаваным Мінску свае сем'і і жыццёвы ўклад. Вярнуўшыся, яны мусілі адбіваць свае дамы (часта беспаспяхова), якія ўжо занялі суседзі і чужыя людзі. А неўзабаве пасля вяртання — яшчэ і ўціск ды пагроза дэпартацыі ад сваіх жа, ад Сталіна... Пасля гэтага Мінск для іх стаў чужы. Душэўная пустэча, злосць, віна перад загіблымі гнала прэч, і як толькі стала можна, амаль усе павыязджалі. Ідыш у парку больш не пачуеш. Аскепкі той цывілізацыі захаваліся хіба ва ўспамінах.

*

— Ці быў пасля вайны антысемітызм? Не, не было, — кажа карэнная жыхарка Мінска 80-гадовая Алена Кандрашэвіч, якая ў 2000-я штотыдзень разносіла падпісчыкам у Курасоўшчыне «Нашу Ніву». А праз паўгадзіны ў размове праскоквае: — Тады ж па ўсё ў чэргах стаялі, трэба было з ночы займаць. Стаяць гадзінамі, злыя. Помню, на Людамантцы чакалі, што нешта прывязуць. Адна яўрэйка маёй маме кінула: «Ты ….., падсцілка нямецкая!» А тая ў адказ: «А вас мала немцы пастралялі!» Палаяліся так — і далей стаяць, чакаюць.

(Людамант — раён вуліцы Гвардзейская і стэлы «Мінск — горад герой». Паходжанне назвы невядомае.)

*

— У маім дзяцінстве, пасля вайны, у Мінску ўсе гаварылі па-беларуску, — згадвае жыхар вуліцы Камуністычнай (а некалі Мопраўскай) Анатоль Паўловіч. Цяпер ён пенсіянер, а ў мінулым працаваў начальнікам рэспубліканскіх майстэрань сродкаў паштовай механізацыі. У 80-я, пасля хваробы, кінуў цяжкую работу і стаў прадаваць марожанае на бульвары Шаўчэнкі. Кажа, ніколі ў жыцці не зарабляў столькі, як тады. — Памятаю, па вуліцы ездзіў рамізнік, стары яўрэй, ён на возе ездзіў, рызззё збіраў. Едзе і крычыць на ўсю вуліцу: «Бабі, анючы, анючы!..» Маўляў, бабы, анучы давайце. Узамен даваў гузікі, напарсткі, ніткі — усё такія абыходныя рэчы. Тады яўрэі добра ведалі беларускую мову, не крычалі «трапкі», крычалі «анучы». Ну, а бабы на нашай вуліцы ажыўляліся: «О, Янкель прыехаў, Янкель прыехаў!..»

*

— Прыкладна там, дзе цяпер ювелірная крама на вуліцы Крапоткіна, насупраць гістарычнага архіва, была маленькая абутковая майстэрня, — успамінае мінчанка Наталля Кісель. — У мяне ёсць маленькі сакрэт: калі еду паўз гэтае месца, пастаянна ўзнікае думка — прабачце, трохі блюзнерская: «Такі намаліў сабе месцейка стары яўрэй!» У памяці вобраз як з «Чыпаліна»: збіты домік-ларок з зялёных дошак, у ім пажылы чалавек з малатком у руках, металічнай палкай-«лапай» паміж ног і туфляй на гэтай палцы. Я не памятаю яго ўсмешку.

Прыносіла абутак і моўчкі падавала. Мама мне, канечне ж, тлумачыла, што трэба зрабіць, што можна, калі не дорага, а без чаго абысціся. Я павінна была растлумачыць усё гэта майстру — але не магла! Я чамусьці побач з ім проста дранцвела, баялася гэтага суровага працавітага чалавечка ў вялікім фартуху і з пастаянна бруднымі пазногцямі. Дык вось я моўчкі працягвала яму абутак і адыходзіла на крок. Шавец браў туфлю, пачынаў нешта мармытаць на незразумелай мове, потым рэзка падымаў на мяне твар: «Дык і я што... на вашу думку... я сам павінен здагадацца, што вам трэба рабіць? Што ві маўчыце?.. Дзяўчынка, што вам сказалі, што можна заплаціць?..» (Відавочна, яго родная мова быў ідыш, і іншыя мовы яму даваліся няпроста.) Я забывала ўсё, што мне наказвала мама, і моўчкі працягвала грошы. Чалавек забіраў іх, не пералічваючы, засоўваў кудысьці пад фартух, потым зноў круціў туфель у руцэ: «Ві што думаеце, што я змагу гэта хутка зрабіць?» — і зноў мармытанне на невядомай мне мове. А я, замёршы, чакаю — зараз назаве таааакі тэрмін, і мама будзе сварыцца, таму што сказала мне: «Калі да заўтра не зробяць, то не пакідай» — а я ж не змагу не пакінуць... Але ў выніку я заўсёды чула: «Дык і што ві, дзяўчынка, стаіце? Ідзіце ўжо гуляйце. І прыходзьце заўтра да 10-й раніцы». А часам і так: «О-о-о, так і дзякуй вам, дзяўчынка, і дзякуй вашай маме, што ві даяцё выжыць чалавеку, у якога мала што ёсць наогул, нават пенсіі няма. Такі я вам зраблю … — далей некалькі слоў на ідыш. — Але ві маме скажыце, што, можа, ужо практычней купіць новыя туфлі?!»

Прозвішча спадарыні Кісель сёлета многія запомнілі, бо яна вылучала сваю кандыдатуру ў прэзідэнты, праўда, не прайшла этапу збору подпісаў.

А таго няўсмешлівага яўрэйскага майстра памятаюць многія мінчукі. Кажуць, ён быў інвалід вайны, і таму ўлады дазвалялі яму такое «прадпрымальніцтва». Калі трэба было паладзіць абутак грунтоўна і хутка, ішлі да яго. Ён таксама рабіў чаравікі на платформах — для інвалідаў вайны, якія страцілі стапу, і пары рознакаліберната абутку, таксама для ветэранаў, пад індывідуальныя замовы.

Падрыхтавала **Паўліна Скурко**, цытаты ўзятыя з размоў для праекта «Старая Старажоўка»

няма ніводнага. Толькі адна выпадковая цытата з «Пацалунка» Шагала.

А мне вельмі хацелася б убачыць на муралах Ляхаўкі, напрыклад, герояў славутага рамана Мойшэ Кульбака «Зельманцы», асабліва гарбароў — колішніх саматужнікаў, а потым працаўнікоў гарбарнага завода «Бальшавік». І самога патрыярха, Рэб Зэлмэлэ, і яго ных сыноў, і іх літаратурнага бацьку Кульбака.

Увогуле, той факт, што Мінск да вайны заставаўся своеасаблівай сталіцай савецкага ідышкайту, самым буйным асяродкам мовы ідыш сярод ужо моцна асіміляваных савецкіх габрэяў, са своеасаблівымі (пралетарскімі звонку і дробнабуржуазнымі ўнутры) адукацыяй, культурай і мастацтвам, заслугоўвае годнай раскруткі і ў даведніках, і ў візуальнай прасторы горада, і ў цэлым — у меседжы, які горад пасылае свету.

**Прадмесці**

Трошкі болей яўных слядоў былой прысутнасці — у Ракаўскім прадмесці, некалі ці не суцэльна габрэйскім. Некалькі мемарыяльных дошак на будынках былых сінагог, вясельнай залы — і някепскія інфармацыйныя стэнды ў двары «Гандлёвага дома на Нямізе».

А вось месца на колішнім Ніжнім рынку, дзе да сярэдзіны 1960-х стаяў самы стары мураваны будынак Мінска, Халодная сінагога 1570-х, абазначанае цяпер толькі «Бургер Кінгам». Амаль немагчыма здагадацца, што адсюль на цэлы квартал угару некалі прасціраўся мінскі сінагагальны двор — вялікая «калонія» з амаль 20 сінагогаў. Калі ўзняцца вышэй па прыступках да скрыжавання з Інтэрнацыянальнай, то на інфармацыйным стэндзе можна ўбачыць рэпрадукцыю карціны Мая Данцыга «Мой горад старажытны і малады». На арыгінале Халодная сінагога стаіць усутыч да ўжо пабудаванай высоткі «Белпрампраекта», што, дарэчы, было праявай грамадзянскай пазіцыі мастака, бо на момант напісання твора (1972 год) сінагогі ўжо не існавала. На інфастэндзе ж край карціны з сінагогай акуратна абрэзаны, нібыта каб не нагадваць пра яе лішні раз.



WIKIMEDIA COMMONS

**«Партрэт старога газетчыка»** (1927) Янкеля Кругера з экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея. У апошняе дзесяцігоддзе мастак хаваўся ад рэпрэсій за партрэтамі савецкіх дзеячаў і кіраўнікоў, але нават з улікам гэтага ён пакінуў значную па сёння спадчыну. Асабліва цікавая серыя прац на тэму яўрэйскага жыцця.

**Янкель Кру́гер**
(1869–1940) нарадзіўся і памёр у Мінску, хоць значную частку жыцця правёў за мяжой. Ён быў самым буйным візуальным летапісцам мясцовага габрэйскага і ўвогуле гарадскога жыцця на працягу больш як паўстагоддзя. Габрэйскай тэме прысвечаныя яго карціны «Хедар», «Яўрэйскі духоўны суд», «Перапісчык Торы», «За малітвай», «Талмудыст», «Яўрэі, якія моляцца», «Каўказскі яўрэі», «Яўрэй з куфлем» і шмат іншых. Карціну «Пагром» (1905) знішчыла паліцыя як палітычную пракламацыю.
Таксама пакінуў шмат партрэтаў пісьменнікаў, паэтаў, навуковых, палітычных і грамадскіх дзеячаў Беларусі, якія адрозніваюцца інтымнасцю і дэмакратызмам вобразаў: Якуба Коласа, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі і інш.
Кругер быў і цудоўным педагогам. У яго вучыліся, у прыватнасці, Хаім Суцін, Міхаіл Станюта, Міхаіл Кікоін, Заір Азгур. І шлях у Парыж цэлай плеядзе славутых мясцовых мастакоў у пэўным сэнсе праклаў менавіта ён. Бо ў сталіцы Францыі пачаў паспяхова выстаўляцца яшчэ ў 1890-х.



НЯМЕЦКІ ФЕДЭРАЛЬНЫ АРХІЎ

Так Халодная сінагога выглядала **падчас нямецкай акупацыі, 1943 год.**



WIKIMEDIA COMMONS

**Інтэр'ер зніклай у 1960-х Халоднай сінагогі** на малюнку Янкеля Кругера (1921 год).



SVABODA.ORG

**Май Данцыг. «Мой горад старажытны і малады».** 1972 год. У ніжнім правым куце карціны намаляваная разбураная на той момант Халодная сінагога.

Тэму можа працягнуць велічны гмах Оперы, спраектаваны Іосіфам Лангбардам, калі яшчэ прыгадаць, якой нацыянальнасці была добрая палова даваеннай трупы. Габрэйскіх матываў у архітэктурнай, культурнай, гістарычнай спадчыне Мінска вельмі шмат. Але каб пачуць іх, трэба пільна прыслухоўвацца да ледзь-ледзь чутных, глухіх галасоў, якія гавораць на незразумелай нам мове. ◆

Мінск — горад многіх культур. Мінск патэнцыйна мог бы стаць адным з топавых габрэйскіх турыстычных цэнтраў Еўропы, калі б над гэтым праектам папрацаваць усур'ёз.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Новая сінагога Хабада (адзін з кірункаў хасідызму) на вуліцы Крапоткіна — са старой брамкай.**


THE LEONID NEVZLIN CENTER FOR RUSSIAN AND EAST EUROPEAN JEWRY

**Мінск, у сінагозе.**
Здымак зроблены Давідам Дашэўскім у 1988 годзе.

## Адзіная ў БССР

У цяперашнім Мінску тры сінагогі. З іх самая старая — на Крапоткіна, 22. Гэта сінагога была адзінай на ўсю познесавецкую БССР. Яўрэі пабудавалі тут дом для рэлігійнай школы яшчэ ў 1910 годзе. У 1932-м улады адабралі яго, пасялілі тут людзей і аддзел Птушкапрама БССР. У 1970-х нейкім цудам будынак удалося выкупіць і атрымаць дазвол на адкрыццё сінагогі. Ад сінагог у Мінску ўжо паспелі адвыкнуць, таму старэйшае пакаленне баялася нават падыходзіць: «Нам гаварылі, што тут баптысты, лепей сюды не совацца», «Я ведала пра сінагогу, цікава было паглядзець, але думала, што не пусцяць». Затое мінскія дзеці не баяліся нічога: «Гэта была мясцовая славутасць. Субота — сінагога адчыненая, заходзь хто хоча. Мы зусім не ведалі, як сябе паводзіць, адно бачылі, што туды ідуць у шапцы — таму адзявалі і ішлі. Унутры было прасторна, ніякіх перагародак, невысокая столь. Збіралася дзядоў 20–30, сядзелі на лаўках і маліліся. Адзін з іх запрашаў нас унутр», — расказваў мовазнавец Зміцер Саўка. Пра старую сінагогу тут нагадвае толькі прыземістая мураваная брамка. У 2005-м стагадовы будынак знеслі і ўзвялі новы, яго праектавала Галіна Левіна, дачка Леаніда Левіна. У сінагозе на Крапоткіна збіраюцца хасіды, паслядоўнікі Любавіцкага рэбе. Хасідаў відаць здалёк, яны прытрымліваюцца строгага дрэс-коду: белая кашуля, чорныя штаны, пінжак, чорны пояс, завязаны на ўзроўні сэрца, чорны капялюш, вусы, бароды і пэйсы.

## Знакамітыя габрэі-мінчукі

**Мойшэ Тэйф** (1904–1966) — адзін з самых вядомых паэтаў на ідыш, нарадзіўся і да вайны жыў у Мінску. У Мінскім гета страціў бацькоў і маленькага сына. Верш «Кіхэлах і зэмэлах» (назвы традыцыйных гатункаў печыва), прысвечаны памяці сына, зрабіўся таксама песняй-рэквіемам па дзецях — ахвярах мінскага і ўсіх іншых гета.

**Якаў Зяльдовіч** (1914– 1987) — адзін з нямногіх габрэяў, якому ўсталяваны помнік у Мінску (на вуліцы Сурганава, непадалёк ад комплексу інстытутаў НАНБ фізічнага профілю), як тройчы Герою Сацыялістычнай Працы. Аўтар многіх навуковых адкрыццяў, лічыцца адным з бацькоў савецкіх атамнай і вадароднай бомбаў.

**Мойшэ (Мэйшэ) Кульбак** (1896–1937) —пісьменнік, драматург, перакладчык. Выхадзец са Смаргоні, моцна прывязаны да прыроднага і культурнага ландшафту Літвы і Беларусі, якія займалі цэнтральнае месца ў ягонай творчасці. У 1928 годзе перасяліўся з Вільні ў Мінск. У апошнія гады творы Кульбака **(на фота)** актыўна


WIKIMEDIA COMMONS

**Мойшэ (Мэйшэ) Кульбак.**

перакладаюцца на беларускую, у тым ліку выйшлі раманы «Зельманцы» ў перакладзе Віталя Вольскага (ёсць яшчэ і пакуль не выдадзены пераклад Андрэя Дубініна), «Панядзелак», «Месія з роду Эфраіма» ў перакладзе Сяргея Шупы.

**Леў Шапіра** (1864—1932) быў вядомым на ўвесь Мінск хірургам. Меў добрае сэрца: калі пацыент не меў грошай на лекі, то Шапіра даваў яму са свайго кашалька. Калі саветы забралі ў яго прыватную клініку на Койданаўскай (Рэвалюцыйнай), ён купіў хатку на Камароўцы і прымаў у ёй. Калі Шапіра памёр зімой 1932-га, тысячы гараджан і сотні сялян ішлі за труной да вуліцы Сухой. Яшчэ і пасля вайны пацыенты прыходзілі пакланіцца на яго магілу, кажуць старыя мінчукі.

**Май Да́нцыг** (1930–2017) — жывапісец, народны мастак Беларусі. Тэматычныя карціны і пейзажы прысвечаныя паваеннаму «сацыялістычнаму будаўніцтву», але бачнае імкненне надаць ім чалавечае аблічча. Прагладаецца часам у творчасці і прыхаваная дэкларацыя вернасці этнічнаму паходжанню.

**Леанід Левін** (1936–2014) — архітэктар, старшыня Саюза беларускіх габрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын з 1991 па 2014 гады. Адзін з галоўных аўтараў мемарыяльнага комплексу «Хатынь», а таксама дзясяткаў іншых помнікаў і мемарыялаў беларускім і габрэйскім ахвярам нацысцкага тэрору. У тым ліку ён аўтар сучаснага мемарыяльнага комплексу ахвярам Халакосту «Яма» (2000) на тэрыторыі былога Мінскага гета.

### У Менску 1920-х гадоў...

… вучням-яўрэям дазваляλі не хадзіць у школу па суботах або хадзіць, але не вучыцца. Бо шабат. Пятнічным вечарам мінскія рабіны хадзілі па вуліцах, абвяшчаючы пра надыход Шабату і зазываючы ў сінагогі. У іншых гарадах дзівіліся, што такое можа быць. Але такая была норма. У Мінску 1920-х хадзілі і ў сінагогу, і на партыйныя сходы.

… кожны гаварыў па-свойму. Ідыш быў адной з чатырох дзяржаўных моў, а яўрэі лічылі сябе тытульнай нацыяй, і на гэтай глебе пастаянна ўзнікалі канфлікты: «Беларуская — мова вёскі, і зусім не зразумелая гарадскім жыхарам», «Беларуская мова нікому не патрэбна. Існуе Белпедтэхнікум, няхай там яе і вывучаюць».

… не прадавалася некашэрнае мяса. Нават Чырвоная армія спажывала кашэрнае, бо большасць мінскіх мяснікоў былі іўдзеямі. У пачатку 1930-х большасць з іх арыштавалі, а самага аўтарытэтнага абвінавацілі ў згвалтаванні 12 дзяўчынак, якіх маці адпраўлялі да яго з птушкай на забой. Суд адбываўся ў былой Харальнай сінагозе, сёння гэта тэатр імя Горкага.


MINSK-OLD-NEW.COM

**Будынак Віленскага вакзала.**

## Пеліканы

Міні-гід па яўрэйскіх месцах Мінска зрабіў пісьменнік **Міхаіл Валодзін** у кніжцы «Мінскія гісторыйкі».

Напрыклад, ён расказвае пра лесвіцу, што спускаецца ад Аляксандраўскага сквера і помніка-танка да парку Горкага, уздоўж вуліцы Маркса. На яе месцы да вайны сталі драўляныя дамкі, у адным з якіх жыў **кампазітар Ісак Любан**. Гэта ён напісаў музыку да «Бывайце здаровы, жывіце багата», у песні сапраўды чуваць сляды яўрэйскага меласа, чаргаванне мінору і мажору. Прычым з гэтым месцам звязаная сумная гісторыя: пакуль кампазітар быў на фронце, у яго доме, з яго жонкай у акупаваным Мінску жыў першы кіраўнік сацыялістычнай Польшчы Баляслаў Берут. Ён працаваў ва ўправе, размяркоўваў прадуктовыя карткі і тайна перапраўляў прадукты партызанам. Усе героі гісторыйкі перажылі вайну, але Любан жонцы не прабачыў і да канца жыў у Маскве.



**Галубы-«пеліканы»** аздабляюць дамы №31–35, 34–38 па праспекце Незалежнасці.

SHUTTERSTOCK.COM, BY KALIAM

**Рэдкае відэа: інсцэніроўка, як Ларыса Александроўская выконвае песню Ісака Любана і Адама Русака «Бывайце здаровы, жывіце багата» перад байцамі на фронце.**



Або гісторыйка пра **Альберта Эйнштэйна**, які ледзь не прыехаў выкладаць у БДУ. Ён шукаў, куды з’ехаць ад уціску нацыстаў, ды ўсур’ёз разглядаў Мінск. Тут, па-першае, яўрэяў шанавалі настолькі, што іх мова была дзяржаўнай. А па-другое, сюды ўжо пераехаў шматгадовы асістэнт Эйнштэйна **Якаў Громер**. Па легендзе, Эйнштэйн папрасіў Громера ўладкаваць яго ў БДУ, і Громер урэшце дайшоў да кіраўніка БССР Мікалая Гікалы. Той патэлефанаваў у Крэмль, ды пачуў: «Няхай сіяніст Эйнштэйн грае на скрыпцы ў сваёй сінагозе і не лезе ў чужыя». Так будучы нобелеўскі лаўрэат паехаў не ў Беларусь, а ў Амерыку і, відаць, захаваў сваё жыццё. У 1937 годзе НКВД БССР завядзе «Справу Эйнштэйна», па якой за сувязь з замежжам асудзяць многіх тэхнароў.

Ці гісторыйка пра стваральнікаў праспекта Незалежнасці. Адзін з архітэктараў сталінскага ампіру, **Міхаіл Баршч**, ад Сталіна і пацярпеў: у час антыяўрэйскай кампаніі быў высланы з Масквы ў Мінск. «Ну, паляцелі пеліканы! — нядобра пажартаваў адзін вядомы маскоўскі дойлід, намякаючы на падабенства сваіх пацярпелых калег з насатымі птушкамі». Баршч праектаваў праспект ад Кастрычніцкай да плошчы Перамогі, калі зноў патрапіў пад раздачу — ужо пасля смерці Сталіна, за «празмернасць у аздабленні». «Вам забаранілі каланады і ляпныя вазы, дык вы што прыдумалі — пеліканаў?! Тут вам не заапарк!» — сарваўся на крык загадчык аддзела ЦК па будаўніцтве Філімонаў.

«Якіх пеліканаў?» — падумаў архітэктар і напружыўся, успомніўшы 1948 год. І раптам рассмяяўся: маёлікавыя галубы з аліўкавымі галінамі ў дзюбах на сценах дамоў насамрэч выйшлі падобнымі да экзатычных насатых птушак. Баршча перавялі з Мінска, а «пеліканы» на плошчы Перамогі засталіся.

## Чабурашка і Хатабыч — мінчукі з яўрэйскімі каранямі

Мультыплікатар Леанід Шварцман, які прыдумляў мульцікі пра Чабурашку і Кракадзіла Гену, пасяліў іх на сваёй радзіме — у Мінску. Прыгледзьцеся: дамкі ў мульціку сапраўды нагадваюць Нямігу, Верхні горад і Ракаўскае прадмесце. «Я не думаў пра Мінск, калі маляваў вуліцы і будынкі, на фоне якіх адбываюцца прыгоды Чабурашкі і Кракадзіла Гены, — кажа мастак. — Мінск з'явіўся ў мультфільмах сам, па ўласнай волі, з маёй памяці...» Шварцман з'ехаў з Мінска перад вайной паступаць у інстытут і больш не вярнуўся. Нарадзіўся ён на Ракаўскай, а ў школу хадзіў на плошчы Свабоды. У 90-я мастак напісаў серыю яркіх карцін «Стары Мінск. Успаміны дзяцінства».

А пісьменнік Лазар Лагін, стваральнік **«Старога Хатабыча»**, хоць і нарадзіўся ў Віцебску, але ў Мінску правёў дзяцінства. Тут ён захапіўся ўсходняй культурай і тут, відаць, прыдумаў вобраз джына Хатабыча. У кнігу ён змясціў безліч адсылак да свайго мінскага дзяцінства, іўдзейскага выхавання.




BELISRAEL.INFO



BELISRAEL.INFO

Так, Хатабыч расказвае, што ён дзіця арабскага Усходу, мусульманін, а ў збан яго на тры тысячагоддзі запхнуў магутны валадар Сулейман ібн Дауд. Але ж ісламу крыху болей за 14 стагоддзяў. Ні аб якім Сулеймане тры тысячы гадоў таму ніхто не чуў, затое ўсім быў вядомы мудры Саламон, сын ізраільскага цара Давіда. Або сцэна ў цырку: Хатабыч прамаўляе незразумелае «лехододзілікраскало». А гэта, аказваецца, першы радок іўдзейскага літургічнага гімна: «Лехо додзі лікрас кало» — «Ідзі, мой сябра, сустракай сваю нявесту». Так вітаюць суботу, Шабат, пятнічным вечарам. А 13 валасінак з барады Хатабыча? 13 — шчаслівы лік у яўрэйскай культуры.

Нашто пісьменніку-камуністу патрабаваліся ўсе гэтыя небяспечныя шыфры? У рознанацыянальнай Маскве, дзе ён пісаў «Хатабыча», не гучалі ні ідыш, ні іўрыт, і ён вельмі сумаваў па роднай культуры. Яўрэйскія коды былі яго сувяззю з мінулым, праз іх прамаўляла яго мінскае дзяцінства.

*Паводле праекта Міхаіла Валодзіна «Мінскія гісторыйкі»*

## Іван і Іваніха

У №6/2020 «Нашай гісторыі» змешчаны цікавы артыкул доктара гісторыі Алеся Белага «Крохкія сімвалы дзяржаўнасці», дзе паведамляецца пра славутыя і найбольш важныя кубкі ў беларускай гісторыі. У сваю чаргу хацелася б дапоўніць інфармацыю аб сапежынскім кубку «Іване», які калісьці займаў сваё пачэснае месца ў ружанскай рэзідэнцыі і з якога частаваліся манархі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.

Дакладнае месца і час вырабу каштоўнага сасуда, на жаль, невядомыя, аднак вядомы яго першы «выхад у свет» — першая палова XVI стагоддзя. Паводле крыніцаў сапежынскага архіва, кубак упершыню быў паказаны на свецкім прыёме караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога (1467–1548) падляшскім ваяводам Іванам Сапегам (памёр у 1546-м). Калі верыць тым жа дакументам, то і назву кубак атрымаў ад імя гаспадара па ініцыятыве манарха, уражанага прыгажосцю і велічнасцю пасудзіны.

Цяжка сказаць, што падштурхнула караля і князя прапанаваць менавіта такую назву. Нявызначанымі застаюцца і абставіны прыёму знанага госця Сапегамі: год, месца і прычыны візіту. Але тое, што прыём адбываўся не ў Ружанах, дакладна. Ружаны трапілі ў рукі да Сапегаў толькі ў канцы стагоддзя.

Другі кубак, пад назвай «Іваніха», сустракаецца ў дакументах значна пазней і ў апісанні манаршых візітаў не ўзгадваецца. На нашу думку, гэты кубак мог быць выраблены на замову Сапегаў чыста з практычных прычын. Справа ў тым, што другі манарх, які частаваўся з кубка ў 1644 годзе, Уладзіслаў IV Ваза, так упадабаў «Івана», што аж прывілеем вызначыў асаблівыя ўмовы яго вынасу, якія пры ўсім багацці Сапегаў былі вельмі накладнымі і не маглі вытрымлівацца пры візіце любога госця.

Такім чынам, кубак «Іваніха» мог быць бюджэтным варыянтам ушанавання госця, па статусе ніжэйшага за караля, без здрады сямейнай традыцыі. На карысць гэтага сведчыць назва, якая была адсылкай да арыгінальнай рэліквіі. У дадатак «Іваніха» была і меншай па памеры.

Іншай прычынай, па якой быў створаны другі кубак, мог быць клопат пра фамільны скарб. Неабачлівы, а можа, і нецвярозы шляхціч мог выпадкова выпусціць кубак з рук, і тады славутая каштоўнасць разбілася б ушчэнт! Канечне, Сапегі не маглі так рызыкаваць.

Пра адметныя ўмовы ўтрымання каштоўнай сталовай пары сведчыць інвентар Ружанскага палаца за 1793 год, у якім апісваецца інтэр'ер аднаго з пакояў рэзідэнцыі: «У правым канцы ад уваходу за кратамі — буфет разьбярскай работы, упрыгожаны жывапісам, у ім маюцца дзверцы з надпісам залатымі літарамі "Іван [і] Іваніха"».

Сляды кубкаў губляюцца ў першай палове XIX стагоддзя. У 1829 годзе апошні ўладар Ружанскага палаца Яўстах Каятан Сапега (1797–1860) прадае рэзідэнцыю габрэйскай сям'і фабрыкантаў Пінасаў. Багатыя зборы, у тым ліку, мажліва, і кубкі, пераносяцца ў сядзібу ў Дзярэчыне, але хутка яны будуць канфіскаваныя за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830–1831 гадоў. Магчыма, зараз яны збіраюць пыл у сховішчах Эрмітажа, а можа, так і не даехалі туды, патрапіўшы ў прыватныя калекцыі, уладальнікі якіх так ніколі і не даведаюцца, якія нацыянальныя каштоўнасці прыхаваныя ў іх руках.

**Антон Арцюх, малодшы навуковы супрацоўнік Ружанскага палацавага комплексу роду Сапегаў**

## Капішча, якое да сябе не падпусціла

Вандроўка па Сенненшчыне стала для мяне прыемнай нечаканкай. Я ўдзельнік групы #В РОЩЕ (суполка сацыяльнай сеткі «Укантакце»), што аб'ядноўвае віцебскіх энтузіястаў, якія захапляюцца пешымі паходамі. Мы ўжо не раз невялікай кампаніяй выбіраліся ў розныя тэматычныя вылазкі, а адмовіцца ад прапановы пахадзіць па Сенненшчыне я не мог у прынцыпе. Бо гэта радзіма маіх дзядулі (вёска Каўрыжкі), бабулі (вёска Казакі) і матулі (вёска Лучазарнае, колішняя Серакаротня).



Таварышы па паходзе, два спрактыкаваныя вандроўнікі Дзмітрыі — Есіпаў і Барадзін — склалі маршрут на два дні. Самым містычным пунктам праграмы аказалася вёска Расходна, дзе мы меркавалі пабачыць паганскае капішча X стагоддзя.

Расходна зблытала нам карты адразу, калі на кругавым скрыжаванні ў Сянне мы павярнулі не ў той бок. Каб не вяртацца, мы перакроілі маршрут і вырашылі пакінуць Расходна на другі дзень. Але і раніцай пратупалі ад месца начлегу больш за 6 км па шпалах, перш чым зразумелі, што зноў не набліжаемся да паганскага месца сілы, а аддаляемся ад яго.

Але, нарэшце, вось яно, патрэбнае скрыжаванне! Мы з Дзімам Есіпавым ботаў не мелі, а ў Дзімы Барадзіна яны былі, і яму выпала ісці ў набрынялае вільгаццю поле — спраўджваць, ці пашэнціла нам, што капішча апынулася зусім блізка ад дарогі. Ён ведаў галоўны арыенцір — высокі дуб, а вакол яго павінны ляжаць камяні і стаяць паганскі ідал. У відэа, якое Дзіма Барадзін глядзеў напярэдадні вандроўкі, хлопец казаў, што патрэбнае месца прыблізна за кіламетр ад вёскі.

Пакуль чакалі сябра, залезлі ў тэлефоны. Праграмка *Maps.me* паказвала 11 будынкаў у вёсцы. Заадно я крышачку павангаваў: «Вось ён вернецца і скажа, што капішча там няма, адно што падмурак дома з круглых яшчэ камянёў».

Так і было. За выняткам, што наш разведчык адшукаў не падмурак, а закінутае жытло, якое «наводзіць страх» і «чыста дэкарацыі для гульні "Сталкер"».

Павярнулі направа, мінулі калодзеж-журавель, вялікі сад... Сіні дом. І насупраць сіняя калонка. Скінулі заплечнікі і сталі азірацца: куды пагрукацца, каб запытацца дарогі?

Я абабег бліжнія хаты, пакуль хлопцы чакалі рэакцыі насельнікаў сіняга дома (праз акно без фіранак было бачна, як нейкая жанчына прыглядаецца да нас, вагаючыся, выйсці або не), — усе яны былі зачыненыя на замкі і пачалі зарастаць травой. Відавочна, гаспадары даўно не наведваліся.




**Сёння гэты камень успрымаецца як заўчасны помнік вёсцы Расходна.** Але відавочна, што ставілі яго з нейкай іншай нагоды. Магчыма, каб абазначыць спаленую ў канцы 1943 года частку вёскі. Хоць і гэтае тлумачэнне не да канца лагічнае, бо большасць дамоў тады засталася.

Урэшце, ледзь соўгаючы нагамі і абапіраючыся на кіёк, да брамкі выйшла гаспадыня сіняга дома — сталага веку жанчына ў аранжавым халаце.

— Ці чулі вы пра паганскае капішча? — запытаўся Дзіма Барадзін, перакрыкваючы малога пярэстага сабаку, што не пераставаў звягаць з часу, як мы тут з'явіліся.

— А што гэта? — жанчына дрэнна чула і нахілілася да яго бліжэй.

— Там дуб стаіць, ідал, камяні.

— Дык дуб упаў, а так вам — проста-проста да канца вёскі і налева.

— А суседзі вашы дзе? — удакладніў я.

— Дык нікога болей, апроч мяне, нямашака, — адказала бабуля.

Мы падзякавалі і пайшлі прабівацца праз вільготныя зарасці. Міжволі паўстала думка: калі мы зараз вернемся, то не пабачым той бабулі, а дом акажацца закінуты.

Метраў за дваццаць ад сіняга дома ўразіў крыж — без надпісу, проста пад вокнамі адной хаты, нібыта мясціну гэтую спрабавалі асвячаць. І аграмадныя жорны, знятыя з млына.

Стала трохі вусцішна, а сапраўдная жудасць ахапіла, калі пабачылі камень з выбітымі і пафарбаванымі залатым літарамі: «Здесь была деревня Расходно». Пад каменьчыкам з маленькім крыжыкам і галубкамі на ім ляжала пустая перакуленая пластыкавая чарка і расійскія пяцірублёвыя манеты. «Што за лухта! — мільганула ў галаве, — Хто ставіць помнік вёсцы, тым самым аб'яўляючы яе мёртвай, калі вунь адна жыхарка яшчэ жыве?! Дый аб'яўка ёсць, што аўталаўка прыязджае два разы на тыдзень».

Мы асцярожна ступалі па зямлі, абмінаючы баршчэўнік, што пачынаў ужо ўздымаць галаву, і я ўсё больш уцямліваў, што гэта насамрэч месца сілы. Адчувалася энергетыка — і не тое што яна была са знакам плюс ці мінус, хутчэй насцярожлівая, бо мы былі для яе чужынцамі.

Наўзбоч сцяжыны шамацелі дрэвы. Я, пэўна, ніколі раней не бачыў такіх — гонкіх, таўшчэзных, з раскідзістымі вершалінамі і галінамі, бы ведзьміны валасы, насычаных моцай.

Адзін малады клён перакрыў нам шлях, як шлагбаум. «Гэта нам яшчэ адзін знак: вяртайцеся, хлопцы, нічога не будзе!» — прамовіў я. Дзіма Барадзін азірнуўся, пагадзіўся... і падлез пад дрэўца, я — следам. Наступны клён, ужо стары, быў падобны на партал у іншасвет.

...І капішча нас да сябе не дапусціла, як мы ні прагнулі яго дасягнуць. Хаця знаёмая Дзімы Барадзіна патрапіла туды чыста выпадкова, блукаючы па наваколлі.

Калі вярнуліся ў Віцебск, у мяне пачала гудзець галава. Трашчалі глузды больш за суткі, без перадыху. Да таго ж тры ночы запар я адсніў шалёныя сны.

У тонус я збольшага вярнуўся праз двое з лішнім сутак. А ў жыццё — змененым назаўжды.

Але гэта была адна з найлепшых вандровак у маім жыцці!

**Віталь Шыёнак, пісьменнік і журналіст, Віцебск**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

## «Гэта кожнаму страшная, відаць, смерць»

Прачытаў артыкул аб жахлівым вынішчэнні габрэяў на Палессі (№ 2/2020). Жудасці адбываліся па ўсёй Беларусі ў час гітлераўскай акупацыі.

Добра, што пішаце пра гэта. Трэба час ад часу напамінаць, што рабілася пры розных акупацыйных рэжымах.

**Кастусь Верабей, Фармінгдэйл, ЗША**

## Не Чырвонаармейская, а Вайсковы

Мной у артыкуле «Чаму я не стаў сувязным партызанаў?» у №6/2020 на старонцы 15 дапушчана памылка: Раман Мачульскі жыў не на Чырвонаармейскай вуліцы, а на Вайсковым завулку.

Прашу прабачэння ў рэдакцыі часопіса і чытачоў.

**Васіль Семянякоў, Мінск**

Краявід каля Нягневіч
пад Навагрудкам.

ФОТА АНДРЭЙ ДЫНЬКО

# Русь і Літва

## Дзе канчалася адна і пачыналася другая?

**Ці можна дакладна вызначыць межы паміж старажытнымі Літвой і Руссю? Што пра гэта сведчаць пісьмовыя крыніцы і археалагічныя помнікі? Піша кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч.**

### Трагедыя «на мяжы Русі і Літвы»

У адной з сярэднявечных германскіх хронік, вядомай як «Кведлінбургскія аналы», ёсць запіс пра пакутніцкую смерць місіянера Бруна з Кверфурта і 18 яго спадарожнікаў, забітых язычнікамі. Адбылося гэта 9 сакавіка 1009 года недзе «на мяжы Русі і Літвы» (*«in confinio Rusciae et Lituae»*). Гэтая дата — першая згадка пра Літву ў пісьмовых крыніцах.

Дакладнае месца, дзе адбылося тое забойства, сёння высветліць ужо немагчыма, але несумненна, што смерць Бруна прыняў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Чаму мы ў гэтым упэўненыя? Ды вельмі проста: уся тагачасная мяжа Літвы з Руссю праходзіла па нашай цяперашняй тэрыторыі. А вось дзе дакладна праходзіла тая мяжа і што ўяўлялі сабой Літва і Русь па абодва яе бакі?

### Русь і Літва ў летапісах

Стваральнік славутай «Аповесці мінулых гадоў» кіеўскі манах Нестар зафіксаваў на яе старонках уяўленні свайго часу пра тое, якія народы засялялі Усходнюю Еўропу, на якіх мовах размаўлялі і якое месца займалі ў палітычнай сістэме. Менавіта гэтая частка яго твора выглядае найбольш аб'ектыўнай: калі ў сваіх аповедах пра мінулыя стагоддзі Нестар мог моцна памыляцца, то пра сучасны яму стан рэчаў паведамляў як відавочца. У тым ліку гэта тычыцца суадносін паміж Руссю і Літвой.

Літва згадваецца ўжо ў самым першым сюжэце «Аповесці», прысвечаным рассяленню нашчадкаў біблейскага патрыярха Ноя. Ва ўяўленні адукаваных людзей таго часу еўрапейскія народы паходзілі ад малодшага Ноевага сына Яфета (Афета). Паводле Нестара, *«в Афетове же части седять русь, чюдь и вси языци: меря, мурома, весь, моръдва, заволочьская чюдь, пермь, печера, ямь, угра, литва, зимегола, корсь, летьгола, любь»*. Гэты пералік не выпадковы: у ім згрупаваныя народы, што ўваходзілі ў палітычную сістэму дзяржавы Рурыкавічаў, якая звалася Руссю.

Неўзабаве Нестар з невялікімі адрозненнямі паўтарае пералік пры апісанні лінгвістычнай сітуацыі. Спярша ён пералічвае ў складзе Русі народы са славянскімі мовамі ці дыялектамі (*«Се бо токмо словенескъ языкъ в Руси»*), між імі — палачан і дрыгавічоў. А затым пералічваюцца *«инии языци, иже дань дають Руси»*, у тым ліку і літва. Каб не пакінуць сумневу ў іх моўнай адметнасці ад славян, Нестар яшчэ раз падкрэслівае, што кожны з гэтых народаў *«свой языкъ имуще»*.

Такім чынам, Нестар стварыў класіфікацыйную схему, у якой паняцце «Русь» мела, як мы б зараз сказалі, этнапалітычны сэнс: яно ахоплівала народы славянскай моўнай групы, якія падпарадкоўваліся дынастыі кіеўскіх князёў — нашчадкаў Рурыка. Славянамоўныя народы, якімі Рурыкавічы не кіравалі — ляхі (цяперашнія палякі), чэхі і іншыя, — да Русі не адносіліся. Народы ж з неславянскімі мовамі падзяляліся на падпарадкаваных (даннікаў) Русі і іншых, незалежных ад яе.

Гэтая схема была ўспрынятая ўсімі паслядоўнікамі Нестара, якія на працягу наступных стагоддзяў пачыналі з «Аповесці мінулых гадоў» уласныя летапісы. Так было ў Наўгародскай зямлі, Галіцка-Валынскім княстве, у Залессі, якое ператварылася пазней у Вялікае Княства Маскоўскае. Урыўкамі з «Аповесці» пачынаюцца і створаныя ў другой палове XV — першай палове XVI стагоддзяў беларуска-літоўскія летапісы агульнарускай традыцыі.

### Погляд з Захаду

На Захадзе быў створаны невялікі геаграфічны трактат пад назвай «Апісанне земляў» (*«Incipiunt descriptiones terrarum»*), што захаваўся ў так званым Дублінскім рукапісе другой паловы XIII стагоддзя. Яго часта прыгадваюць у сувязі з першай згадкай Белай Русі, якая, аднак, сучаснай Беларусі не тычыцца. Але затое яе тычацца іншыя звесткі.

Аўтар «Апісання», як і пацярпелы за веру Бруна, быў у свой час місіянерам. Ён паведамляе, што непасрэдна на ўсход ад Польшчы і Прусіі, у напрамку Русі, знаходзілася Яцвязь (*Jetwesya*), у якой ён асабіста прапаведаваў веру Хрыстову. Адтуль на поўнач — зямля куршаў і варожая да хрысціянскіх місіянераў Жамойць (*Samoita*), «у якой ніколі не прапаведавалася без мяча», а на ўсход ад апошняй — сумежная з Руссю Літва (*Lectauie*). Аўтар сцвярджае, што асабіста прысутнічаў на каранацыі Міндоўга, што адбылася ў 1253 годзе.

**Нальшчаны (Нальшаны)**
гістарычная вобласць, якая неаднаразова згадваецца ў розных крыніцах XIII стагоддзя. У сярэдзіне XIII стагоддзя Нальшчаны былі асобным княствам, залежным ад вялікага князя літоўскага Міндоўга, пасля сталі правінцыяй ВКЛ. Паводле найбольш пашыранага меркавання, тэрыторыя Нальшчанаў прыблізна суадносіцца з абшарамі Аўкштайцкага і Свянцянскага ўзвышшаў, якія ў позніх беларуска-літоўскіх летапісах успамінаюцца пад назвай «Завілейская Літва». Але частка даследчыкаў выказвае і думку, што Нальшчаны маглі знаходзіцца на тэрыторыі сучаснай Латвіі.

### Літва ў вузкім і шырокім сэнсе

Цікава, што аўтар «Апісання» лічыў самастойнымі народамі не толькі літоўцаў, яцвягаў і жамойтаў, але і жыхароў ►

▸ Нальшчан (*Nalsani*). Ён адзначыў, што, у адрозненне ад жамойтаў, астатнія тры народы прыхільныя да хрысціянства, бо «ад самай калыскі ўзгадваныя хрысціянскімі карміцелькамі». А вось у больш раннім пераліку Нестара як самастойныя народы (*«языцы»*) выступаюць прусы, куршы (*корсь*) і насельнікі сучаснай Латвіі (зімігола, летыгола, любь), а Яцвязі, Жамойці і Нальшчанаў няма. У яго разуменні яны яўна паглыналіся назвай «Літва», і тлумачэннем можа быць тое, што гэтыя землі знаходзіліся ў палітычнай залежнасці ад яе.

Сапраўды, у летапісным паведамленні 1229 года выступае група «літоўскіх князёў», якія валодалі Жамойцю, Нальшчанамі, а таксама іншымі адзінкамі, вядомымі і з крыніц Лівонскага ордэна (Дайнавой, Дзевалтвой). Прытым адна група князёў, відавочна суродзічаў, названа «старэйшымі», і ў яе складзе прыгаданы будучы кароль Літвы — Міндоўг. З гэтага вынікае, што правадыры іншых адзінак падпарадкоўваліся «старэйшым», уладарам уласна Літвы ў вузкім сэнсе.

Бо была і Літва ў сэнсе шырокім: так называлася ўся тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася старэйшынства літоўскіх уладароў. Гэтаксама як і Руссю лічыліся ўсе землі, падуладныя Рурыкавічам, у той час як вакол Кіева і Чарнігава існавала Руская зямля ў вузкім сэнсе. Пазней, пры Міндоўгу і яго пераемніках, назва «Літва» такім самым чынам пашырылася на падуладныя ім рускія землі — рэшту сучаснай Беларусі.




## Курганы і паселішчы

Месцазнаходжанне і межы Літвы ў той час можна ўдакладніць з дапамогай археалагічных матэрыялаў, у першую чаргу пахавальных звычаяў. На Русі звычай спалення нябожчыкаў выйшаў з ужытку пасля прыняцця хрысціянства ў канцы X стагоддзя. Памерлых звычайна хавалі пад курганом, пазней (з XIII–XIV стагоддзяў) — у простай яме, галавой на захад. Не вітаўся ў хрысціянскім асяроддзі і звычай класці ў магілу шматлікія рэчы, асабліва зброю.

Літва ж, нягледзячы на сваю неваражасць хрысціянству, заставалася язычніцкай да канца XIV стагоддзя. Там нябожчыкаў працягвалі спальваць увесь час, пакуль практыкавалася насыпанне курганоў. Часта курганы абкладалі вянцом з вялікіх камянёў. У багатыя мужчынскія пахаванні клалі дзіды і баявыя сякеры з характэрным вузкім лязом. Вельмі адметнай рысай было пахаванне коней, якіх альбо спальвалі разам з гаспадаром, альбо клалі побач, часам у асобным кургане, няспаленымі. На Русі, як і ў іншых славянскіх краінах, такі звычай не сустракаўся.

Не так выразна, але адрозніваюцца і знаходкі на месцы колішніх паселішчаў. Своеасаблівай «візітоўкай» насельнікаў Русі з'яўляюцца прасніцы з характэрнага ружовага сланцу, які здабываўся ў радовішчах недалёка ад Кіева, пад Оўручам. Іх знаходзяць на кожным буйным археалагічным помніку. Таксама прысутнічае вялікая колькасць фрагментаў ад рознакаляровых шкляных бранзалетаў, мода на якія прыйшла з Візантыі і была пашыраная паўсюдна на Русі. У Літве ж бранзалеты былі металічнымі, сустракаюцца зусім іншыя тыпы скроневых кольцаў, зброі і г. д. Паверхню керамічнага посуду там часта наўмысна рабілі суцэльна шурпатай, хоць ужывалі і запазычаны з Русі гладкасценны посуд, выраблены на ганчарным коле.


ФОТА ВЯЧАСЛАВА НАСЕВІЧА

**Тып керамікі з шурпатай паверхняй, характэрны для старажытных балтаў.** Экспазіцыя археалагічнага музея ў літоўскім горадзе Кярнаве (Кернаў). 2003 год.

**Язычніцкая Літва пачыналася ў ваколіцах Ліды, Ашмян, азёраў Свір і Нарач**

На падставе археалагічных звестак можна ўпэўнена сцвярджаць, што тыповы для Русі набор культурных рысаў прадстаўлены ў Полацку, Тураве, Менску і іншых беларускіх гарадах, вядомых паводле рускіх летапісаў. У іх ваколіцах заўжды ёсць курганныя могільнікі са славянскімі пахавальнымі рысамі, а дзе-нідзе вывучаныя і сельскія паселішчы. Крайнімі пунктамі з'яўляюцца Горадна (Гродна), Турыйск (горад, а цяпер вёска ў Шчучынскім раёне — не так далёка ад Ліды), Новагародак (Навагрудак), Заслаўе, Браслаў.

Язычніцкая Літва пачыналася ў ваколіцах Ліды, Ашмян, азёраў Свір і Нарач. Яна цягнулася адтуль на паўночны захад, да ракі Швянтоі ў сучаснай Літоўскай Рэспубліцы. Археолагі звязваюць яе з культурай усходнелітоўскіх курганоў. На поўнач ад Горадна і Навагародка, а дзе-нідзе і ў іх ваколіцах, сустракаюцца рысы адрознай культуры, якая працягвалася ў кірунку сучасных Сувалкаў на тэрыторыі Польшчы. Там панаваў іншы пахавальны абрад: курганы даволі рана зніклі зусім, нябожчыкаў хавалі проста ў магільнай яме. Прытым яе не толькі абкладалі камянямі, а часта нават насыпалі зверху каменны насціл. Адсюль і назва — культура каменных магіл.

З арэалам каменных магіл даследчыкі звязваюць Яцвязь, іншай назвай якой лічаць Дайнаву, а з усходнелітоўскімі курганамі — Нальшчаны. А вось Літву ў вузкім сэнсе, радавую вотчыну Міндоўга, пакуль не ўдаецца пераканаўча звязаць з археалагічнымі адметнасцямі. Магчыма, яна прыходзілася якраз на памежную зону, дзе змешваліся носьбіты культур каменных магіл і курганоў.


A HUNDRED YEARS OF ARCHAEOLOGICAL DISCOVERIES IN LITHUANIA. VILNIUS, 2016.

**Каменная абкладка ўсходнелітоўскага кургана, выяўленая** літоўскімі археолагамі Яўгеніяй Буцянене і Броне Таўтавічэне падчас раскопак у 1980 годзе.

## Выразнай мяжы няма

Такім чынам, першапачатковая Літва знаходзілася па абодва бакі ад сучаснай мяжы Рэспублікі Беларусь з Літоўскай Рэспублікай. Яна ахоплівала паўднёва-ўсходнюю палову сённяшняй Літвы і паўночную ▸

частку сучаснай Гродзенскай вобласці. Прытым літоўскія рысы археалагічна прасочваюцца і ў паўднёвай частцы Гродзенскай вобласці, на паўночным захадзе Мінскай і на захадзе Віцебскай. А практычна няма іх, дарэчы, якраз на большай частцы таго пасу паміж Слонімам і Мінскам, дзе ў свой час спрабаваў лакалізаваць летапісную Літву Мікола Ермаловіч.

Паміж археалагічнымі арэаламі Русі і Літвы няма выразнай мяжы. Каменныя канструкцыі ў пахаваннях сустракаюцца і разам з тыпова славянскімі рэчамі, але пераважна на захадзе Беларусі. Далей на ўсход яны паступова знікаюць. І наадварот, пры раскопках усіх буйных паселішчаў у Літве знаходзяць сведчанні прысутнасці там выхадцаў з Русі — настолькі, што яны часам выглядаюць славянскімі анклавамі ў мясцовым асяроддзі. Прытым найбольш выразныя яны там, дзе пазней узніклі палітычныя цэнтры Літвы — Крэва, Кернаў, Вільня (падрабязней пра гэта гл. артыкул Алега Дзярновіча «Жыццё да Міндоўга: як выглядала ранняя Літва» ў № 4/2020 «Нашай гісторыі»).




**Шыферныя прасніцы з радовішчаў пад Оўручам недалёка ад Кіева** — своеасаблівая «візітоўка» насельнікаў Русі.

Гэта добра суадносіцца з паведамленнем Нестара, што на пачатку XII стагоддзя Літва знаходзілася ў данніцкай залежнасці ад Русі. На той час анклавы могуць адпавядаць апорным пунктам, праз якія рускія князі забяспечвалі збор даніны. Вызваліўшыся ад залежнасці, літоўскія князі там жа будавалі свае рэзідэнцыі, скарыстоўваючы больш высокі цывілізацыйны досвед рускіх перасяленцаў. Там жа яны размяшчалі і палонных («карміцелек»), захопленых у набегах на Русь.

Перасяляліся людзі і ў адваротным кірунку — з Літвы на Русь. Калі яцвяжскія землі пачалі трапляць пад уладу Тэўтонскага ордэна, шматлікія ўцекачы адтуль знаходзілі прытулак у рускіх княствах Панямоння. У летапісе паведамляецца, што ў 1276 годзе адзін з пераемнікаў Міндоўга, вялікі князь Трайдзень, пасяліў у ваколіцах Горадна і Слоніма нават уцекачоў з Прусіі. Сяліліся прускія палонныя і ўцекачы на беларускіх землях і пазней. Галіцка-валынскія князі ставіліся да такіх перасяленцаў непрыхільна («абы земле не падсядалі»). Таму можна сцвярджаць, што масавыя міграцыі сталі магчымымі толькі на рускіх землях, падуладных ВКЛ.

Рэшту цяперашняй Літоўскай Рэспублікі ў той час займалі археалагічныя культуры, у цэлым блізкія да ўсходнелітоўскай, але з іншымі тыпамі пахаванняў і ўпрыгожанняў. Частка з іх мае працяг на тэрыторыі сённяшняй Латвіі. З імі можна звязаць народы, неаднаразова прыгаданыя ў тагачасных рускіх і заходніх крыніцах: жамойтаў, скалваў, куршаў і земгалаў. Урэшце іх лакальныя назвы




**Характэрныя ўпрыгожанні Літвы.** Экспазіцыя археалагічнага музея ў горадзе Кярнаве. 2003 год.

былі паглынутыя шырокім, палітычным сэнсам назвы Літва — гэтак жа, як пераcталі згадвацца крывічы і дрыгавічы ў складзе Русі. Іх нашчадкамі з'яўляецца значная частка сённяшніх літоўцаў. Але да этнагенезу беларусаў ні куршы, ні жамойты адносінаў не мелі — у адрозненне ад яцвягаў, нальшчанцаў і Літвы ў вузкім сэнсе.

У летапісах ёсць шэраг згадак, якія ўдакладняюць адносіны паміж Рурыкавічамі (у тым ліку іх полацкай галіной) і літвой на працягу XI–XII стагоддзяў, адзначаюць паступовае вызваленне Літвы ад данніцкай залежнасці і ператварэнне ў самастойную палітычную сілу. А пры Міндоўгу рускія землі пачала падпарадкоўваць ужо Літва. Гэта стала пачаткам Вялікага Княства Літоўскага і Рускага — сапраўднай калыскі сучасных Беларусі і Літвы. Што было далей — заслугоўвае асобнай размовы. ◆

**Дзеці каля Слонімскай сінагогі XVII стагоддзя**, 1910 год.

WIKIMEDIA COMMONS

# Падарожжа па габрэйскай Беларусі

**Каранавірус закрыў многія межы. Але колькі ўсяго цікавага дзякуючы гэтаму можна адкрыць ва ўласнай краіне! Мы прапануем вам кароткі гід па забытай цывілізацыі — габрэйскай Беларусі. Які, вядома, не прэтэндуе на поўную ўсёахопнасць і вычарпальнасць, бо нейкія рэшткі габрэйскай прысутнасці можна пры жаданні знайсці практычна ў любым беларускім горадзе ці былым мястэчку. Пакуль жа — толькі самае цікавае ад Алеся Белага.**

### Брэст

які на ідыш называлі «Брыск», з канца XIV і да самага «Патопу» ў сярэдзіне XVII стагоддзя лічыўся нефармальнай сталіцай габрэяў усяго Вялікага Княства Літоўскага. Таму ў Брэсце — велізарны патэнцыял габрэйскага турызму, хоць пакуль што развітасць адпаведнай інфраструктуры яўна недастатковая.

Па спасылцы можна перайсці да ўнікальнага праекта ад брэсцкага тэатра «Крылы халопа» — *Brest Stories Guide*. Гэта серыя аўдыяспектакляў на тэму Халакосту, якія адначасова з'яўляюцца аўдыягідам па габрэйскім Брэсце. Пампуеце дадатак на тэлефон або адкрываеце ў браўзеры, разгортваеце мапу з зададзенымі кропкамі — і галасы акцёраў раскажуць вам рэальныя гісторыі ў тых месцах, дзе яны адбываліся, праз успаміны канкрэтных людзей. *Brest Stories Guide* — спроба адрэфлексаваць мінулае, каб яно не паўтарылася ў будучыні, паколькі на антысемітызм хварэлі не толькі нацысты, але і многія беларусы.



На жаль, шматлікія высілкі мясцовых актывістаў не змаглі ўратаваць ад чыноўніцкага вандалізму ўнікальны мясцовы квартал драўлянай забудовы 1920-х гадоў «Калонія Варбурга». З дванаццаці дамоў не засталося ніводнага, хоць прынамсі аднаму быў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Шматлікія мацэвы, знойдзеныя ў гэтым квартале, таксама насуперак абяцанням усё не становяцца асновай для музея.

Але ў горадзе невялікі грамадскі музей «Габрэі Брэста» ўсё ж ёсць (вул. Гогаля, 32). А з мінулага года працуе сінагога «Экдэш», якая існавала на гэтым месцы з канца XIX стагоддзя (вул. Савецкіх памежнікаў, 52). У савецкія часы тут быў кінатэатр, пасля будынак здаваўся пад офісы. Летась у габрэйскай супольнасці горада з'явілася магчымасць выкупіць страчаную спадчыну — праўда, для гэтага трэба было знайсці 300 тысяч долараў. Частку грошай даў прыватны мецэнат, а 130 тысяч сабралі на міжнароднай дабрачыннай пляцоўцы *charidy.com*. Асаблівасць пляцоўкі ў тым, што грошы збіраюцца толькі некалькі сутак, але кожны ахвяраваны ў гэты час долар патройваецца за кошт пляцоўкі. Такім чынам, берасцейскім габрэям давялося мабілізаваць адзінаверцаў па ўсім свеце, а таксама неабыякавых да гісторыі горада берасцейцаў. Цяпер сінагога вярнулася да вернікаў, і яны абяцаюць надаць знявечанаму савецкімі рамонтамі будынку гістарычны выгляд.



БРЭСЦКАЯ ГАЗЕТА

**Будынак сінагогі «Экдэш»** на момант выкупу габрэйскай супольнасцю ў 2019 годзе.

### Пінск

сталіца Палесся, мае каласальны турыстычны патэнцыял, у тым ліку і габрэйскі. У гэтым горадзе да Першай сусветнай вайны габрэйскае насельніцтва складала тры чвэрці насельніцтва, ад чаго Пінск часам называлі «Палескім Іерусалімам». Тут можна паказваць турыстам і дом, дзе некалі жыў першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман, ураджэнец недалёкага Моталя, і гімназію, дзе ён вучыўся, і былую пякарню, якой некалі валодалі продкі амерыканскага мільярдэра Стыва Балмера, а сёння месціцца «роднасная» ўстанова — даволі прыстойная кавярня. Апроч таго, з горадам былі звязаныя сваім паходжаннем яшчэ двое знакамітых габрэяў: прэм'ер-міністр Ізраіля Голда Мэір і лаўрэат Нобелеўскай прэміі па эканоміцы Сайман Кузнец.

Пінская габрэйская грамада — адна з самых актыўных у сучаснай Беларусі. Цэнтр яе духоўнага і грамадскага жыцця — ►



BRESTSTORIES.COM

**Гістарычны выгляд сінагогі**, які вернікі збіраюцца вярнуць.


ELIATGORDONLEVITAN.COM

**Драўляныя дамавіны на пінскіх габрэйскіх могілках.**
Пачатак XX стагоддзя.

▶ адноўленая сінагога (вул. Іркуцка-Пінскай дывізіі, 12), якая некалі належала хасідскай дынастыі Перлавых — вядомых на ўсю Усходнюю Еўропу лідараў т. зв. «каралінскіх» хасідаў, ад назвы пінскага прадмесця Каролін. Ёсць тут і беспрэцэдэнтная для Беларусі агульнаадукацыйная габрэйская школа «Бейс-Агарон» (вул. Астроўскага, д. 9а). Захавалася шмат цікавых, часам трагічных гісторый, звязаных з жыццём грамады, якія маюць дакладную лакалізацыю дзякуючы шматгадовай пошукавай дзейнасці мясцовага краязнаўцы Эдуарда Злобіна.

Напрыклад, як у красавіку 1919 года некалькі дзясяткаў мясцовых габрэйскіх актывістаў, сабраных у т. зв. Народным доме (захаваўся), польскія вайсковыя ўлады абвінавацілі ў падпольнай камуністычнай дзейнасці і расстралялі, што выклікала тады каласальны міжнародны скандал. Або як мясцовы каталіцкі святар, будучы кардынал Казімір Свёнтак, аддаў габрэям пад пахаванні частку каталіцкіх могілак, бо ў савецкіх уладаў яны атрымаць дзялянку не маглі.

Такіх сімвалічных «пунктаў» габрэйскай гісторыі на карце горада — некалькі дзясяткаў, таму на іх агляд варта зарэзерваваць нават два дні.

### Гродна

для габрэяў — гэта найперш адноўленая Харальная сінагога (вул. Вялікая Траецкая, 59а), якую часам называюць адной з найпрыгажэйшых у Еўропе, і сціплы музей габрэйскай гісторыі ў ёй.

Увогуле, у гістарычным цэнтры захавалася нямала будынкаў былых сінагог, хедэраў і іншых габрэйскіх будынкаў. Мясцовыя краязнаўцы ў апошнія гады нямала пастараліся, каб выявіць іх як мага больш, нават стварылі інтэрактыўныя карты гэтай спадчыны.

Але гораду моцна бракуе сучасных арт-аб'ектаў, якія б па-новаму асэнсоўвалі страчаны габрэйскі дух горада — каб гукі габрэйскага кларнета годна ўпляліся ў шматгалосны аркестр іншых мясцовых культур. Пакуль жа, на жаль, тут няма нават звычайных мемарыяльных дошак. Хоць з горадам звязаныя імёны мастака Льва Бакста, заснавальніка мовы эсперанта Людвіка Заменгофа, бухгалтара амерыканскай мафіі Меера Ланскі, паэта Лейба Найдуса і многіх іншых.

### Слонім

можа пахваліцца вялікай колькасцю былых габрэйскіх помнікаў, у першую чаргу


ФОТА СТАНІСЛАВА КОРШУНАВА, TUT.BY

**Выхаванец прыватнай габрэйскай школы для хлопчыкаў у Пінску.**




VETLIVA.BY

**Вялікая сінагога** ў Гародні.

Вялікай сінагогай 1642 года на рынку (вул. Першамайская, 10), якая магла б зрабіцца перлінай сярод усіх аб'ектаў такога кшталту ў Беларусі. Пра яе ў СМІ рэгулярна можна прачытаць анонсы, што вось, маўляў, ужо сёлета пачнецца аднаўленне. Аднак мінае чарговы год, і ўсё застаецца як ёсць, фактычна ў стане руіны, нават на выгляд небяспечнай для патэнцыйных наведвальнікаў.

Калісьці адно з самых вялікіх і багатых у Беларусі былое Школішча (комплекс габрэйскіх рэлігійна-асветніцкіх будынкаў) па вул. Камуністычнай сёння занятае адміністрацыйнымі і вытворчымі будынкамі. Усе яны патрабуюць рамонту, і, здаецца, толькі на адным ёсць таблічка, якая паведамляе пра былую прыналежнасць да іўдзейскай канфесіі.

На тутэйшых габрэйскіх могілках захавалася зусім мала пахаванняў, але яны даволі часта наведваюцца замежнымі гасцямі дзякуючы нядаўна адшуканым магілам заснавальніка мясцовай дынастыі цадзікаў Аўраама Вайнберга (1802–1884) і ягоных паплечнікаў.

У 1939–1941 гадах Слонім стаў месцам канцэнтрацыі габрэяў-уцекачоў з Польшчы. Падчас нацысцкай акупацыі гэта зрабіла яго адной з найбуйнейшых па колькасці ахвяраў Халакосту (каля 25 тысяч) мясцовасцяў у Беларусі. У горадзе і ваколіцах ёсць адразу некалькі помнікаў ахвярам.

Але, як і ў большасці іншых беларускіх гарадоў, габрэйская гісторыя не «счытваецца» ў гарадской тапаніміцы і візуальнай прасторы, не ўсведамляецца мясцовымі жыхарамі. Хоць было б някепска, напрыклад, каб маляўнічы завулак з рамантычнай назвай Перасaskок, які злучае рынак з цэнтральнай плошчай горада (авохці, Леніна!), быў аздоблены мураламі з выявамі славутых людзей Слоніма. Не толькі габрэйскіх, натуральна. Але сярод іх абавязкова мусілі б апынуцца і Майкл Маркс, сузаснавальнік вядомай брытанскай гандлёвай сеткі *Marks&Spencer*, і той жа Аўраам Вайнберг, і самая вядомая з гераінь паўстання ў Варшаўскім гета Цывія Любеткін — ураджэнка недалёкага Быценя.

Фрагменты колішняга габрэйскага (і не толькі) жыцця Слоніма можна пабачыць на відэа міжваеннага часу.
Гэтыя кадры горада здымаў габрэй-эмігрант Саламон Шэнберг-Левадзі. Ён выехаў са Слоніма ў XIX стагоддзі, жыў у Палесціне і ЗША.
У 1929 годзе Саламон наведаў родны горад над Шчарай і зрабіў гэтыя ўнікальныя здымкі.



Па спасылках даступныя карта «Габрэйская Гародня», створаная краязнаўцам Яўгенам Аснарэўскім, і інтэрактыўная карта «Гродзенскае гета» аўтарства Андрэя Вашкевіча і Яўгена Махнача.

### Навагрудак

для зацікаўленых габрэйскай спадчынай — гэта перадусім унікальны Музей габрэйскага супраціву (вул. Мінская, 64–66), створаны высілкамі Тамары Вяршыцкай і многіх звычайных жыхароў горада акурат у тым самым бараку, адкуль у верасні 1943 года вялікая група вязняў гета здзейсніла ўцёкі праз таемны вырыты тунэль. Паступова экспазіцыя музея разгортваецца ў сапраўдны мемарыяльны ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Майкл Маркс**, брытанскі прадпрымальнік са Слоніма, заснаваў гандлёвую марку *Marks & Spencer*.

Пра ўцёкі з Навагрудскага гета ў верасні 1943 года ў эфіры ізраільскага інтэрнэт-канала *ITON.TV* расказваюць каардынатар праекта імён музея «Яд-Вашэм» у Іерусаліме Вольга Літвак і стваральніца Музея габрэйскага супраціву ў Навагрудку Тамара Вяршыцкая.





ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Мур памяці вязняў гета ў Навагрудку.** Камяні — тыя, што загінулі. Прасветы — тыя, што вырваліся.

▸ комплекс. Адносна нядаўна быў адкрыты незвычайны помнік дзяўчынцы Міхлі Сасноўскай, які сімвалізуе трагічны лёс навагрудскіх габрэяў, а затым — сцяна памяці ў канцы былога тунэля з імёнамі тых, хто выжыў і хто загінуў пры ўцёках.

У параўнанні з «мэйнстрымнымі» музеямі Халакосту, напрыклад, у суседняй Польшчы, асаблівасць навагрудскага музея ў тым, што ён акцэнтуе ўвагу не на садысцкай разнастайнасці і метадычнасці нацысцкага знішчэння габрэяў, а на тым, як тыя гераічна і самааддана супраціўляліся гэтаму злачыннаму наканаванню.

Таму натуральным для музея з'яўляецца яго развіццё ў кірунку Налібоцкай пушчы, дзе паступова ўсё больш візуальных аб'ектаў з'яўляецца на месцы дыслакацыі славутага габрэйскага партызанскага атрада братоў Бельскіх у верасні 1943 — ліпені 1944 гадоў, г. зв. «Лясного Іерусаліма» (ваколіцы вёскі Кляцішча Стаўбцоўскага раёна).

Увогуле, Налібоцкая пушча і былыя штэтлы па яе перыметры — Навагрудак, Мір, Валожын, Іўе, Рубяжэвічы —



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Экспанаты наваградскага Музея габрэйскага супраціву**, створанага ў будынку, з якога вязні зрабілі падземны ход, каб уцячы ў лясы. З дапамогай цвікоў і відэльцаў вязні капалі гліністы грунт, а рыдлёўкамі выграбалі яго з тунэля. Тую самую рыдлёўку знайшлі пры раскопках. Цяпер яна пад шклом у экспазіцыі.




ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У музеі ў Навагрудку аднаўленыя нары, на якіх жылі і спалі вязні.** Сярод вязняў тут былі продкі буйнога амерыканскага бізнэсмена Джарэда Кушнера, зяця прэзідэнта ЗША Дональда Трампа.






ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

У былой сінагозе Міра — **люксавы гатэль «Мірскі пасад».**



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Гэтымі сцежкамі** вярталіся на кватэры вучні мірскай ешывы.




Новая з'ява — прыватныя музеі. На фота: **музей Віктара Сакеля ў Міры ў былым габрэйскім дамку.**

**Фотарэпартаж з мірскага музея Віктара Сакеля.**



ствараюць своеасаблівы комплекс, які дазваляе ўбачыць і передваенную гісторыю габрэйскай грамады, і Халакост — з зусім іншай перспектывы, чым у лагерах смерці Аўшвіц, Майданэку або Траблінцы.

## Мір

дзякуючы аднаўленаму радзівілаўскаму замку — адно з найбольш наведваных турыстамі месцаў у Беларусі. Але пры сур'ёзным падыходзе да справы амаль столькі ж турыстаў магло б завітваць сюды і «па габрэйскай лініі». Тут, бадай, найлепш у Беларусі захаваўся квартал т. зв. Школішча — комплексу будынкаў сінагог і ешывы, уключаючы «хостэл» для студэнтаў і г. д.

У будынку былой галоўнай сінагогі ад нядаўняга часу месціцца гатэль «Мірскі пасад», а на будынку славутай мірскай ешывы ўсталяваная мемарыяльная дошка. Дасведчаны экскурсавод распавядзе вам яе гісторыю: пра тое, як вучні і выкладчыкі ўратаваліся ад гібелі, атрымаўшы ад японскага консула ў Літве Ціунэ Сугіхары не зусім сапраўдныя транзітныя візы, і пра тое, што сёння ў свеце існуюць ажно 3 «Ешывы Мір» — адна ў Ізраілі і 2 у ЗША.

Таксама турысты часта наведваюць магілу перадваеннага духоўнага лідара ешывы Ерухама Левовіца на мясцовых габрэйскіх могілках — досыць занядбаных, як і ў большасці іншых былых штэтлаў.

У адной з вежаў замка музейная экспазіцыя распавядае пра гісторыю габрэйскай ▸



Габрэйскія могілкі ў Рубяжэвічах.

грамады, асабліва пра яе гібель у Халакосце. А ў прыватным музеі Віктара Сакеля пад назвай «Мірскі пасад» (2-гі зав. Кірава, 2) можна даведацца шмат цікавага пра габрэйскую даўніну мястэчка, нават патрымаўшы ў руках многія звычайныя побытавыя рэчы, якія калісьці належалі членам зніклай грамады.

## Рубяжэвічы

ў Стаўбцоўскім раёне страцілі ўсіх сваіх габрэяў, але мясцовыя жыхары як мала дзе яшчэ старанна захоўваюць памяць пра былых землякоў. Тут можна пабачыць добраўпарадкаваныя габрэйскія могілкі і прыватны музей даўняга габрэйскага побыту, створаны ў 2018 годзе настаўніцай Рамуальдай Сабалеўскай на месцы і ў прапорцыях сапраўднага дома даваенай сям'і.

А ў размешчаны непадалёк парк-музей інтэрактыўнай гісторыі **«Сула»** перавезлі і аднавілі дом-крамку рубяжэвіцкага гандляра Майсея Беразовіча, зрабіўшы яго часткай мясцовай разнастайнай экспазіцыі.

## Валожын

габрэйскі — гэта найперш будынак славутай ешывы (вул. Кірава, 2), рэлігійнай акадэміі, заснаванай Хаімам Валожынерам у 1803 годзе. Яна з перапынкамі праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны, выпусціўшы ў свет тысячы рабінаў, дзясяткі з якіх зрабіліся галоўнымі веравучыцелямі розных краін і найбуйнейшых гарадоў свету. Зрэшты, у канцы XIX —



Сапраўднае імя **Анатоля Наліваева** — Абрам Налівай. Сям'я са Шклоўшчыны пераехала ў Мінск, тут тата працаваў бондарам на піўзаводзе (сучасный «Аліварыі») — рабіў бочкі для піва. У Мінску пра яўрэйскае паходжанне Наліваевых ніхто не ведаў, так сям'я пазбегла гета. Анатоль зрабіў мноства замалёвак паваеннага Мінска: у першы час ні маляваць, ні здымаць было нельга — баяліся шпіёнаў, — але на школьніка ніхто не звяртаў увагі. Так да нас дайшлі ўнікальныя віды. Асобную серыю Наліваеў прысвяціў сінагогам Беларусі. Сёння ён вядомы як збіральнік і выканаўца старадаўняй яўрэйскай музыкі. Спяваць вучыўся ў легенды беларускай оперы Міхася Забэйды-Суміцкага. Усё жыццё Наліваеў займаўся афармленнем інтэр'ераў: столя ў тэатры імя Горкага, канцэртнай зале «Мінск», музеі Коласа, Купалы, Багдановіча — усё зрабіў ён.

**Выконвае застольную яўрэйскую песню XVI стагоддзя.**





**Валожынская ешыва.** Малюнак Анатоля Наліваева, 1967 год.

пачатку XX стагоддзяў многія выпускнікі абіралі не духоўны, а свецкі шлях, зрабіўшыся славутымі паэтамі, журналістамі, прадпрымальнікамі, палітыкамі. Пра годную рэканструкцыю будынка і стварэнне ў ім ці то музея, ці то духоўнага цэнтра размовы вядуцца дзесяцігоддзямі, але рэалістычнага бізнэс-плана дагэтуль не бачна.

У Валожыне захаваліся могілкі, дзе пахаваныя Хаім Валожынер і ягоныя сваякі, а таксама пастаўленыя аж 5 помнікаў на месцах масавага знішчэння ахвяраў Катастрофы.

На жаль, ніяк не адзначана месца на пагорку, называным да вайны «гарой Бяліка», дзе цяпер месціцца сельскагаспадарчы ліцэй (вул. Луначарскага, 2). Тут у 1891 годзе навучэнец валожынскай ешывы Хаім Нахман Бялік напісаў верш «Да птушкі», з ягога пачалася ягоная паэтычная кар'ера і гісторыя навачасная паэзіі на іўрыце.

## Іўе

адзін з нямногіх гарадоў Беларусі, дзе на цэнтральнай плошчы няма помніка Леніну. Замест яго некалькі гадоў таму тут усталявалі Манумент талерантнасці: стэлу, кожны з бакоў якой прысвечаны адной з чатырох канфесій: каталіцкай, праваслаўнай, мусульманскай і іўдзейскай. Гэтай шматкультурнасці прысвечаны і гарадскі музей (вул. 17 Верасня, 9), габрэйскі аддзел якога даволі сімпатычны і ўтульны.

Яшчэ Іўе можа пахваліцца ці не найлепшай захаванасцю тыповай архітэктуры даваеннага штэтла, унікальнай для Беларусі. Рэч у тым, што ў 1929 годзе пераважна драўлянае мястэчка было амаль цалкам знішчана вялікім пажарам, пасля якога



Адрамантаваны будынак ешывы ў Радуні.

адбудавалася ўжо мураванкамі, абсалютная большасць якіх належала габрэям. На жаль, ад былога Школішча застаўся толькі адзін сінагагальны будынак (вул. 1 Мая, 11), дзе зараз месціцца спартыўная школа.

У горадзе нарадзіўся славуты рабін Хаім-Ойзэр Гродзінскі, даваенны кіраўнік віленскай габрэйскай грамады, чыя магіла (огель) у Вільні — другая па значнасці пасля огеля Віленскага гаона Эліяху бен Шлома Залмана.



**Манумент чатыром рэлігіям Беларусі, Іўе.**

Іўе ляжыць на скрыжаванні двух тыповых шляхоў габрэйскіх экскурсій: Мінск — Валожын — Гродна і Мір — Навагрудак — Радунь, таму яго цяжка абмінуць. Трэба толькі ведаць, як яго паказваць і пра што распавядаць.

## Радунь

невялікае мястэчка ў Воранаўскім раёне, нягледзячы на значную адлегласць ад Мінска і «правінцыйнасць», — адно з найбольш наведваных габрэйскімі турыстамі месцаў у Беларусі. І гэта выключна дзякуючы асобе Меіра Пупко, вядомага пад псеўданімам Хофец Хаім — «той, хто любіць жыццё» (цытата з Псалмоў). Ён шмат гадоў узначальваў мясцовую ешыву і праславіўся сваімі кнігамі, якія даступна і паслядоўна вучылі праведнаму жыццю ў ягоных штодзённых праявах. Асабліва вядомы трактат «Пра злы язык», які заклікае старанна пазбягаць зняваг і паклёпаў нават у мізэрных дозах.

Будынак былой ешывы (вул. Савецкая, 29), у якой доўга месціўся Дом культуры, цяпер выкупілі ізраільскія інвестары. А побач з могілкамі,


ФОТА ІГАРА ГУСАКОВА, SVABODA.ORG

Графіці з Маркам Шагалам у Віцебску.

дзе захавалася магіла праведніка, пачалося будаўніцтва кашэрнага гатэля. Якое, праўда, ідзе не вельмі жвава.

### Глыбокае

магло б стаць вельмі цікавым для аматараў габрэйскай спадчыны горадам. У **Лужках** за 20 км ад горада нарадзіўся Эліэзер Бен-Егуда (1858–1922) — чалавек, які найбольш спрычыніўся да пераўтварэння старажытнага сакральнага іўрыта ў сучасную жывую мову. Ягоны бюст усталяваны тут сярод іншых на Алеі славутых землякоў, створанай у 2012 годзе.

У беларускай гісторыі Халакосту ў Глыбокага — асаблівае месца. Нацысты ў гады вайны абвясцілі яго чымсьці накшталт «горада-прытулку», распусціўшы цынічна-хлуслівыя чуткі, што любы габрэй, які паселіцца тут, можа не баяцца за сваё жыццё. Гэта дазволіла ім выманіць з навакольных лясоў і вёсак тысячы ўцекачоў, якіх усё адно чакаў такі самы лёс, як і жыхароў усіх астатніх гета, толькі з пэўнай адтэрміноўкай. Зрэшты, перад канчатковым знішчэннем гета вязні паднялі паўстанне і некаторым з іх удалося ўцячы.

### Віцебск

габрэйскі — гэта, вядома, у першую чаргу Марк Шагал і створаныя ім вобразы (гл. пра яго артыкул «Марк Шагал: у чым яго геній» у № 5/2019 «Нашай гісторыі»). У горадзе ёсць некалькі помнікаў вялікаму мастаку, ягоны дом-музей (вул. Пакроўская, 11) і арт-цэнтр (вул. Савецкая, 25).


ФОТА АНДРЭЯ ШЧАЛКУНОВА, PUNKTIR.ORG

Бюст адраджальніку іўрыта ў Глыбокім.

Але не Шагалам адзіным, бо ў Віцебску была цэлая славутая мастацкая школа. У мясцовым мастацкім музеі столькі твораў Юдэля Пэна, Саламона Юдовіна і іншых мясцовых мастакоў, што хапіла б і на некалькі экспазіцый. Шкада, што стала экспануецца толькі невялікая іх частка. А нядаўна адчыніўся і музей віцебскай мастацкай вучэльні, у сапраўдным гістарычным будынку з сімвалічным адрасам — вуліца Марка Шагала, 5а. Яго хваляць за сучасны падыход, з удалым выкарыстаннем новых мультымедыйных тэхналогій. Здаецца, гэта і ёсць «самы цымес» габрэйскай спадчыны горада, тое, што трэба ўсяляк развіваць і надалей, — ягоная ўнікальная мастацкая гісторыя, якую хацелася б убачыць увасобленай і ў сучаснай візуальнай прасторы горада.

Акрамя таго, Віцебск — адзін з нямногіх беларускіх гарадоў, які можа пахваліцца нядаўна пабудаванай зусім новай сінагогай (вул. Грыбаедава, 10). А яшчэ тут у 2017 годзе каля тэатра «Лялька» паставілі помнік «Старому Хатабычу» — персанажу дзіцячай кнігі Лазара Лагіна (гл. с. 20 гэтага нумара). Бо сам Лагін нарадзіўся ў Віцебску, хоць і пражыў тут зусім нядоўга.

### Бабруйск

часта называюць «габрэйскай сталіцай» Беларусі, хоць, па шчырасці, асаблівых гістарычных падстаў для гэтага няма. Але неяк так склалася, што ў савецкія часы масавая свядомасць інтуітыўна выбрала яго на ролю самага тыпова габрэйскага з беларускіх гарадоў. Магчыма, гэта павялося яшчэ з часоў Ільі Ільфа і Яўгенія Пятрова, якія ў «Залатым цяляці» апяялі Бабруйск як «выдатнае высокакультурнае месца», маючы на ўвазе тутэйшую, пераважна тады габрэйскую, інтэлігенцыю.


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

Каля слонімскай барочнай сінагогі і сёння, як 400 гадоў таму, шуміць кірмаш.

У гэтую жартаўлівую гульню і сёння гуляюцца многія мясцовыя жыхары, у большасці сваёй не габрэі. Сярод іх, дарэчы, і менеджары мясцовай харчовай прамысловасці: напрыклад, тут выпускаюць сланечнікавы алей пад маркай «Шалом», а мясцовая кандытарская фабрыка адзін з гатункаў славутага бабруйскага зефіру афармляе цалкам... на іўрыце. Нават сімвалу горада, сімпатычнаму Бабру, тут далі імя па бацьку — Самуілавіч.

Але сапраўдная габрэйская спадчына таксама тут ёсць.


ФОТА ВІКТАРА ШЭЙКІНА, КАМЕРЦЫЙНЫ КУР'ЕР

Фота ў музеі «Габрэйскі дворык», Бабруйск.

У цэнтры горада, асабліва на «Сацыялцы» — вуліцы Сацыялістычнай, — захавалася нямала колішніх габрэйскіх дамоў і звязаных з імі гісторый. Многія з іх сталі натхненнем для творчасці пісьменніка і кінематаграфіста Эфраіма Севелы, помнік якому нядаўна ўсталявалі ў цэнтры горада.

Мясцовая грамада даўно марыць пра тое, каб аднавіць куток старога штэтла ў аўтэнтычным габрэйскім духу, прыкладна як гэта зроблена ў кракаўскім Казімежы і дзе-нідзе яшчэ ў Польшчы. З нядаўняга часу мары пачалі часткова рэалізоўвацца: у жніўні 2019 года на рагу вуліц Чангарскай і Бахарава адкрыўся т. зв. «Габрэйскі дворык» — сквер на месцы былой «сінагогі мяснікоў», ад якой захаваліся толькі дзве сцяны. Гэта штосьці накшталт адкрытай арт-прасторы, прысвечанай эфемернай памяці пра тутэйшых габрэяў. ◆




**Фаршмак** — яшчэ адна традыцыйная габрэйская страва з селядца.

# Зэмэлах і фішбульба

## *Смакі габрэйскага Мінска*

**Якія габрэйскія стравы маглі б быць візітоўкай нашай сталіцы нароўні з беларускімі? Разважае Алесь Белы.**

Габрэі Мінска гатавалі і елі пераважна ўсё тое ж, што і іх адзінаверцы-ашкеназы па ўсёй ідышамоўнай прасторы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а асабліва габрэі-літвакі.

На піку габрэйскай прысутнасці ў нашым краі нейкія прыкметныя сімвалічныя адрозненні ў ежы паміж рознымі гарадамі і рэгіёнамі Літвы і Беларусі вылучыць цяжка. Але часам такія адрозненні праводзіліся свядома і нават даволі востра паміж стравамі літвакоў-мітнагедаў, прыхільнікаў рацыянальнай, літаральнай інтэрпрэтацыі Торы, і хасідаў, якія вызнавалі больш эмацыйны, нават экзальтаваны іўдаізм, з частымі праслаўленнямі Творцы спевамі, танцамі і г. д. Амаль пагалоўна хасідскай была ўкраінская Галіччына, таму бакі каштоўнаснага канфлікту абазначаліся як «літвакі» і «галічане». І калі першыя, напрыклад, у фаршмак не клалі нічога, апроч сечанага селядца і вараных укрутую яек, то другім абавязкова рупіла дадаць яшчэ і таркаваны кіслы зялёны яблык. Увогуле там, дзе галічане дадавалі ў стравы нешта салодкае — цукар, цынамон (карыцу), разынкі, — літвакі часта абмяжоўваліся соллю і перцам.

Многія стравы габрэі-літвакі пазычылі ў беларусаў і літоўцаў, бывала таксама наадварот. Супольнымі, з папраўкай на габрэйскія законы харчавання (кашрут), былі кішка (гл. пра яе артыкул у № 6/2019 «Нашай гісторыі»), суп крупнік, розныя кашы, стравы з гароднiны, кнышы, дранікі (яны ж — латкес, ад беларускага «аладкі»).

**Літвакі**
тэрытарыяльна-лінгвістычная падгрупа ашкеназскіх габрэяў, якая сфармавалася на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Адгэтуль паходзіць і яе назва.

Літвакі былі носьбітамі своеасаблівага паўночна-ўсходняга, ці літоўскага, дыялекта мовы ідыш. Гістарычна ён быў распаўсюджаны на тэрыторыі большай часткі сучаснай Беларусі, Літвы, Латвіі, у некаторых прылеглых раёнах сучасных Расіі і Польшчы.

Апроч уласнага дыялекта ідыш, літвакі валодалі таксама некаторымі адметнымі асаблівасцямі традыцыйнай кухні і рысаў характару. А таксама з імі звязаная своеасаблівая плынь у артадаксальным іўдаізме — **мітнагдым** (праціўнікі), узніклая ў XVIII стагоддзі ў супрацьвагу хасідызму, што ў той час актыўна пашыраўся на суседняй Украіне. Яе стваральнікам быў аўтарытэтны рабін Эліяху бен Шлома Залман, так званы Віленскі гаон (геній). Цэнтрамі пашырэння вучэння гэтай плыні былі ешывы (іўдаісцкія рэлігійныя ВНУ) у Міры, Валожыне і Панявежы.

Але пэўная частка габрэяў-літвакоў прыняла і хасідызм, які на мясцовай глебе таксама меў пэўныя адметнасці. Мясцовымі цэнтрамі хасідаў былі Любавічы (цяпер на тэрыторыі расійскай Смаленшчыны), Столін, Слонім, Койданава і інш.

Але калі мы сёння азіраемся на мінулае Мінска з нашай перспектывы, з веданнем не толькі матэрыяльных рэалій XIX–XX стагоддзяў, але і мемуарнай і мастацкай літаратуры — і габрэйскай, і «гойскай» — то некаторыя габрэйскія стравы набываюць больш сімвалічна-мінскую афарбоўку ў параўнанні з іншымі.

**Марынаваны селядзец**

Гандаль селядцамі, прыгатаванне прэсерваў з іх — даўні промысел, стагоддзямі дэ-факта габрэйская манаполія. У кожным горадзе і малым мястэчку, пачынаючы ледзь не з XV стагоддзя, абавязкова былі яткі (laткі) з селядцамі, якія трымаў мясцовы габрэй. Вось якім убачыў у сярэдзіне XIX стагоддзя этнограф Павал Шпілеўскі Нізкі рынак у старым Менску: «З чацвёртага боку “шкапікі” рынка застаўленыя бочачкамі з селядцамі і селядцовай юшкай (габрэйскім ласунком); большая частка селядцоў разрэзаная на дробныя кавалачкі, якія прадаюцца па шэлягах; каля селядцоў, на драўляных колцах, валяюцца скрылі сыру і печанай рыбы».

Можна тут прыгадаць і анекдатычны, але зусім праўдзівы выпадак з габрэйскім селядцом, які меў месца ў 1820-х гадах, але пасля пра яго ўся Мінская губерня памятала яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў. Ён знайшоў адлюстраванне нават у мастацкай літаратуры: паэме «Вечарніцы» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Лянівы і дурнаваты селянін Зміцер з Лошыцы, маёнтка графа Прушынскага, прадаўшы ў Мінску на рынку цялушку і атрымаўшы за яе пяцірублёвую асігнацыю — *сіненькую*, купіў сабе ў дарогу селядца і не знайшоў нічога лепшага, як пакласці яго ў тую самую кішэню, дзе ўжо ляжала купюра.

Па дарозе дадому Зміцер завітаў у карчму ў Серабранцы і вырашыў там абмыць удалы гешэфт. А на закуску дастаў, ясная справа, селядца, да якога тым ►




**У зборніку габрэйскіх рэцэптаў са ўсяго габрэйскага свету «Ад Мінска да Маракеша»** былая сталіца савецкага ідышкайту выглядае адным са слупоў, на якіх трымаецца гэты свет.

**Трэба:**
- 3 вялікія салёныя селядцы,
- 4 цыбуліны, нарэзаныя тонкімі скрылькамі,
- ½ шклянкі воцату,
- ¾ шклянкі вады,
- 2 чайныя лыжкі цукру,
- 4–6 зерняў духмянага перцу,
- ½ лыжкі каляндры,
- ½ лыжкі гарчыцы,
- некалькі зернят чорнага перцу,
- 2 гваздзікі,
- 2 лаўровыя лісткі,
- ¾ шклянкі густой смятаны.

Замачыце селядцоў у халоднай вадзе на ноч. Нарэжце кавалачкамі 3–4 см таўшчыні. Складзіце пластамі па чарзе з селядцоў і цыбулі ў слоік са шрубавым вечкам. Ваду, воцат, цукар і спецыі змяшайце, давядзіце да кіпення і астудзіце. Заліце селядцоў, закруціце вечка, патрасіце пасудзіну і пастаўце ў лядоўню на 24 гадзіны. Выкладзіце кавалачкі селядцоў і цыбулю на салатніцу. Развядзіце смятану невялікай колькасцю марынаду. Паліце ёй селядцоў і цыбулю. Падавайце са свежым хлебам альбо з толькі што запечаным бульбай у якасці асноўнай стравы.

часам прыліпла сіняя паперка коштам у цэлую цялушку:

Сіня да мокрага селядца прыстала
Дый між зубоў Зьмітра разам
з ім папала,
А баш як квацеркай мазгі задурэў,
Не глядзя, з селядцом бумажку
ён з'еў.
Скора звінуўся! — галоўка, хвасток
Ад селядца, баш, толькі асталіся;
Вочы працёр, рэштку павярнуў
рабром
Ад страху валасы дыбам падняліся!
Баш, ля галоўкі бумажкі кусочак
Прыліп, маўляў дубовы лісточак.

Так захапіцца працэсам харчавання можна толькі тады, калі ежа сапраўды надзвычай смачная. І як жа прыгатаваць знакавы для мінскай гісторыі ласунак? Мне падаецца, што адзін традыцыйны рэцэпт **марынаванага па-габрэйску селядца** (гл. на папярэдняй старонцы), зафіксаваны ў 1937 годзе, мог быць вядомым і значна раней. Хто ведае, можа, акурат такі або падобны смачны селядзец мог незнарок каштаваць небараку Зьмітру выручкі за цялушку. каштаваць небараку.

### Кіхэлах

Кіхэлах — гэта яечныя коржыкі, якімі вельмі любілі ласавацца дзеці. Існавала нават распаўсюджаная калыханка на ідыш, у якой мама пякла кіхэлах. А габрэйскі паэт мінскага паходжання Майсей Тэйф увёў два блізкія і па смаку, і па гучанні ласункі — кіхэлах і зэмэлах (печыва з карыцай) — у назву аднаго з самых важных сваіх вершаў, прысвечанага загінуламу ў Мінскім гета сыну.

А рэцэпт коржыкаў кіхэлах душэўна апісаны ў «Кулінарным рамане» Марата Баскіна, выхадца з усходнебеларускага Краснаполля:

«У вялікую міску мама разбівала тры яйкі і доўга ўзбівала іх відэльцам, пакуль яны не ўспеньваліся, як марская хваля, падымаючыся амаль да краёў міскі. Пасля гэтага яна сыпала ў міску дзве сталовыя лыжкі цукру, дробку солі. І вылівала ў гэтую сумесь палову шклянкі сланечнікавага алею.

— Можна, вядома, і масла. Але ад сланечнікавага алею цеста лягчэйшае і больш пухкае. Не заўсёды лепшае, што даражэйшае! — і дадавала: — Гэта не толькі коржыкаў тычыцца, але і жыцця!

Потым яна ўсё зноў узбівала відэльцам. І калі сумесь набывала аднастайнасць, усыпала ў яе праз сіта шклянку пшанічнай мукі. І пачынала асцярожна чараваць рукамі над цестам, каб яно атрымалася лёгкім і без камякоў.

Потым брала нашу самую вялікую бляху, змазвала яе дно кавалачкам масла і лыжкай раскладала цеста на блясе, размяшчаючы камячкі адзін ад аднаго недзе на адлегласці ў паўтара пальца. І кожны коржык працінала відэльцам.

— Ім расці трэба ўверх і ўшыркі і дыхаць на поўны рот, — тлумачыла мама свае фокусы.

Запоўніўшы бляху, яна ставіла яе ў печку. І літаральна праз 15—20 хвілін коржыкі, румяныя, як яснае сонейка, выцягваліся на прыпечак ахалоджвацца. Я хадзіў вакол, чакаючы, калі яны астынуць і можна будзе іх паспрабаваць з халодным малаком. Як казала бабуля, мне хацелася *іберхапун дос гарс* (перахапіць смачненькага — ідыш). І цёпленькія коржыкі былі менавіта гэтым смачненькім!»



Песню «Кіхэлах і зэмэлах» на словы Мойшэ Тэйфа ў перакладзе на рускую мову выконвае расійскі кінарэжысёр, літаратар і кампазітар Марк Разоўскі. Ён вымаўляе, дарэчы, назвы гэтых прысмакаў як «кіхэлэх і зэмэлэх», у чым няма сутнаснай памылкі, бо літаратурны стандарт мовы ідыш прадугледжвае менавіта такую форму. Але ў літвацкім дыялекце ідыш, пашыраным у Беларусі, апошні склад вымаўляўся як «лах».



SHUTTERSTOCK.COM, BY A. ZHURAVLEVA

**Габрэйскае традыцыйнае пячэнне з карыцай, зэмэлах**, дагэтуль гатуюць у Беларусі.

### Фішбульба

Ну і яшчэ адна габрэйская страва, якой славутыя літаратурныя творы міжволі надаюць рэгіянальны мінскі каларыт. Яна згадваецца ў фінале рамана Мойшэ Кульбака «Зельманцы», калі радавое гняздо трох пакаленняў сям'і герояў рамана зносяць, каб пабудаваць на гэтым месцы кандытарскую фабрыку «Камунарка»: «Стаялі камодзікі, абвязаныя вяроўкамі, бляшаныя вёдры, напханыя падушкамі, а на прыпечку ўсё яшчэ тлеў між пары галавешак зэлмэнянскі агонь, нудны агеньчык, які варыць **фішбульбу**» (пераклад Сяргея Шупы).

Тут мы ізноў сутыкаемся з літаратурнымі рэмінісцэнцыямі. Дакладней — з намёкам на славутую песню габрэйскага паэта і кампазітара Марка Варшаўскага (1848–1907) «На прыпечку» (*«Oyfn pripetchik»*), якая гучыць у доўгай сцэне пагрому ў Кракаўскім гета ў фільме «Спіс Шындлера», сімвалізуючы, як і ў Кульбака, гібель традыцыйнага габрэйскага свету.



А сама **фішбульба** — страва бедных габрэяў, якую гатавалі пераважна з адной бульбы, імітуючы смак рыбы. Варыянтаў рэцэптаў, даволі адрозных паміж сабой, існавала мноства, але ў самым распаўсюджаным варыянце гэта была проста бульба, звараная ў булёне, у якім да гэтага варылася «гефілтэ фіш» — фаршыраваны карп або шчупак. Ці яшчэ прасцей — бульба, звараная з перцам і цыбуляй.

Што ж, Мінск — далёка не апошняя ў ганарах і славе кропка на карце габрэйскага кулінарнага свету. Выдадзеная ў 2014 годзе ў ЗША кніга Жанны Гур з рэцэптамі розных габрэйскіх супольнасцяў з усяго свету нават называецца «Душэўная габрэйская кухня: ад Мінска да Маракеша». Так што наступны крок — за ўзмацненнем амбіцый Мінска стаць гэткай метраполіяй габрэйскай гастраноміі, як ён некалі быў метраполіяй савецкага ідышкайту. ◆



### Зэмэлах

Традыцыйны рэцэпт габрэйскага пясочнага пячэння з карыцай

Для цеста спатрэбіцца:
- 500 г мукі,
- 250 г масла,
- 250 г цукру,
- 2 яйкі,
- 40–50 мл малака,
- ванілін (па жаданні).

Для пасыпкі пячэння спатрэбіцца:
- 100 г цукру,
- 10 г меленай карыцы (хто не любіць карыцы ці лічыць яе нездаровай ежай, можа рабіць і без яе).

Масла крыху патрымаць у цяпле, каб яно стала мяккім, і ўзбіць разам з яйкамі — можна міксерам. Пакрысе, не перастаючы перамешваць, дадаць цукар, малако і ванілін. Апошняй дадаём муку. Гатовае цеста трэба на паўгадзіны пакласці ў лядоўню, каб яно дайшло. А тады ўзяць бляху з насцеленым пергаментам і раскатаць на ёй цеста слоем прыкладна 0,5–1 см. Раскачваць цеста можна і перад тым, як ставіць яго ў лядоўню. Хутчэй за ўсё, у вас не будзе там столькі месца, каб ахалоджваць раскачаны пласт у натуральную велічыню, але можна часова скачаць яго ў рулет, а пасля зноў распростаць. Прамавугольнік цеста на блясе засталося парэзаць вострым нажом (а найлепей нажом для піцы!) на ромбікі і пасыпаць іх змяшанай з цукрам карыцай. Выпякаем у разагрэтай да 200 градусаў духоўцы ці аэрагрылі прыкладна 15 хвілін. Пакуль пячэнне астывае, найлепш яго накрыць ручніком.



Гэта быў рэальны выпадак, з якога пацяшаліся не адно дзесяцігоддзе. **Селянін Зміцер з Лошыцы разам з габрэйскім селядцом з'еў вялікія грошы.** Ілюстрацыя да паэмы «Вечарніцы». Аўтар малюнка — Аляксандр Каршакевіч, ідэя — Алесь Белы.




# Твой лес, твая зямля, твая рэчка

**Як калісь збіралі грыбы, успамінае пісьменнік Андрэй Федарэнка.**

Наша вёска Бярозаўка — гэта Мазырскі раён Гомельскай вобласці — уся акружана лесам. Ён пачынаўся адразу за агародамі. Я практычна жыў у лесе і доўгі час не ўяўляў, што можа быць інакш, — напрыклад, калі даведваўся ад сяброў, што ім трэба ездзіць у лес веласіпедамі, машынамі.

У лес я пачаў хадзіць гадоў з трох-чатырох.

Вадзілі ў лес, паказвалі розныя грыбы бабуля, маці, старэйшы брат, сябры.

Самы далёкі лес ад нас на другім канцы вёскі, кіламетры за тры. Калі-небудзь ад няма чаго рабіць хадзіў туды і быў расчараваны, бо там усё тое ж, што і ў «блізкім» лесе, толькі мясціны чужыя. Гэта як ездзілі па рыбу на Прыпяць, кіламетраў за 10, нічога там не лавілі і шкадавалі, што лепш бы пабоўталіся ў сваёй рачулцы, дзе рукамі дакладна б налавілі карасёў, уюноў і ментузоў. Але мясцовая пагалоска, што «ў нас *бедненько*, няма ні сапраўднай рыбы, ні грыбоў, ні звяроў — усё гэта далёка водзіцца», будзе суправаджаць мяне ўсё жыццё.

У лесе я ніколі не баяўся. Страшна было, калі заблудзішся ці, як у нас казалі, замарочыцца галава. Стаіш на сцежцы, глядзіш на знаёмыя дрэвы і кусты, а не ведаеш, куды ісці. У школе вучылі, што трэба найперш вызначыць, дзе поўнач, дзе поўдзень, але гэта ніколі не памагала, бо ў такія хвіліны акурат-такі не ведаеш, дзе — на поўначы ці на поўдні — знаходзіцца сама вёска.

## Забабоны на грыбы былі такія: пажадана не трапляцца нікому на вочы

Лясы ў нас вялізныя. Таму ў нас «грыбам» лічыўся толькі белы. У іх былі назвы: параслёвік (растуць на сасновых палянах у сівым моху-лішайніку, шакаладна-чырвоная або карычневая шапка, здалёк відаць), бярозавік, верасовік, мучковік (растуць у нізкай жорсткай траве-мучцы, па-літаратурнаму — трава-ціпец), каласавік, «жоўты» або баршчавік (гэта калі грыб, як правіла, стары, перавярнуць, у яго шапка знізу жоўтая), паддубовік і г.д. А ўсё астатняе, за выключэннем зялёнак і лісічак, называлі проста казлякі.

Калі я быў малы, мне падабаліся толькі белыя. А позняй восенню, калі трава раніцамі белая ад марозіку, у халодным пяску — зялёнкі.

Я не быў рэкардсменам па зборы грыбоў. У мае абавязкі ўваходзіла набраць кожную раніцу 50–60 штук белых, я стараўся хутчэй зрабіць гэта, а потым слухаў птушак, глядзеў на неба, марудна хадзіў па сцежках у верасе і марыў, марыў.

Сушаныя белыя прадавалі бацькі, нас да іх не падпускалі, гэта была парафія дарослых. Нам заставаліся лісічкі, і не здавалі мы іх, а прадавалі на базары. Мерка — паўлітровы слоік, кошт — 25 капеек. Калі не ленавацца,

Неяк па дарозе на палігон спыніліся ў лесе, пад Яраслаўлем, каля леснічоўкі — папіць вады, і я быў сунуўся ў лес, дрымучы, яловы, зусім не падобны да нашага палескага, і нават знайшоў у траве два старыя баравікі. Тая леснічоўка, той лес увайшлі потым у аповесць «Салдат».

не саромецца, за лета можна было зарабіць ад 30 да 50 савецкіх рублёў — вялікія грошы.

У лес надзявалі сіняе ці чорнае трыко — штаны з майкай такія тады масава выпускалі бавоўняныя, — кеды, лёгкую цёмную куртку, белую кепку. У дождж — куртка балоневая з капюшонам і гумовыя чобаты. Усё было настолькі лёгкае, падагнанае, зручнае, што амаль не адчувалася на табе, а працэс апранання-абування займаў з заплюшчанымі вачамі лічаныя секунды. Мне гэта потым памагло ў войску.

Грыбы ў нас выкручвалі, потым, стоячы, абразалі, нават часта толькі абчышчалі, каб быў большы корань.

Забабоны на грыбы былі такія: пажадана не трапляцца нікому на вочы — ні па дарозе ў лес, ні ў лесе, ні з лесу. Грыбы лічыліся выключна інтымнай справаю. Я і цяпер, калі едзем кампаніяй


Андрэй Федарэнка.

у лес, адчуваю няёмкасць, нібы робіцца нешта не тое і не так.

Ніхто ніколі не труціўся ў нас грыбамі. Больш за тое, я доўга, да арміі, ні разу не бачыў, каб да каго-небудзь прыязджала хуткая, ведаў пра гэта толькі з кніг і з тэлевізара. Ды і ў вакольных вёсках калі хто-небудзь патрапляў у бальніцу, лічылася падзеяй. Так і казалі: тут Коля жыве, які ў бальніцы ляжаў.

## У вакольных вёсках калі хто-небудзь пападаў у бальніцу, лічылася падзеяй. Так і казалі: тут Коля жыве, які ў бальніцы ляжаў

Затое добра памятаю першае чарнобыльскае лета, пусты ад людзей лес, сухасць у роце, нейкую вусцішнасць, цішыню — не спявалі птушкі. І першы грыб — трохпавярховы мутант: проста на ім расце з шапкі другі, а на другім трэці. А па дарозе домоў бачыў некалькі здохлых маленькіх ▸

**«От ходзіць, пакуль нагамі за грыб не зачэпіцца»**

У нас была прыказка: «От ходзіць, пакуль нагамі за грыб не зачэпіцца». Я з такіх, я свае грыбы выходжваю. Ногі вядуць самі, а ў патрэбным месцы спыняюцца. Застаецца толькі адшукаць схаваны грыб у радыусе двух-трох метраў. Такое «адчуванне месца» было ва ўсіх маіх аднагодкаў, і гэта, канечне, геннае.

▸ вожыкаў і таксама нежывую гадзюку. Праўда, было такое толькі ў першае лета...

Матка варыла булён з маладых белых ці з першых сыраежак, запраўлены смажаным салам з цыбуляю. За тую страву, як і за сваё грыбное адзенне, я б аддаў цяпер усю рэшту жыцця — каб хоць на хвіліну ў тым часе апынуцца. Уся невыказная асалода была ў тым, што грыбы толькі з лесу, на тваіх вачах, з тваёй грады разварушана і выкапана некалькі бульбін, выцягнуты за пер'е корч цыбулі, адшчыкнуты кроп, прынесена з каморы сваё сала. Твой лес, твая зямля, твая рэчка. Гэтая блізкасць усяго самага неабходнага, бясплатнасць, даступнасць — яно, як пры любой натуральнай гаспадарцы, усяляла спакой, упэўненасць, адчуванне значнасці, давала незалежнасць ад непрадказальных уладаў.

У нашай прыгараднай вёсцы, дзе не было калгаса, а амаль усе працавалі ў блізкім горадзе, або ў аэрапорце, або на чыгунцы — па зменах (ноч працуюць, а два-тры дні дома, была магчымасць спакойна калупацца на сваёй гаспадарцы), самымі залатымі часамі былі менавіта познябрэжнеўскія, «развіты сацыялізм».

Ды і калгаснае сялянства ўздыхнула тады куды вальней у параўнанні з хрушчоўскімі і тым больш сталінскімі часамі. Дазволілі мець больш грунтоўную асабістую гаспадарку, на вёсцы паляпшалася інфраструктура, на ашчадных кніжках назапашваліся грошы, што давала нейкую ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Але, як аказалася, упэўненасць тая была мройная і падманлівая — тую вёску ўжо нішта не магло ўратаваць.

Пасля яно на вачах пачне знікаць, практычна знікне і само слова — «вёска», замененае на бязлікі «аграгарадок». ◆

Андрэй Федарэнка

# Грыбы

(Урывак аповесці «З кошыкам»)

Сапраўдную асалоду ад паходаў у лес я навучыўся атрымліваць даволі позна, пасля арміі, калі мне было ўжо за дваццаць і калі я пачаў здагадвацца, што акрамя непасрэднага, уласна жыцця ёсць шанц пражыць яшчэ адно — дадатковае; іншымі словамі, калі я пачаў спрабаваць пісаць. Дзеля гэтага патрэбна адзінота. А нішто больш не дае такой ідэальнай адзіноты, як грыбны лес.

Здавалася б, столькі перад вачыма малюнкаў, фарбаў, навізны! Кожны крок — свежае ўражанне! Па ідэі, тут проста месца ў галаве не павінна заставацца для нейкіх абстракцый, элементарна не павінна хапаць часу на іх. Аж не: у параўнанні, скажам, з рыбалкаю ў лесе ўсе рухі даведзены да аўтаматызму: ногі беспамылкова выводзяць, вочы адшукваюць, рукі падразаюць, вусны абдзьмухваюць, кошык напаўняецца, а думкі — самі па сабе, нічым не занятыя, лунаюць у якіх хочаш сферах. Вось толькі шкада, што на хаду нельга запісваць.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

На рыбалцы ці ловіцца рыба, ці нерухома стаяць паплаўкі на вадзе, асабіста ў мяне, напрыклад, нейкая прастрацыя, абсалютна бяздумнае сузіранне; як бы сам робішся адной з гэтых алешын на беразе, ці вадою, ці нават проста пачаткам або працягам бамбукавага свайго вудзільна. У адрозненне ад лесу, вада ўвогуле не мае нейкай такой пастаяннай, «духоўнай» прывязкі — яна ўвесь час цячэ, змяняецца і разам з тым паўсюль яна адна й тая ж. Рыбачыць аднолькава прыемна ў любым месцы, дзе вада і рыба.

Зусім інакш з лесам і грыбамі. У чужых краях пачуваешся неспакойна, няўтульна — наўрад ці толькі ад боязі заблудзіцца. Калі гэтая аповесць была ў чарнавіках гатова, мне спатрэбілася з'ездзіць у лес. Трэба было крыху іншымі вачыма на ўсё паглядзець, а сёе-тое і пераправерыць. Стаяў залаты верасень, цёплы, з начнымі туманамі і парнымі дожджыкамі, сама грыбная пара, якія, можа, раз на дзесяць гадоў выпадаюць. Я даехаў электрычкаю да адной станцыі, дзе ні разу раней не быў, але гэта не перашкодзіла мне набраць гадзіны за тры — да наступнай электрычкі на Мінск — поўнае вядро адборных восеньскіх маладых грыбоў, у асноўным маленькіх рыжыкаў і маслячкоў. Знайшоў і шэсць белых, моцных, прыгожых, прычым тры злепленыя разам, як бы растуць з аднаго кораня. Словам, жыві і радуйся. Але вялікай радасці якраз-такі і не было. Міжволі зноў прыгадаўся Васілеўскі: «Калі ж лес напаўняецца староннімі, наляцелымі з горада грыбнікамі, ды калі яны яшчэ гарлапаняць, раз-пораз гукаючы адзін аднаго, быццам не ў прыгарадных кусціках разбрыліся, а па глухой бяскрайняй тайзе, тут, само сабою, усё зачараванне — і лесам, і грыбамі — знікае ўмомант. Тут ужо не да любавання — патрапіўшы на грыбы, трэба рваць іх хутка і моўчкі, гледзячы навокал пільна, як ястраб: ці не тырчаць яшчэ тут паблізу, каб і іх прыбраць моўчкі і хутка».



**Я быў чужы гэтаму лесу, а ён чужы мне**

Усё так. Але ж пустым ніхто з лесу не выходзіць. Хапіла мне і грыбоў, і паветра, і сонца, і шорхання жоўтай лістоты пад нагамі. А што да гукання, дык да яго можна прывыкнуць і не звяртаць увагі, як можна пастарацца хадзіць па такіх мясцінах, дзе будзеш адчуваць сябе хоць бы ў адноснай, ілюзорнай адзіноце. Справа ў іншым, мне здаецца. Я быў чужы гэтаму лесу, а ён чужы мне. У нас не было супольнага мінулага. Нас не звязвала нічога патаемнага, нічога, калі хочаце, інтымнага, і наўрад ці калі-небудзь будзе звязваць — я нават не запомніў, пад якімі дрэвамі браў свае белыя. Якая ўжо тут радасць, так — меркантыльныя адносіны пакупніка (мяне) і гандляра (лесу).

«Можна вядро грыбоў?» — «Калі ласка, выбірайце».

Не рамантыка, а звычайная нарыхтоўка. І як жа ж, калі стаяў ужо на пероне ў чаканні электрычкі, пацягнула да сябе на радзіму, як захацелася апынуцца на сваіх запаветных мясцінах! Адкуль у нас гэтая цяга? Якая, чым больш мы робімся дарослымі, тым больш мацнее? Што гэта, як не жаданне калі не спыніць, дык хоць бы затармазіць Час? На старых, любімых, адданых нам мясцінах мы шукаем не столькі грыбоў (хаця і іх, канечне), колькі самiх сябе ранейшых. Можа быць, у нас яшчэ жыве падспудная надзея, што калі рэзка павярнуцца, дык на якую долю секунды можна будзе ўхапіць паглядам постаць хлопчыка з кошыкам — самога сябе малога, на лясной сцежцы, які аддаляецца, аддаляецца, пакуль не знікне ўжо назаўсёды.

Неяк у роднай вёсцы ў вельмі беднае на грыбы лета марна абышоў я паўлеса і з пустым кошыкам, ледзь валочачы ногі, вяртаўся дамоў. І раптам убачыў, што стаю паблізу сваёй палянкі — той самай, з якой пачыналася мая грыбная «адысея». Які ні быў стомлены, а не заглянуць на яе не змог. Хоць бы каб проста павітацца. Я ступаў, знарок не падымаючы вачэй, калі ж падняў — кошык ледзь не вываліўся з рук. Грыб! А вунь другі! А вунь трэці! Чацвёрты, пяты! Пяць здаравенных, адзін у адзін параслёвікаў павытыркалі свае вішнёвыя шапкі з зялёнага моху і падміргваюць мне. Дык гэта ў адным месцы, а калі пахадзіць яшчэ вакол?

Я не стаў іх хутчэй падразаць. Апусціўся на сухую, цёплую ігліцу.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО


SHUTTERSTOCK.COM BY FOTEMA

Пад рукой зашапацеў сівы лішайнік. Я закурыў. Гэта ж мне чатыры гадкі было тады, а цяпер — дзесяць разоў па чатыры. Буры над Зямлёю пранесліся, цэлыя грамадскія фармацыі змяніліся, мільёны людзей зніклі і мільёны нарадзіліся, самога мяне ўжо тройчы з таго свету выцягвалі — а яны растуць! А яны сядзяць сабе, бы на карціне, як ні ў чым не бывала! А яны як дарылі, так і дораць сваю ціхую радасць, нічога за гэта не патрабуючы!

Ад узрушэння, ад утомы, ад курэння нашча паплыла галава. Ды хто я? Той чатырохгадовы, які заблудзіўся і якога шукае ўся вёска? Ці васьмікласнік, сяджу тут (і сядзеў жа некалі), і душа захлынаецца ад дурнога шчасця, бо наперадзе — увесь свет, цэлае жыццё.

**А яны як дарылі, так і дораць сваю ціхую радасць, нічога за гэта не патрабуючы**

То быў момант, калі мне ўдалося двойчы ўвайсці ў адну й тую ж раку — падмануць Час. Але больш такіх «эксперыментаў» я паўтараць не адважваўся.

**Горад Радзівілаў і іх адноўлены замак.**

SHUTTERSTOCK.COM, BY LOBACHAD

# Дык дзе ж шукаць скарбы Радзівілаў?

**Сярод шматлікіх каштоўнасцяў Нясвіжскага палаца найбольшай таямніцай застаюцца 12 залатых фігур у чалавечы рост. Ці былі яны і дзе іх цяпер шукаць, разбіраецца кандыдат гістарычных навук Сяргей Рыбчонак.**

Тэма «скарбца» князёў Радзівілаў апошнім часам стала вельмі папулярнай: пра яго пішуць краязнаўцы, расказваюць экскурсаводы ў Нясвіжы і Міры, яму прысвечаны крымінальна-прыгодніцкі серыял «Сляды апосталаў» (2013). Новыя версіі пра схаваныя скарбы множацца як грыбы пасля дажджу. А што ж нам кажуць пра сляды радзівілаўскіх скарбаў архіўныя дакументы?

### Скарбец

У Радзівілаў было шмат розных багаццяў. Але сёння пад скарбцам разумеюць не проста рэчы для ўпрыгожвання замка, а вельмі каштоўныя і рарытэтныя прадметы. Фамільнае срэбра, так бы мовіць.

Ужо з XVII стагоддзя князі Радзівілы пачалі ўсведамляць сябе часткай еўрапейскай арыстакратыі, роўнай паводле статусу прынамсі курфюрстам Святой Рымскай імперыі. Садзейнічалі гэтаму шлюбы, прыкладам, дачкі Багуслава Радзівіла (гл. пра яго артыкул Кірыла Карлюка ў № 4/2018 «Нашай гісторыі») Людвікі-Караліны спачатку з Людвікам, князем брандэнбургскім, а пасля з Карлам-Філіпам Нойбургскім. Іншы Радзівіл, канцлер ВКЛ Караль Станіслаў, быў па маці пляменнікам караля Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага. Адпаведна, Радзівілы пераймалі бляск, узоры, традыцыі еўрапейскіх двароў і ўкаранялі іх у сваіх рэзідэнцыях. Менавіта тады, у 2-й палове XVII стагоддзя, у іх і нарадзілася думка пра скарбец Нясвіжскай ардынацыі, які б не быў уласнасцю нейкага асобнага князя, але, як і сама ардынацыя, пераходзіў у спадчыну наступнаму ардынату.

Тое, што да канца XVII стагоддзя ў Нясвіжы склаўся і існаваў такі скарбец, вядома дакладна, бо захаваўся яго інвентар. Там былі рэчы не толькі каштоўныя, але і збольшага сімвалічныя, значныя для славы роду. Да такіх у згаданым інвентары залічваліся шабля, падараваная каралём Жыгімонтам Аўгустам Мікалаю Радзівілу Чорнаму; меч ад імператара Максіміляна I, атрыманы разам з княскім тытулам, нададзеным роду Радзівілаў у 1518 годзе; кніга з партрэтамі ўсіх Радзівілаў і шмат іншых сямейных рэліквій, якія сведчылі пра ўплывовасць іх уладальнікаў.



Зняты на кінастудыі «Беларусьфільм» прыгодніцкі серыял «Сляды апосталаў» рэжысёра Сяргея Талыбава можна паглядзець па спасылцы.

### Залатыя апосталы. Ці срэбныя?

Згадкі пра таямнічых залатых апосталаў, якія нібыта захоўваліся ў скарбцы Радзівілаў, пачалі з'яўляцца ўжо ў XIX стагоддзі. У першапачатковых вопісах ніякіх апосталаў не было, але гэта не значыць, што іх не існавала зусім: яны маглі далучыцца да радзівілаўскай калекцыі пазней.

Адным з першых пра апосталаў напісаў пісьменнік Юльян Урсын Нямцэвіч (1758–1841). У яго мемуарах ёсць радкі, якімі ён хацеў ахарактарызаваць лад жыцця магнатаў, у прыватнасці славутага Караля Станіслава Пане Каханку: «Слаўны быў радзівілаўскі скарбец, ён утрымліваў, апроч дарагіх багатых прадметаў, 12 апосталаў у 2 стапы вышынёй (*каля 58 см*), вылітых з чыстага золата». Праўда, сам Нямцэвіч тых апосталаў ніколі не бачыў і толькі пераказаў словы нейкага прыяцеля.

Цікавыя нататкі пра Нясвіж часоў Пане Каханку пакінуў мемуарыст Амброзі Вэйля. Яны былі надрукаваныя ў віленскім часопісе «*Athenaeum*» у 1845 годзе. Вэйля амаль нічога не напісаў пра сам скарбец (не бачыў яго), а толькі ▸

адзначыў, што ў ім былі 12 апосталаў — невядома, ці то срэбных, ці то залатых.

У 1841–1844 гадах у радзівілаўскай масе (так звалася эканамічная ўстанова ардынацыі) працаваў архівістам малады літаратар Людвік Кандратовіч, больш вядомы як Уладзіслаў Сыракомля. Ён мог не толькі чуць некаторыя нядаўнія апавяданні, але і пазнаёміцца з дакументамі Нясвіжскага архіва. Свае нататкі Сыракомля перадаў сябрам для публікацыі ў кнізе «Старажытная Польшча» (1846). Там, між іншым, былі такія словы: «Іншымі часткамі замка былі ... скарбец, у якім былі складзеныя найкаштоўнейшыя прадметы і памяткі, кляйноты, каштоўныя шаблі, маршалкоўскія булавы і ляскі, срэбра, каштоўная зброя, нумізмата, макаты (*шпалеры*), дарагія каберцы (*дываны*), зэгары (*гадзіннікі*) і г. д. Меўся быць яшчэ таемны скарбец, аб якім ведаў толькі ардынат і адзін са старых слуг, абавязаны прысягай да захоўвання таямніцы. У ім, як апавядаюць, знаходзіліся між іншым: статуі 12 апосталаў, літыя з чыстага срэбра ў натуральную велічыню, і многа рэчаў з чыстага золата».

Амаль адначасова з Сыракомлем пра апосталаў згадаў і этнограф Павел Шпілеўскі: «Быў яшчэ іншы скарбец — патаемны, пра які ведалі толькі самі Радзівілы і іх давераны слуга; там, кажуць, паміж іншым, былі каласальныя выявы дванаццаці апосталаў, вылітыя з чыстага срэбра. Народ сцвярджае, што гэтыя выявы дагэтуль захоўваюцца ў зямлі, але дзе менавіта, не ведае».

Захаваліся і іншыя храналагічна пазнейшыя згадкі па тэме, якія мы тут не прыводзім. Бо ўсе гэтыя «відавочцы», як мы разумеем, ніякіх статуй апосталаў на ўласныя вочы не бачылі, а таму іх апісанні, хоць розняцца памерамі, матэрыялам і іншымі дэталямі, не з'яўляюцца гістарычнымі сведчаннямі.

Тым не менш давайце пашукаем аснову для ўсіх гэтых чутак і аповедаў.




**Шаўковы пояс Яна III Сабескага**, які ідзе ў камплекце да мяча, падараванага польскаму каралю папам рымскім у 1676 годзе. Артэфакт са скарбца Радзівілаў, цяпер захоўваецца ў Каралеўскім замку на Вавелі, у Кракаве.




**Меч Яна III Сабескага і похва да яго, 1676 год.** Радзівілы ганарыліся сваяцтвам з польскім каралём, таму захоўвалі гэтыя рэліквіі ў сваім скарбцы. Цяпер меч з похвай і пояс да іх экспануюцца на Вавелі ў Кракаве.

### Шукайце езуітаў

Апошні нясвіжскі ардынат князь Дамінік Геранім Радзівіл, пры якім скарбец разам з меркаванымі апосталамі яшчэ існаваў, нарадзіўся ў 1786 годзе. Бацька ягоны памёр у год нараджэння сына. А дзядзька, Караль Станіслаў Пане Каханку, перадапошні ардынат, пакінуў гэты свет у 1790-м. Пане Каханку адзначыўся ў гісторыі даволі марнатраўным ладам жыцця і пакінуў пляменніку шмат пазык. Да таго ж Дамінік, пакуль быў непаўналетнім, знаходзіўся пад апекай, і апекуны таксама пажывіліся за кошт ардыната. У ліпені 1804-га Дамінік стаў паўналетнім і ўступіў у правы валодання Нясвіжскай ардынацыяй і іншымі маёнткамі. На гэты час агульны кошт маёнткаў ацэньвалі ў 200 мільёнаў злотых. Запазычанасці таксама складалі значную суму — да 50 мільёнаў.

1 снежня 1808 года служэбнікі князя Дамініка пачалі рэвізію нясвіжскага скарбца. Князь хацеў зразумець, чым ён валодае



і што з гэтага можна прадаць ці пераплавіць у золата, каб паправіць становішча. Рэвізоры перагледзелі кожную рэч і старанна занатавалі ўсё, нават наяўнасць іржы на прадметах зброі. Рэвізія доўжылася 5 месяцаў.

Найбольшую цікавасць з матэрыялаў рэвізіі для нас уяўляе частка калекцыі пад назвай «Цыборыум Святога Міхала». Менавіта тут нарэшце згадваюцца апосталы: «...срэбныя дзверцы да таго ж цыборыума ў дзвюх штуках, якія раскрываюцца папалам, са срэбнай бляхі з палюдаментам і пазалочанымі кутасамі, штук — 2; **фігуры, для ўпрыгожвання тых жа дзверцаў, срэбныя, пазалочаныя**, менавіта: Хрыстос са святым Янам, схіленым на яго плячо, фігуры двух сядзячых апосталаў з пазалочанымі шатамі, двух апосталаў у фігуру па грудзі з пазалочанымі шатамі, трыма галовамі апосталаў з часткова пазалочанымі шатамі і срэбная галава Юды, усіх — 11».

Тут мусім патлумачыць, што такое цыборыум (ці цымборыум).




Малады і рамантычны палкоўнік войска Вялікага герцагства Варшаўскага **Дамінік Радзівіл.**




**Двор Нясвіжскага замка.** Аматары гісторыі мяркуюць, што недзе тут дагэтуль ляжаць радзівілаўскія каштоўнасці.

У сціслым значэнні гэта шафа, дзе захоўваецца чаша для прычасця. У шырокім сэнсе — гэта своеасаблівая канструкцыя з рознымі аздабленнямі, якая будавалася вакол галоўнага алтара. Гэта значыць, што апосталы, пра якіх гаворыцца ў дакуменце, з'яўляліся часткай дэкарацыі да дзверак цыборыума ў касцёле Святога Міхала.

Касцёл Святога Міхала месціўся за чвэрць мілі за межамі горада на гары. Яшчэ Мікалай-Крыштоф Радзівіл Сіротка збудаваў там капліцу, якую перадаў нясвіжскім езуітам. А касцёл збудаваў на месцы капліцы гетман Ян-Караль Хадкевіч. Хутка вакол яго разросся цэлы ансамбль, пакуль усё не спляжылі шведы ў 1706-м. У адбудове святыні ўзяў удзел Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька, які, у прыватнасці, у 1736 годзе прафундаваў унутранае начынне і аздабленне аднаўленага касцёла Святога Міхала. Менавіта тады, на нашу думку, на загад Рыбанькі і з яго срэбра быў зроблены ўвесь цыборыум, у тым ліку і скульптуры апосталаў.

## Апосталы ўпрыгожвалі цыборыум у касцёле Святога Міхала

У жніўні 1773-га папа рымскі ліквідаваў ордэн езуітаў. Неўзабаве пасля таго галоўны нясвіжскі езуіцкі храм пад тытулам Божага Цела пераўтварылі ў фарны (парафіяльны), калегіум — у павятовую школу, а касцёл Святога Міхала проста зачынілі. Ад'язджаючы з Нясвіжа, езуіты вярнулі ласкавым гаспадарам усе касцельныя рэчы. Такім шляхам у радзівілаўскія скарбцы

і патрапілі таямнічыя апосталы. Якія былі хоць і не з золата і не ў чалавечы рост, але ўсё ж каштоўнасцю.

## Сярод вывезенага расійскімі вайскоўцамі было шмат золата і срэбра, але статуі апосталаў наўпрост не згадваліся

### Разрабаванне скарбца

У снежні 1810-га Дамінік Радзівіл уступіў у войска Вялікага герцагства Варшаўскага (яно знаходзілася пад пратэктаратам Напалеона). Ён ахвяраваў значныя



Мы не ведаем, як выглядаў прафундаваны Радзівіламі цыборыум Святога Міхала. **Можа быць, ён нямногім саступаў па раскошы гэтаму сучаснаму?**

### Нясвіжскія скарбы

Што менавіта вывезлі з Нясвіжа расійскія войскі, пералічваў пазней у сваім данясенні Альберт Бургельскі — той самы дазорца радзівілаўскага замка, які пад пагрозай выдаў месца знаходжання скарбца:

«…Разные дорогие каменья в коллекции от давних веков собранные, брылиянты как-то в штуках обделанные и необделанные в коллекции добранные, табакерки серебряные и золотые брылиянтами осыпанные в большом количестве состоящие, также в немалом числе дорогих цен перстни, разные антики в коллекции комплектованные, дорогую заграничную порциляну и фаянс, в большом количестве серебряную и золотую монету и медали в коллекции собранные, дорогие заграничные живописи, хинские и турецкие намиоты или палатки значительной цены, рыцерские латки и щиты, такие же антики, которым свет и вояжиры не могли дать названия, серебряные антики, старинные посуды разными штуками и дорогими медалями осаженные, в разные коллекции собранные, фельдмаршальские жезлы или булавы золотом оправленные и дорогими большими осыпанные брылиянтами, знак ордена под названием чапки или шапки Святого Духа, и уборное платье к сему ордену соответственное, жемчугом осыпанное, серебро и золото в разных особенных штуках, церковное серебро и золото, а более под названием Монстранцие совсем золотое и большими высокой цены брылиянтами осыпанное, столовое серебро на несколько сот особ, разные в большом количестве шпалеры или обои серебром и золотом вытканные, много разных часов, прозументы и прибор Королевскаго престола, рыштунки или арсенал в коллекции, то есть карабели или палаши, сабли, мечи или пуиналы, в особенности же меч папы Иноцентиуша королю Собескому данный, в золото и серебро оправленные и брылиянтами осыпанные, ружья в разных коллекциях и в знатном числе, конские золотые приборы, дорогими каменьями осыпанные…».

Як бы ўпрыгожылі такія экспанаты залы сённяшняга музея ў Нясвіжскім замку!

грашовыя сумы на войска Варшаўскага герцагства, ды і сам узначаліў адзін з яго палкоў. Удзельнічаў Дамінік і ў паходзе Напалеона на Маскву, які вядома як закончыўся. Гэта і прадвызначыла лёс радзівілаўскіх маёнткаў і ардынацкага скарбца.

30 кастрычніка 1812-га ў Нясвіж увайшлі першыя рэгіменты расійскай арміі адмірала Паўла Чычагава. Пачуўшы ад мясцовых габрэяў, што Радзівілы хаваюць вялікія скарбы, уланскі палкоўнік Карл Кнорынг заявіўся ў замак, адабраў у дазорцы замка ключы, а самога яго пасадзіў у вязніцу. Даволі хутка радзівілаўскі служка, баючыся катаванняў, расказаў, якую сцяну зламаць, каб дабрацца да прыхаваных каштоўнасцяў.

Захоплены скарбец склалі на некалькі дзясяткаў брычак і звезлі. Менш каштоўныя прадметы яшчэ тры дні вытрасалі з замка жаўнеры і мясцовыя габрэі. Праз нейкі час скванны генерал Сяргей Тучкоў (падначалены Чычагава, які цалкам захапіў ініцыятыву ў рабаванні, адсунуўшы ўбок Кнорынга) са сваім корпусам зноў завярнуў у Нясвіжскі замак, пасадзіў Бургельскага за краты і загадаў марыць голадам, пакуль той не адкрые новых сховішчаў.

Але сховішчаў больш не было…

### Куды падзеўся скарбец?

Па рапарце-скарзе, які дазорца замка Альберт Бургельскі падаў 5 студзеня 1813 года, завялі крымінальную справу. Загадам фельдмаршала Міхаіла Кутузава Тучкоў быў вызвалены ад пасады і аказаўся пад следствам. Але ў выніку ў дзеяннях генерала-рабаўніка ніякіх сур'ёзных злоўжыванняў не знайшлі, і пад гэтым падпісаўся сам імператар.

Бургельскі пражыў яшчэ каля 13 гадоў. У 1822-м улады канфіскавалі ў яго куфар срэбра (відавочна з рэштkаў княжацкага), якое пералічылі па курсе на выплату радзівілаўскіх пазык. У тым жа 1822-м спадчынніца роду Радзівілаў, дачка князя Дамініка княжна Стэфанія Вітгенштэйн, таксама паспрабавала атрымаць адказы ад былога дазорцы. У снежні 1825-га Бургельскі нарэшце прадставіў радзівілаўскай масе свае дакументы, але яны Стэфанію не задаволілі, і яна выклікала былога дазорцу ў суд. Бургельскі неўзабаве памёр, а адказваць давялося яго дзецям. Справа зацягнулася да 1833-га і скончылася, падобна, безвынікова.

Пра лёс вывезеных расійскай арміяй скарбаў доўга не было яснасці. Пасля адшукаўся загад адмірала Чычагава, у якім ён распарадзіўся стаpажытныя манеты адправіць у Харкаўскі ўніверсітэт, царкоўныя рэчы — у Маскоўскі сабор, найбольшыя каштоўнасці перадаць у Міністэрства фінансаў, а астатняе прадаць.

На самай справе, калекцыю напаткаў іншы лёс. Як бачна з даклада Аўдытарыяцкага дэпартамента (гэта ўстанова займалася разглядам скаргаў), рэчы калекцыі знаходзіліся спачатку ў Мінску, потым іх даставілі ў нямецкі горад Бромберг (цяперашні польскі Быдгашч) для аўкцыёну. Потым, пасля даклада Кутузава імператару, манарх загадаў даставіць усе рэчы без выключэння міністру фінансаў.

Пазней радзівілаўскія скарбы (відавочна, з ведама імператара) размеркавалі паміж рознымі музеямі і сховішчамі Расіі. Большасць прадметаў апынулася, падобна, у Эрмітажы. Дакладна вядома, што ў пачатку XX стагоддзя Радзівілы адшукалі па друкаваных каталогах некаторыя свае рэчы ў Збройнай палаце і Румянцаўскім музеі.



**Залаты крыж у зборах Нясвіжскага замка.** Царкоўных прадметаў было нямала і ў радзівілаўскім скарбцы.

## Большасць скарбаў з Нясвіжа апынулася ў Эрмітажы

Пасля савецка-польскай вайны 1919–1921 гадоў і падпісання Рыжскай мірнай дамовы Польшчы перадалі асобныя прадметы з былога радзівілаўскага скарбца, у тым ліку меч і капялюш, падараваныя папам рымскім каралю Яну III Сабескаму. Яны захоўваюцца сёння ў калекцыях Вавельскага замка ў Кракаве. Гэта адзіныя вядомыя на сёння рэшткі «скарбца трох каралёў», як называлі сваю калекцыю самі Радзівілы.

Ёсць, праўда, гісторыкі-аматары, якія думаюць па-іншаму. Што быў яшчэ адзін скарбец, у якім былі схаваныя менавіта апосталы і іншыя самыя вялікія каштоўнасці. І што ён не адшуканы да сёння…

Але падаецца, што чычагаўскія ваякі ўсё ж забралі не толькі ўсю больш-менш каштоўную рухомасць, што мелася ў замку, але і выкапалі з зямлі згаданы таемны скарбец. А ў нясвіжскай зямлі можна сапраўды знайсці многа іншых цікавых артэфактаў. Толькі няхай лепш гэтым займаюцца прафесійныя археолагі. ◆

# Валерыян Пратасевіч, які паспеў першы

## 450 год таму пачалося стварэнне Віленскага ўніверсітэта




**Фундатарскі партрэт Валерыяна Пратасевіча** з нагоды заснавання Віленскага калегіума ў 1570 годзе.

**Тады, у другой палове XVI стагоддзя, вырашалася, хто першым арганізуе ў Вялікім Княстве Літоўскім вышэйшую адукацыю, — каталікі ці пратэстанты. Ад гэтага залежала, у якім рэчышчы будзе далей развівацца дзяржава. Першымі паспелі каталікі — з беларусам Валерыянам Пратасевічам на чале, піша Алесь Белы.**

Постаць віленскага біскупа Валерыяна Пратасевіча застаецца ў нашай гістарыяграфіі, а асабліва ў папулярнай літаратуры, крыху ў цяні. Ён не напісаў значных літаратурных або публіцыстычных твораў, якія захавалі б сваё значэнне да сёння, не праславіўся як вялікі будаўнік або рэфарматар гаспадаркі, ці тым больш як ваяр. Але галоўная заслуга ягонага жыцця — стварэнне Віленскага ўніверсітэта — настолькі значная ў нашай інтэлектуальнай гісторыі, што ў пэўнай ступені дазваляе ставіць імя Валерыяна Пратасевіча недзе побач з імёнамі Францыска Скарыны і Льва Сапегі.

### Шляхціч з Русі Белай

Валерыян Пратасевіч нарадзіўся недзе ў прамежку 1505–1510 гадоў у невялічкім радавым маёнтку Шушкава каля мястэчка Крайск (на тэрыторыі сучаснага Лагойскага раёна). Часам яго прозвішча можна сустрэць у форме Пратасевіч-Шушкоўскі. Паходжанне роду не да канца высветленае, яму прыпісваюць і літоўскія, і латгальскія карані. Але як бы там ні было спачатку, выглядае, што на момант нараджэння Валерыяна Пратасевічы былі ўжо русінамі. Прынамсі, як такога Валерыяна Пратасевіча ўспрымаюць у цяперашняй польскай і літоўскай гістарыяграфіі, і здаецца, што ён быў ім і для сучаснікаў. «А Валерыян кім быў?» — «Я казаў, што шляхцічам з Русі Белай», — так у размове з каралём Жыгімонтам III Вазам у 1592 годзе назваў яго дзяржаўны дзеяч ВКЛ Геранім (Яраш) Валовіч. Але ці сам Валерыян, ці яшчэ ягоны бацька перайшлі з праваслаўя, якое вызнавалі спачатку, у каталіцкую веру.

Невядома, дзе Валерыян Пратасевіч атрымаў добрую адукацыю і ў які момант быў высвечаны ў ксяндзы. Ёсць, аднак, звесткі, што на пачатку 1530-х па пратэкцыі жамойцкага старасты Станіслава Кезгайлы яго прынялі на службу да каралевы Боны, і хутка Пратасевіч увайшоў да яе ў давер як здольны адміністратар. У 1532–1544 гадах ён быў ужо пісарам велікакняжацкай канцылярыі і кіраваў маёнткамі Боны на тэрыторыі ВКЛ. У гэты час ён жыў галоўным чынам у Вільні, выязджаючы час ад часу на каралеўскі двор у Кракаў для справаздач.

Вернасць інтарэсам Боны ўплывала на даволі хуткую кар'еру. У 1533-м Пратасевіч стаў жамойцкім канонікам (членам рады пры епіскапскай кафедры, якая звалася капітулам), у 1537-м — віленскім канонікам, каля 1544–1545 гадоў — дэканам Віленскага капітула. А ў 1544 годзе, калі спадкаемца трона, сын Боны Жыгімонт Аўгуст пачаў




У 2018 годзе ў Бельску на Падляшшы (Польшча) па ініцыятыве мясцовай беларускай грамады паўстаў помнік Вялікаму сойму 1564 года (аўтар — народны майстар з нашага Камянца Анатоль Туркоў). **У калектыўным разным партрэце ключавых асобаў гэтай важнай падзеі прысутнічае і постаць Валерыяна Пратасевіча (у высокай біскупскай тыяры).**

кіраваць Літвой амаль самастойна, Валерыяна Пратасевіча прызначылі вялікім літоўскім пісарам і сакратаром вялікага князя. Ён адзначаўся выдатным веданнем менавіта «рускай» канцылярыі ВКЛ, корпуса яе дакументаў, разуменнем іх практычнага сэнсу і сувязі з гаспадарчым жыццём.

У дадатак да гэтых дзяржаўных абавязкаў павялічыліся і ўласна духоўныя, бо ў 1547 годзе Валерыян Пратасевіч стаў луцкім біскупам, а праз 9 год — віленскім, гэта значыць галоўным біскупам сярод усіх, якія ўвогуле былі ў ВКЛ.

### Вакол адны пратэстанты

У момант, калі Пратасевіч заняў віленскую кафедру, становішча каталіцкай рэлігіі як дзяржаўнай было пад пытаннем. Большасць парафій акурат тады перайшла пад кантроль пратэстантаў. Каталіцызм утрымліваўся толькі ў асяроддзі трох біскупскіх курый і ў некалькіх парафіях, якія знаходзіліся пад патранажам вялікага князя. Тагачасны нефармальны лідар польскіх каталікоў Станіслаў Хозій скардзіўся ў 1555 годзе, што ў Польшчу пратэстантызм прыходзіць не столькі з Захаду, колькі з Літвы.

Папярэдні віленскі біскуп Павел Гальшанскі нічога не мог зрабіць пратэстантам, бо іх падтрымлівалі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны і большасць іншых ваяводаў і кашталянаў. Радзівілы і іншыя буйныя магнацкія роды рашуча падтрымлівалі Рэфармацыю, разлічваючы з яе дапамогай дамагчыся свайго дамінавання ў ВКЛ і заадно ўзмацнення незалежнасці Вялікага Княства ад Польшчы.

Многія праваслаўныя таксама пераходзілі ў кальвінізм або іншыя пратэстанцкія плыні, бо бачылі ў гэтым шанец эмансіпацыі для русінаў у літоўска-каталіцкай па сваім характары дзяржаве. Але зацятыя рэлігійныя спрэчкі істотна аслаблялі ВКЛ, што неўзабаве праявіцца ў серыі ваенных няўдач у Інфлянцкай вайне і страце стратэгічна важнага Полацка.

Хоць у момант заняцця віленскай кафедры на Пратасевіча ўскладаліся вялікія спадзяванні па спыненні Рэфармацыі, ён доўгі час іх не спраўджваў. Выглядае, што ён быў даволі мяккім і гуманным чалавекам, не надта схільным да гвалту. З іншага боку, і тэхнічных магчымасцяў ужыць ▸

▸ гвалт у дачыненні да пратэстантаў у ягоных руках не было. Рэфармацыя распаўсюджвалася праз пісанае і друкаванае слова, заваёўваючы сэрцы больш блізкай тагачаснаму чалавеку аргументацыяй. Спыніць яе мог не так гвалт, прыхільнікаў якога амаль не было і сярод саміх каталікоў, як прадуманая і таленавітая контраргументацыя. Апеляцыя ў тым ліку да эмацыйнага, пачуццёвага боку чалавечай свядомасці. І сістэматычная адукацыя, перадусім духоўных асобаў, але таксама і цывільных, у патрэбным Касцёлу духу.

А ўніфікаванай і разгорнутай сістэмы адукацыі на той момант не было ні ў каталікоў, ні ў пратэстантаў. Нават сістэмы духоўных семінарый не існавала, як і абавязковага стандарту ведаў, патрэбных для высвячэння на святара. Патрэбу ў цывільнай вышэйшай адукацыі задавальняў у рэгіёне Кракаўскі ўніверсітэт, але ён быў далёка і дазволіць сабе навучанне ў ім маглі толькі выхадцы з вельмі заможных сем'яў.

## Справы дзяржаўныя

Тым часам з Еўропы даходзілі звесткі пра значныя поспехі езуітаў у справе адукацыі і контрпрапаганды. Першыя спробы наладзіць з імі кантакты Пратасевіч зрабіў яшчэ ў 1553 годзе на пасадзе луцкага біскупа. Тады ён звяртаўся да папскага нунцыя Джавані Франчэска Камендонэ з просьбай паспрыяць запрашэнню езуітаў у ВКЛ. Але, відаць, быў недастаткова настойлівым у гэтых просьбах, бо нічога не дабіўся. З іншага боку, магчыма, што для такога кроку тады не была падрыхтаваная глеба ў самой краіне. Хто мусіў даць запрошаным езуітам гарантыі абароны і патрэбныя рэсурсы?

Да таго ж занятасць дзяржаўнымі справамі, якой Пратасевіча пастаянна папракаў віленскі капітул, не давала сканцэнтравацца на справах рэлігійных (і адукацыйных у тым ліку). Адным з найбольш затратных па часе абавязкаў быў удзел у падрыхтоўцы другой рэдакцыі Статута ВКЛ, што быў уведзены ў дзеянне ў 1566 годзе. Гэта, у сваю чаргу, прадугледжвала і дэталёвыя перамовы з прадстаўнікамі праваслаўнай шляхты па ўраўноўванні правоў.

З захопам Полацка Масковіяй у 1563 годзе і пагрозай страціць усю гістарычную Русь актуальнасць гэтай працы рэзка ўзрасла. Таму Віленскі прывілей 1563 года, які зацвярджаў верацярпімасць, і Бельскі прывілей 1564 года, які істотна пашыраў палітычныя правы шараговай шляхты, у падрыхтоўцы якіх Пратасевіч браў актыўны ўдзел, фактычна выратавалі дзяржаву ад распаду. Цікава, што ў гэты момант у складзе паноў-рады (найвышэйшы калегіяльны орган дзяржаўнай улады ў ВКЛ) каталікамі былі толькі ён і жамойцкі біскуп Ян Даманоўскі. Усе астатнія ваяводы і кашталяны былі пратэстантамі, прычым амаль палова з іх — нядаўнімі выхадцамі з праваслаўя.

Вялікую ролю віленскі біскуп адыграў і ў падрыхтоўцы Люблінскай уніі 1569 года (гл. пра яе артыкул Уладзіміра Падалінскага ў № 6/2019 «Нашай гісторыі»). Хоць многія сучасныя патрыёты лічаць яе «дзяржаўнай здрадай», на той момант ёй наўрад ці была асаблівая альтэрнатыва, бо без дапамогі Польшчы адбіцца ад пагрозы з усходу не было ніякай магчымасці. А Пратасевіч выступаў менавіта за федэратыўны лад Рэчы Паспалітай, не за паглынанне Польшчай.

І ў далейшым ён не раз уздымаў голас за захаванне тых атрыбутаў літоўскай дзяржаўнасці, якія уніяй гарантаваліся.

Таму сімвалічна, што ён прысутнічае на славутай карціне Яна Матэйкі «Люблінская унія», напісанай у 1869 годзе да 300-годдзя гэтай эпахальнай падзеі (гэтае велізарнае палатно экспануецца ў Любліне, а ў № 6/2019 «Нашай гісторыі» быў зроблены яго разбор). Праўда, на карціне шмат недакладнасцяў. Пратасевіч, хоць і шмат высілкаў прыклаў для уніі і быў яе перакананым прыхільнікам і надалей, на самім яе заключэнні не прысутнічаў праз кепскі стан здароўя. А на карціне воляй Матэйкі ён сядзіць у фатэлі на пярэднім плане злева, у цёмна-блакітнай вопратцы, і гатовы, здаецца, ад узрушэння вось-вось падскочыць. Але гэтая недакладнасць яшчэ не самая значная: вядомы пратэстанцкі дзеяч Ян Ласкі, які Пратасевіча на карціне падтрымлівае і суцяшае, увогуле памёр за 9 гадоў да тых падзей. Магчыма, Матэйка ўключыў яго ў кампазіцыю, каб праілюстраваць славутую ягелонаўскую верацярпімасць.

## Езуіты едуць

Унія была калектыўным рашэннем дзяржаўных эліт ВКЛ і Польшчы. А вось стварэнне ў Вільні езуіцкага калегіума, які вельмі хутка вырас ва ўніверсітэт, — персанальная заслуга Пратасевіча.

Падрыхтоўка да адкрыцця навучальнай установы пачалася ў 1563 годзе, калі віленскі біскуп звязаўся з кіраўнікамі езуітаў Аўстрыйскай правінцыі, якія кіравалі членамі гэтага ордэна ў Польшчы.

Віленскі біскуп вельмі баяўся паспяховага выканання




WIKIMEDIA COMMONS

**Валерыян Пратасевіч (на пярэднім плане — у крэсле злева)** на карціне Яна Матэйкі «Люблінская унія 1569 года». Праўда, насамрэч біскупа на падпісанні дакумента не было: ён тады хварэў.

завяшчання Мікалая Радзівіла Чорнага, згодна з якім выдзяляліся вялікія сродкі на заснаванне рэфармацкай школы ўзроўню калегіума. У нейкім сэнсе ад таго, хто створыць калегіум раней, залежала будучая рэлігійная і цывілізацыйная прыналежнасць дзяржавы. Апроч таго, канкурэнцыю складаў лютэранскі ўніверсітэт у Кёнігсбергу. Многія маладыя ліцвіны і нават русіны выязджалі туды на вучобу, пасля чаго многія з іх змянялі рэлігію або і зусім не вярталіся дадому.

Хоць і марудна, але езуіты, якіх на той момант і ў Польшчы была ўсяго жменька, пачалі рыхтаваць кадры будучых выкладчыкаў Віленскага калегіума. У 1568 годзе абяцанне стварыць калегіум, якога чакалі передавыя прадстаўнікі ўсіх канфесій, прагучала як каралеўскае слова ад Жыгімонта Аўгуста на гарадзенскім сойме. Праўда, кароль (гл. пра яго артыкул Андрэя Скурко ў № 2/2020 «Нашай гісторыі») не належаў да тых людзей, якія цвёрда трымаюць абяцанні і прыкладаюць вялікія высілкі ў складаных праектах. Таму ў дзяржаўным скарбе для гэтай справы грошай не знаходзілася.

Але Пратасевіч за гады знаходжання на высокіх пасадах назапасіў істотныя асабістыя сродкі, якія яму ўсё адно не было каму пакінуць у спадчыну: каталіцкія святары сям'і закладаць не маюць права. А тут якраз надышоў момант дзейнічаць рашуча.

Біскуп купіў для будучага калегіума каменны дом у Вільні, каля касцёла Святога Яна, і запрасіў езуітаў з Бранева на поўначы Польшчы, дзе тыя з 1564 года паспелі стварыць вялікі адукацыйны асяродак. Першыя з будучых выкладчыкаў прыбылі ў сталіцу ВКЛ у верасні 1569-га. Істотнае значэнне мела абвешчаная для іх Пратасевічам перспектыва місіянерскай працы па навяртанні ў каталіцызм Маскоўскай дзяржавы, Швецыі і Лівоніі, базай для чаго мусіла стаць Вільня.

Пратэстанты, якія па-ранейшаму вялі рэй у сталіцы, не хацелі пускаць у яе езуітаў, і біскупу Валерыяну давялося сустракаць іх і праводзіць з узброеным канвоем. І ў далейшым ён не скупіўся ва ўкладаннях: апроч вялікага будынка для занняткаў, быў набыты і дом пад канвікт (інтэрнат) для студэнтаў. Для забеспячэння фінансавых патрэбаў навучальнай установы Пратасевіч падарыў езуітам некалькі фальваркаў і вёсак каля Ліды, Трокаў, ▸

мястэчак Майшагола і Шырвінты (на тэрыторыі сённяшняй Літвы). А яшчэ праз год, у 1571-м, ён перакануў Жыгімонта Аўгуста перадаць езуітам віленскі касцёл Святога Яна, лёс якога з гэтага часу стаў трывала звязаны з будучым універсітэтам.

### Элегантная перамога

Першыя пробныя заняткі ў яшчэ толькі школе адбыліся ў маі 1570-га. А 18 ліпеня 1570 года адбылася ўрачыстая цырымонія прыняцця езуітамі фундацыі. 25 ліпеня Валерыян Пратасевіч звярнуўся да вернікаў Віленскай дыяцэзіі і ўсяго ВКЛ з пастырскім пасланнем, у якім афіцыйна інфармаваў аб адкрыцці езуіцкай школы ў Вільні, аб'яўляў пра пачатак заняткаў і запрашаў шляхту дасылаць сваіх сыноў на навучанне.

Ужо ў кастрычніку пачаўся першы навучальны год для трохі больш як сотні студэнтаў. Навучальная праграма базавалася на традыцыйных, яшчэ сярэднявечных, трывіуме* і квадрывіуме**. У 1572-м у калегіуме было ўжо каля 200 вучняў.

У момант адкрыцця Віленскі езуіцкі калегіум быў усяго толькі трэцім ва ўсёй Рэчы Паспалітай (пасля Бранева і Пултуска). А да сярэдзіны XVIII стагоддзя ў адной толькі сучаснай Беларусі іх было ўжо 16 (і яшчэ з паўтузіна піярскіх). Усе яны выраслі з віленскіх каранёў.

Атрымаўшы такую базу для Контррэфармацыі, Пратасевіч пайшоў у рашучае наступленне

* Трывіум — сістэма гуманітарных навук у сярэднявечным універсітэце, якая ўключала граматыку, логіку і рыторыку.

** Квадрывіум — сістэма дакладных навук у сярэднявечным універсітэце (арыфметыка, астраномія, геаметрыя, музыка).

**Езуіты**
(ад лац. *Jesus* — Езус (Ісус)) — манахі каталіцкага ордэна пад назвай «Таварыства Езуса», заснаванага ў 1534 годзе іспанскім дваранінам Ігнатам Лаёлам. Пачатковай мэтай стварэння ордэна езуітаў была барацьба з Рэфармацыяй і ерасямі, распаўсюджванне веры Хрыстовай праз выхаванне моладзі. Яго арганізацыя грунтавалася на прынцыпах адзінаначалля (кіраўнік ордэна называўся генералам), строгага цэнтралізму, безумоўнага падпарадкавання і жалезнай дысцыпліны. Слоўная прапаведзь спалучалася з дабрачыннай дзейнасцю.
Адным з асноўных спосабаў дасягнення сваіх мэтаў ордэн езуітаў лічыў выхаванне моладзі ў духу пабожнасці і веры праз сетку калегіумаў і акадэмій. Езуіцкія школы былі аднымі з найлепшых у Еўропе. Езуіты першымі падзялілі ўсю масу навучэнцаў на класы (паводле ступені падрыхтоўкі) і распрацавалі праграмы паслядоўнага вывучэння прадметаў. Яны стварылі цудоўныя школьныя будынкі, увялі добрае забеспячэнне навучальнымі дапаможнікамі, умела чаргавалі заняткі з адпачынкам, пазбягаючыператамлення навучэнцаў, вялікую ўвагу звярталі на фізічнае развіццё. Асновай выкладання ў езуіцкіх калегіумах і акадэміях былі гуманітарныя навукі, перадусім класічныя мовы, філасофія і тэалогія.


WIKIMEDIA COMMONS

**Вялікі двор Віленскага ўніверсітэта і касцёл Святых Янаў** (так ён да таго часу стаў называцца, у гонар адразу Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста). Малюнак з Віленскага альбома Яна Казіміра Вільчынскага, 1850 год.

на пратэстантаў. У 1570-я ён перакануў перайсці назад у каталіцызм большасць магнатаў з роду Радзівілаў, а сына Мікалая Радзівіла Чорнага Юрыя ў 1574 годзе ўзяў сабе намеснікам — пасля смерці Пратасевіча ён зойме ягоную пасаду.

У 1577 годзе біскуп заблакаваў спробу арганізацыі ў Вільні пратэстанцкай сярэдняй школы.

Новы кароль Стэфан Баторый, сам гадаванец езуітаў, быў у значна большай ступені на баку Пратасевіча, чым Жыгімонт Аўгуст. 7 ліпеня 1578 года выйшаў каралеўскі прывілей на пераўтварэнне калегіума ў акадэмію з правамі ўніверсітэта. Прывілей зраўняў новазаснаваную акадэмію з Кракаўскім універсітэтам у праве прысвоення вучоных ступеняў у галінах філасофіі, тэалогіі і свабодных навук. А вось ступені ў галінах медыцыны і права усё ж такі зарэзервавалі за Кракавам. З цягам часу, праўда, гэтыя абмежаванні таксама будуць пераадоленыя, і перад падзеламі Рэчы Паспалітай медыцынскі факультэт Віленскай вышэйшай школы будзе лічыцца найлепшым ва ўсёй канфедэрацыі.

Прывілей Баторыя быў афіцыйна пацверджаны папам Грыгорыем XIII у кастрычніку 1579 года. Новая вышэйшая навучальная ўстанова атрымала

Пра Віленскі ўніверсітэт і яго ролю ў гісторыі нашай краіны глядзіце ў відэаматэрыяле з серыі «Гісторыя пад знакам Пагоні», знятым тэлеканалам «Белсат».



назву «Акадэмія і ўніверсітэт Віленскі Таварыства Езуса» (*Academia et Universitas Vilnensis Societatis Jesu* — на лаціне). Актам ад 25 жніўня 1578 года Валерыян Пратасевіч пацвердзіў усе свае папярэднія фундушы Віленскай акадэміі, далучыўшы да іх новыя. Заснаваў бурсу для пражывання бедных студэнтаў, названую ў яго гонар «Валерыянаўскай». А перад смерцю ён завяшчаў універсітэту сваю багатую бібліятэку і 2 500 злотых на патрэбы кафедральнага храма. Памёр Пратасевіч 31 снежня 1579 года — усяго праз некалькі месяцаў пасля пачатку першага навучальнага года ва ўніверсітэце.

Значэнне Віленскага ўніверсітэта ў гісторыі Літвы і Беларусі цяжка пераацаніць. На працягу многіх стагоддзяў ён быў галоўным агменем нашай гуманітарнай культуры і прававой традыцыі, кузняй дзяржаўных кадраў. Нават пасля далучэння да Расійскай імперыі ён зазнаў кароткі перыяд росквіту (1815–1830), даўшы пачатак рамантызму ў польскай літаратуры, выхаваўшы сотні славутых выпускнікоў, вядомых ці не на ўсіх кантынентах. Нават пасля варварскага скасавання Мікалаем І памяць пра ўніверсітэт і ягоныя традыцыі працягвала жыць і натхняць усё новыя пакаленні патрыётаў як Рэчы Паспалітай, так з пэўнага моманту і Літвы, і Беларусі. Яго паспелі скончыць, напрыклад, вучоны-славіст Міхал Бабροўскі (гл. пра яго падрабязней у артыкуле Паўла Церашковіча «Падляшане, якія абудзілі беларусаў» у № 3/2018 «Нашай гісторыі»), паэт і фалькларыст Ян Чачот, многія іншыя прадстаўнікі першай хвалі беларускага адраджэння XIX стагоддзя.

У асяроддзі выкладчыкаў і выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта пачатку XIX стагоддзя з'явіўся і сам тэрмін «Беларусь» у цяперашняй форме. Аднак ці шмат людзей у Беларусі, перадусім у сістэме адукацыі, усведамляюць каласальную ролю гэтай установы ў гісторыі нашай краіны? Мне падаецца, што не. Вось таму і постаць Валерыяна Пратасевіча, у адрозненне ад суседніх літоўцаў, дагэтуль не прыцягвала вялікай увагі беларусаў. ◆


SHUTTERSTOCK.COM, BY BOOCYS

**Віленскі ўніверсітэт** і ў наш час працягвае быць прэстыжным навучальным цэнтрам — перадусім для літоўскай моладзі.



WIKIMEDIA COMMONS

**Мемарыяльная дошка ў памяць Валерыяна Пратасевіча** ў Вялікім двары Віленскага ўніверсітэта.


WIKIMEDIA COMMONS

**«Дравіца»**, радавы герб «шляхціча з Русі Белай» Пратасевічаў.

# Як паўстанцы 1863–1864 гадоў падрывалі імперыю фальшывымі купюрамі

**У другой палове 1860-х выраб фальшывых расійскіх купюр дасягнуў нечуваных маштабаў. Гэта не было выпадковасцю, пішуць гісторыкі Вітольд Ханецкі і Ірына Завадская.**

Той раніцай Юзэфіна ўсюды заўважала благія знакі. Выходзячы з цягніка, яна адзначыла, што недзе згубіла пальчатку. Яшчэ ў дзяцінстве маці перасцерагала яе, што пальчаткі трэба трымаць навідавоку, варта згубіць адну — і назаўжды развітаешся з чалавекам, які табе даражэйшы за ўсіх. Ступіўшы на перон, яна падняла вочы — і адразу ж перахапіла позірк худога незнаёмага чалавека, які, як ёй падалося, зусім не выпадкова апынуўся ў гэтым стракатым падарожным віры. І ў той жа момант Юзэфіна згадала, што на даху гатэля ў Льежы, дзе правяла пазамінулую ноч, бачыла вялікую чорную птушку — дакладна крумкач! Такая самая птушка сядзела на страсе іх дома ў Луцку ў дзень, калі памёр бацька...

«11 чэрвеня 1872 года на Вержбалоўскай мытні затрыманая пасажырка, якая прыбыла з-за мяжы і назвалася прускай падданай Лінаю Бірнбахер, а пры допыце аказалася шляхцянкай горада Вільні, паненкай Юзэфінай Дабравольскай. Пры асабістым надглядзе ярэ былі знойдзеныя расійскія фальшывыя крэдытныя білеты 10- і 50-рублёвай вартасці новага ўзору на суму 15 тысяч рублёў, якія, па словах яе, яна атрымала ад незнаёмай асобы ў Берліне для дастаўкі ў Вільню ў нумар 5 гатэля "Еўрапейскі" 13 числа. Падчас пераводу яе з мытні на станцыю чыгункі быў знойдзены на печцы яшчэ пачак фальшывых крэдытных білетаў 50-рублёвай вартасці новага ж узору на 5 тысяч рублёў».



**Юзэфіна Дабравольская.**
Фота канца 1860-х.




50-рублёвы фальшывы крэдытны білет узору 1866 года — **самы папулярны намінал у фальшываманетчыкаў**.

**Фальшывы крэдытны білет на 10 рублёў** узору 1863 года.

**Удзельнікі паўстання і фальшываманетчыкі часцяком паходзілі з адных і тых жа сем'яў**

З гэтага запісу ў крымінальнай справе пад нумарам 339 распачаўся імклівы кар'ерны ўзлёт маёра Усевалада Смельскага. На той час — ваеннага начальніка Ваўкавішскага павета Сувалкаўскай губерні. Менавіта ён на працягу ўсяго наступнага года праводзіў допыты паненкі, празмерная нервовасць якой падчас мытнага надгляду ў тым фатальным чэрвені і справакавала яе затрыманне.

Ужо ў 1875-м Смельскага прызначылі чыноўнікам асобых даручэнняў пры санкт-пецярбургскім градаачальніку.

А яго напрацоўкі па барацьбе з фальшываманетніцтвам, назапашаныя падчас разблытвання сувязяў Юзэфіны Дабравольскай, сталі асновай для адпаведнай інструкцыі Міністэрства фінансаў (ёй даволі доўга карысталася расійская паліцыя). У адстаўцы ж, даслужыўшыся да генерал-лейтэнанта, Усевалад Ніканоравіч заняўся напісаннем мемуараў, з якіх бачна, што паўстанне 1863–1864 гадоў займала яго думкі да канца жыцця.

Прозвішчы, якія ён згадвае на старонках сваіх успамінаў, збольшага нам знаёмыя: удзельнікі паўстання і фальшываманетчыкі часцяком паходзілі з адных і тых жа сем'яў. І хоць многім сваякам інсургентаў удалося тады выслізнуць з павуціння Смельскага, для Юзэфіны Дабравольскай сустрэча з ім скончылася катаргай. Праўда, каб даказаць яе віну, следству спатрэбілася амаль тры гады.



**Вержбалова,**
зала для надгляду пасажыраў.

### Хваля фальшывых крэдытак

У другой палове 1860-х гадоў Міністэрства фінансаў Расійскай імперыі зафіксавала ▸

трывожную з’яву: за нейкія тры гады, з 1862-га па 1865-ы, амаль у чатыры разы павялічылася выяўленая колькасць фальшывых дзяржаўных крэдытных білетаў. Каб гэтаму супрацьстаяць, царскі ўрад нават прыняў рашэнне мяняць дызайн сваіх грошай кожныя 10 гадоў. І ўжо напрыканцы 1860-х у крамах буйных расійскіх гарадоў перасталі прымаць 50-рублёвыя купюры, бо іх падраблялі часцей за ўсё.

Праблема была сур’ёзная: да 1872 года сакрэтная служба канцылярыі ўсе таго ж Міністэрства фінансаў падлічыла, што на працягу 10 гадоў агульная сума канфіскаваных і знішчаных банкнотаў-фальшывак склала каля 30 мільёнаў рублёў. Асобна адзначалася, што якасць большай часткі гэтых банкнотаў была на такім дасканалым узроўні, што іх амаль немагчыма было адрозніць ад арыгіналаў. Фальшывыя расійскія грошы шырока разышліся не толькі па тэрыторыі імперыі, але і па сусветных фінансавых сталіцах, працягваючы выводзіць з раўнавагі грашовую сістэму царскай Расіі аж да 1890-х.

І гэта было незвычайнае эканамічнае злачынства, справакаванае тэхнічным прагрэсам — развіццём фатаграфіі і тыпаграфскага друку. Проста нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863–1864 гадоў фактычна працягвалася нашмат даўжэй. А галоўнай сілай, якая ўчыніла далейшую эканамічную дыверсію супраць Расійскай імперыі, сталі жонкі і ўдовы, дочкі і сёстры, маці і каханыя тых, хто загінуў за ідэю свабоды і незалежнасці нашага краю, патрапіў на катаргу і быў пазбаўлены ўсіх свабод і правоў.

### Сціплая гувернантка з Вільні

Высветліць сапраўднае імя паненкі, далікатны стан якой быў спрэс абматаны фальшывымі грашыма, Смельскаму ўдалося даволі хутка. Хаця напачатку Дабравольская спрабавала ўдаваць з сябе дурнічку. Яна безупынна плакала і казала следчым, што банкноты, якія везла на сабе і ў дарожнай падушцы, згадзілася перадаць незнаёмай ёй Вільгельміне толькі таму, што яе папрасіла пра тое нейкая Стэфанія Ажынская. Маўляў, яны разам выхоўваліся ў віленскім пансіянаце, і Юзэфіна так узрадавалася іх нечаканай сустрэчы ў Берліне, што адразу згадзілася на «невялікую паслугу» сяброўцы.



**Фотаздымкі з канфіскаванага альбома Дабравольскай** (усяго ў ім было 120 фота). Сярод іх — старэйшая дачка паэта Адама Міцкевіча Марыя, яе муж мастак Тадэвуш Гарэцкі, сыны паэта Юзаф і Уладзіслаў Міцкевічы.

Смельскі набраўся цярпення. Допыты былі штодзённымі, але максімальна мяккімі (Усевалад Ніканоравіч нават пакінуў сваім калегам пісьмовыя інструкцыі, што з жанчынамі-злачынцамі варта паводзіць сябе ветліва і нават ласкава). Юзэфіна тады нікога не выдала, але ўласнае прозвішча ўсё ж назвала. Следчым хапіла і гэтага.

Выявілася, што колькі тыдняў таму, пасля адмовы ў атрыманні замежнага пашпарта, сціплая гувернантка з Вільні Юзэфіна Дабравольская таемна перайшла мяжу і, наведаўшы Парыж, Берлін і Брусэль, дабралася да Льежа, дзе атрымала грошы для перапраўкі на тэрыторыю Расійскай імперыі. Фотаальбом, знойдзены прыператрусе ў яе кватэры, таксама выглядаў больш чым падазрона. Значная частка людзей на тых картках аказалася паўстанцамі, сасланымі ў Сібір ці з тых, што перабраліся за мяжу. Прозвішчы некаторых былі вельмі гучнымі: князі Агінскія і Чартарыйскія, графы Белазоры і Плятэры, Тышкевічы, Пізані, Пётухі… Сярод іх трапіліся партрэты дзяцей Адама Міцкевіча, удавы Антона-Эдварда Адзінца, іншых сваякоў вядомых асоб.

**Вярбоўкай кур’ераў займалася сястра «беларускай Жанны д’Арк» Эміліі Плятэр**



**Паручнік Уладзіслаў Малахоўскі** (Леан Варнерке), 1862 год (перад паўстаннем).

Што ж вымусіла Юзэфіну захоўваць такі альбом? Простая дзявочая сентыментальнасць ці неабходнасць ведаць усіх у твар?

### Княгіня Агінская, у дзявоцтве Плятэр

Зрэшты, на момант затрымання Дабравольская была ўжо далёка не юнай. І, відавочна, зусім не дурнічкай. Ёй, дачцэ збяднелай княгіні і шляхціча, не прызнанага ў сваім шляхецтве расійскімі ўладамі, шляхцічы Пётухі-Кубліцкія, а пазней Пізані давяралі не толькі выхаванне ўласных дзяцей. Іх фінансавыя справы вяла таксама Дабравольская. Праз яе ішло і зашыфраванае ліставанне з эміграцкімі і сасланымі сем’ямі, са сваякамі і сябрамі інсургентаў.

Але перш за ўсё яна заставалася жанчынай. І тое, што следства не выведала ў самой Юзэфіны, яно дазналася праз яе каханка, мешчаніна Аўгуста Чайкоўскага.

Як высветлілася далей, тыя фальшывыя грошы Дабравольская сапраўды атрымала ад сяброўкі, з якой некалі разам вучылася. Толькі гэта была не міфічная Стэфанія, а княгіня Марыя Агінская, у дзявоцтве Плятэр, сястра «беларускай Жанны д’Арк» Эміліі Плятэр. А таемнай Вільгельмінай, якая чакала Дабравольскую ў Вільні, хутчэй за ўсё, магла быць яшчэ адна з сёстраў Плятэр — Эвеліна, у замужжы Галынская. Пераканаўча даказаць дачыненне Эвеліны да гэтай справы следства не здолела, але выявіла, што менавіта Марыя Агінская наладжвала перасылку фальшывых грошай праз расійскую мяжу і займалася вярбоўкай кур’ераў.

### На сцэну выходзіць Малахоўскі

За ўсімі, хто трапіў пад падазрэнне паліцыі, усталявалі сакрэтны нагляд. У архівах Санкт-Пецярбурга захаваліся паліцэйскія рапарты на многіх мовах. Напрыклад, як паведамляла брусэльская паліцыя, «у чэрвені месяцы Дабравольская і Агінская сапраўды пражывалі ў Брусэлі, але нічога падазронага за імі заўважана не было, акрамя хіба толькі таго, што Дабравольская пастаянна хадзіла на пошту і атрымлівала нейкія лісты…». Але адначасова ў справе з’яўляецца і новая асоба: Уладзіслаў Малахоўскі. Які, маўляў, «таксама вядзе жыццё рэгулярнае і ціхае… Гэты самы Малахоўскі, 34 гадоў, былы паручнік, інжынер шляхоў зносін, падчас паўстання 1863 года быў у польскай бандзе каля Вільні. Пазней жыў у Парыжы і нядаўна пасяліўся ў Брусэлі па вуліцы Ру дэ Мартэ нумар 1.

▸ Быў у пастаянных зносінах з Агінскай і, здаецца, дасылаў грошы мужу яе і яе сыну Генрыху...».

У 1872 годзе імя Уладзіслава Малахоўскага асабліва часта фігуруе ў паліцэйскіх рапартах. Расійскі афіцэр, выпускнік Пецярбургскага інстытута інжынераў шляхоў зносін, які падчас службы ў войску займаўся будаўніцтвам Паўночнай чыгункі, ён мог зрабіць бліскучую кар'еру. Але маладзён збочыў з роўнай дзяржаўнай дарогі, зрабіўся паплечнікам Кастуся Каліноўскага і ўмацаваў рэпутацыю мяцежніка няўдалым замахам на віленскага маршалка шляхты Аляксандра Дамейку. Малахоўскі збег за мяжу ў той час, калі Мураўёў-вешальнік дамогся для яго смяротнага пакарання і паабяцаў за ягоную галаву 10 тысяч расійскіх рублёў.

Але пасля аказалася, што гэтая галава каштавала нашмат даражэй.

### Таямніца лабараторый Варнерке

У сусветную гісторыю Уладзіслаў Юльянавіч Малахоўскі ўвайшоў пад фальшывым пашпартам з імем Леана Варнерке. У 1870-х ён праславіўся як вынаходнік прататыпу сучаснага «Кодака» і сябар вядомага хіміка Дзмітрыя Мендзялеева. Вядома, што Варнерке актыўна друкаваўся




**Газетная рэклама фірмы Варнерке**, 1880-я гады.




**Лабараторыя Варнерке ў Пецярбурзе**, 1890-я гады.

ў расійскіх і еўрапейскіх навуковых часопісах, сам вырабляў святлоадчувальную паперу для ўласных фотаапаратаў, здольных рабіць да сотні здымкаў запар. Філіялы фірмы «Варнерке і Ко» існавалі ў Парыжы, Брусэлі, Берліне, Санкт-Пецярбурзе...

**Нават сёння не кожны спецыяліст вызначыць падробку, якая выйшла з лабараторый Варнерке**

У 1882 годзе за выдатныя заслугі перад сусветнай фатаграфіяй Каралеўскае фатаграфічнае таварыства Вялікабрытаніі ўзнагародзіла яго медалём Прагрэсу. А неўзабаве Леан-Уладзіслаў атрымаў і брытанскае падданства (што, дарэчы, так і не ўдалося Карлу Марксу, нягледзячы на яго шматлікія хадайніцтвы).

І Агінская, і Малахоўскі жылі ў Францыі і Бельгіі не хаваючыся, пад сваімі сапраўднымі імёнамі. Але калі насуперак усім намаганням Смельскага навіну пра арышт Дабравольскай апублікавалі берлінская і варшаўская газеты, абое раптоўна зніклі з паліцэйскіх «радараў». Тым часам, як сведчаць рапарты Міністэрства фінансаў, за наступнае дзесяцігоддзе падпольныя фабрыкі па вырабе фальшывых грошай сталі выяўляцца ў Парыжы, Ніцы, Брусэлі, Жэневе, Берліне, Лондане і іншых еўрапейскіх гарадах, дзе дзейнічалі (вось нечаканае супадзенне!) фотаатэлье і лабараторыі Леана Варнерке.

Расійская паліцыя накіроўвала за мяжу ўсё новых тайных агентаў і чыноўнікаў надзвычайных даручэнняў, наладжвала супрацоўніцтва з замежнымі калегамі і наймала добраахвотных памочнікаў з ліку расійскіх беспрацоўных. Але



фальшываманетчыкі пастаянна ўдасканальвалі сваё майстэрства. Што казаць, калі нават сёння пры дапамозе сучаснага абсталявання не кожны спецыяліст вызначыць падробку, якая выйшла з лабараторый Леана Варнерке!

### Вялікая гульня Англіі?

На жаль, партрэт Марыі Агінскай у архіўнай справе Дабравольскай не захаваўся. Паліцыя канфіскавала яго з альбома Юзэфіны, каб растыражаваць і разаслаць жандарам. Але вынікаў тое не прынесла. Выйсці на след Агінскай не здолелі нават бельгійскія агенты, якія завялі знаёмства са старэйшым сынам Марыі, Аляксандрам Агінскім (пасля вайсковай вучэльні ён паступіў на службу ў бельгійскі карабінерскі полк).

Зрэшты, знайсці яе сапраўды было цяжка. Бо Марыі Агінскай больш не існавала. У сярэдзіне 1870-х яна ўжо насіла прозвішча Варнерке і нарадзіла Уладзіславу Малахоўскаму дачку Зосю.

Не выключана, што менавіта Марыя, былая графіня Броель-Плятэр і княгіня Агінская, якую прымалі ва ўсіх арыстакратычных дамах Еўропы, першы час дапамагала Малахоўскаму-Варнерке наладжваць кантакты з сусветнымі элітамі.

А далей да ўсёй гэтай гісторыі далучылася яшчэ адна тэма. Некаторыя даследчыкі (прынамсі, у Расіі) лічаць, што масавы выраб фальшывых расійскіх грошай у другой палове XIX стагоддзя быў часткай так званай вялікай гульні з боку Англіі. Пасля расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў у імперыі выспеў сур'ёзны канфлікт з Вялікабрытаніяй. Вось англійскія палітыкі маглі і пасадзейнічаць аслабленню расійскай грашовай сістэмы.

### Расталі ў паветры

У 1898-м, стаміўшыся змагацца з няспыннай плынню фальшывак, Расійская імперыя ў чарговы раз вырашыла абнавіць дызайн сваіх грошай. Варнерке спешна выехаў у Марсэль, каб збыць партыю састарэлых падробак. І там быў арыштаваны французскай паліцыяй.

Але ў турме яго трымалі нядоўга. За Леана-Уладзіслава ▸

### Ціхмяныя студэнты-беларусы

Сярод дакументаў Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва выклікаюць цікавасць рапарты народнага агента Вібке (імя не захавалася), беспрацоўнага з Дынабурга (цяпер горад Даўгаўпілс у Латвіі).

Яму ўдалося пранікнуць у піцерскую падпольную групоўку беларускіх мяцежнікаў. Вібке пацвярджаў, што дастаўкай фальшывых грошай займаліся пераважна замежныя грамадзяне падчас сваіх каротких візітаў у Расійскую імперыю. У сваёй большасці гэта былі жанчыны: яны выклікалі менш падазрэнняў у паліцыі. Часцяком такое рабілі і работнікі чыгункі, машыністы і кандуктары.

Як і Смельскі, Вібке дапускаў, што амаль любога выхадца з беларускіх губерняў ці Царства Польскага можна было падазраваць. І сапраўды, па паведамленнях іншых агентаў, пасля паўстання ледзь не кожны трэці студэнт-беларус у Пецярбурзе так ці інакш меў сувязі з фальшываманетчыкамі. На сродкі фальшываманетчыкаў у Пецярбурзе нават утрымліваўся адзін з публічных дамоў, наведвальнікі якога, пісаў Вібке, часцяком апраналі шляхецкія ўборы. Пра гэта агент дазнаўся з размоў прыслугі і некаторых студэнтаў, але сам не бачыў — абы-каго ўсярэдзіну не пускалі. Што і не дзіўна: бардэлі здаўна выкарыстоўваліся ў тым ліку як адносна бяспечныя месцы для крымінальных сустрэч.



Графіня Стэфанія з Пётухаў-Кубліцкіх Плятэр (жонка Міхала Плятэра) **з малодшым сынам Марыі Агінскай Аляксандрам Агінскім**, фота 1864–1865 гадоў.




**100-рублёвая фальшывая банкнота** ўзору 1892 года.

▸ асабіста заступіўся маркіз Роберт Гаскойн-Сесіл Солсберы, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі. Фармальнай прычынай пераводу Варнерке з турмы ў шпіталь стаў яго... прастатыт. Неўзабаве адбыўся суд, па рашэнні якога ён атрымаў два гады ўмоўнага зняволення з патрабаваннем тэрмінова пакінуць тэрыторыю Францыі.

У гэты час Вялікабрытанія пачала наладжваць дыпламатычныя адносіны з Расійскай імперыяй. Цалкам магчыма, што і гэта паўплывала на скарачэнне плыні падробленых банкнотаў праз расійскія межы. Фігура Малахоўскага стала выглядаць небяспечнай для абодвух бакоў. Захавалася перапіска Солсберы са Скотланд-Ярдам, у якой ён просіць не пускаць у следства лісты і фота, знойдзеныя пры вобшуку ў лонданскай кватэры Варнерке.



**Уладзіслаў Малахоўскі** (Леан Варнерке), канец 1890-х.

У снежні 1899 года Варнерке-Малахоўскі выехаў у Швейцарыю. А пра тое, што адбылося далей, можна толькі здагадвацца. У наступным кастрычніку Марыя Варнерке паведаміла брытанскаму ўраду, што яе муж застрэліўся ў адным з гатэляў Жэневы. Ёсць меркаванні, што яму дапамаглі сысці з жыцця. Але дагэтуль ніхто не бачыў ні дакументаў аб смерці, ні магілы — што Леана Варнерке, што Уладзіслава Малахоўскага.

З таго часу згубіліся і сляды Марыі Плятэр-Агінскай-Варнерке. Ці не далучылася да ўсіх гэтых прозвішчаў яшчэ адно? Ці, можа, яе асоба зрабілася такой жа непажаданай, як і асоба яе мужа? ◆





# Радзівіл, які аддана служыў Расіі і жыў для сябе



**Леан Радзівіл.** З кнігі «Столетие военного министерства», том II, кніга 3. 1908 год.

**Калі Леан Радзівіл прыехаў у Турцыю з патрабаваннем выдаць Расійскай імперыі сваіх суайчыннікаў — удзельнікаў паўстання ў Венгрыі, — турэцкія дыпламаты не маглі ў гэта паверыць. Няўжо з вяроўкай па сваіх прыехаў чалавек з прозвішчам Радзівіл? Піша навуковы супрацоўнік музея-запаведніка «Нясвіж» Андрэй Блінец.**

Звычайна біяграфіі прысвячаюць людзям, якія ахвяравалі жыццё дзеля высокай мэты. Але Геранім Леан Дамінік Радзівіл мэты не меў, не прагнуў дамагчыся чагосьці вялікага і ўвогуле кіраваўся прынцыпам «жыць як набяжыць». Ён быў адным з нешматлікіх Радзівілаў, якія аддана служылі Расіі. Праз гэта некаторыя аматары «рускага свету» лічаць яго ледзьве не героем. Але ў чым праявіўся гераізм?

## Гусар Леў Радзівіл

Леан Геранім нарадзіўся ў Варшаве ў сакавіку 1808 года. У час, калі мянялася карта Еўропы і становішча Радзівілаў. Пасля гібелі Рэчы Паспалітай яны шукалі месца ў новых рэаліях. Нехта абраў службу прускаму каралю, нехта французскаму імператару. Да часу, пакуль Леан пасталеў, мроі, звязаныя з Напалеонам, развеяліся, і 17-гадовы юнак, падданы Расійскай імперыі, паступіў у лейб-гвардыі Гродзенскі гусарскі полк, які дыслакаваўся ў Варшаве. Сярод яго афіцэраў было нямала звязаных з Літвой-Беларуссю: Вайніловіч, Завіша, Гедройць, Халецкі, Абрамовіч ды іншыя.

Тагачасны побыт афіцэраў менш за ўсё нагадваў суровыя армейскія будні: картачныя гульні, вечары ў кампаніі цыганак, віно, жанчыны і забавы. Звыклай з'явай былі «паляванні» на варшавянак на гарадскіх вуліцах, пасля якіх самыя прыгожыя маглі на некалькі дзён застацца ў «палоне». Нікога не здзіўляла, калі гусар прыходзіў у тэатр з... астранамічнай трубой, каб накіраваць яго на дэкальтэ прывабнай дамы. Габрэі-крэдыторы, якія асмельваліся нагадаць панам-афіцэрам пра неабходнасць плаціць пазыкі, рызыкавалі атрымаць порцыю бізуноў на палкавых стайнях.

**Малады карнет Радзівіл выступаў завадатарам многіх забавак, пастаянна парушаў дысцыпліну**

Малады, прывабны карнет Радзівіл выступаў завадатарам многіх забавак. За парушэнні дысцыпліны яму не раз даводзілася сядзець на гаўптвахце і атрымліваць разносы ад камандавання, што не мяняла ▸

▸ яго характару. Адзінае, што змянілася, — імя. У афіцыйных дакументах Леана Радзівіла называлі *Львом Людвиговичем*. Не выпадае думаць, што ён моцна перажываў з гэтай нагоды.

### Першыя баі Льва Людвігавіча

Бясклапотнае жыццё працягвалася да лістапада 1830 года, пакуль у Польшчы не выбухнула паўстанне. Паводле біяграфіі Льва Радзівіла ў «Рускім біяграфічным слоўніку», ён паказаў сябе смелым афіцэрам. У першую ж ноч нібыта контратакаваў «мяцежнікаў» і захапіў палонных, а пазней здзейсніў дзёрзкую вылазку ў Варшаву, дзе здабыў 70 бочак солі, неабходных для забеспячэння арміі ў паходзе. Вось толькі гісторыя лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка, у якой знайшлося месца для апісання свецкіх забаваў карнета Радзівіла, нічога не гаворыць пра яго подзвігі ў лістападаўскія дні. Рэйд па соль сапраўды адбыўся, але ім камандаваў палкоўнік Аляксандр Рыземан. Радзівіл мог быць адным з удзельнікаў акцыі, але ні ў якім разе не яе ініцыятарам і кіраўніком.

Далей яму прыпісваюць мужныя атакі на непрыяцеля ў бітвах пад Грохавам і Астралэнкай. Аднак ні Гродзенскі гусарскі полк, ні асобныя яго афіцэры ў гэтых баях не ўдзельнічалі. Пад Грохавам гусары ўвесь час прастаялі ў рэзерве, а пад Астралэнку падышлі, калі асноўныя сілы палякаў былі разбітыя. Так што ў атакі Леан Радзівіл не хадзіў і эскадрон за сабой не вадзіў. Спачатку ён знаходзіўся пры штабе намесніка Царства Польскага вялікага князя Канстанціна Паўлавіча, потым у якасці ардзінарца камандзіра палка генерал-маёра Карла Штрандмана ўдзельнічаў у бітве пад Рацёнжам і штурме Варшавы.

Гэта зусім не азначае, што князь не быў пад кулямі. Пра адзін эпізод распавядае гісторыя палка: «Падчас штурму Варшавы генерал Штрандман асабіста аб'язджаў шэрагі стралкоў, нягледзячы на часты агонь з боку непрыяцеля. Штаб-трубач, які суправаджаў генерала, упаў, працяты кулямі. Тады генерал звярнуўся да свайго ардзінарца князя Радзівіла: "Князь, у трубача срэбраная труба, падараваная імператарам, нельга ж яе тут пакінуць!" Радзівіл злез з каня, дастаў трубу і хацеў хучэй скочыць на каня, каб выбрацца з-пад пякельнага агню. Але конь, напалоханы стрэламі, не даваў князю сесці, а навокал свісталі кулі. Генерал Штрандман спакойна дачакаўся, пакуль ардынарац дасць рады каню, пасля чаго абодва ад'ехалі ў полк, дзе князь перадаў трубу новаму штаб-трубачу».

Пасля задушэння паўстання Леан Радзівіл быў ужо

**Ардынацыя** (ад лац. *ordinatio* — парадак) — неадчужальнае ўладанне, якое перадавалася ў спадчыну толькі прадстаўнікам мужчынскай галіны роду. У 1586 годзе Мікалай Крыштоф, Станіслаў і Альбрэхт Радзівілы заснавалі Нясвіжскую, Алыцкую і Клецкую ардынацыі. Са складу апошняй з часам вылучылася Давыд-Гарадоцкая. Ардынацкія ўладанні не маглі атрымліваць асобы, якія не належалі да радзівілаўскага роду. Ардынацыі працягвалі існаваць у Расійскай імперыі і міжваеннай польскай дзяржаве. Іх скасавалі толькі рашэннем польскага сейма ў 1939 годзе.

**У афіцыйных дакументах Леана Радзівіла называлі Львом Людвиговичем**

паручнікам, адзначаным ордэнамі Святой Ганны і Святога Уладзіміра. А неўзабаве стаў флігель-ад'ютантам імператара Мікалая I і пачаў рабіць прыдворную кар'еру.

### Шлюб з прымусу і разліку

У 1830 годзе памёр бацька Леана Людвіг Мікалай, а ў 1831 годзе — дзед Міхал Геранім. Адносіны паміж пакаленнямі адной сям'і не вызначаліся цеплынёй. Усяму прычынай былі маёмасныя спрэчкі. Міхал пазбавіў сына спадчынных уладанняў, Людвіг сварыўся з Леанам за грошы. Малады князь жадаў раскошнага жыцця, а стан маёнткаў горшаў. На гэта ўплывалі працяглае ігнараванне Радзівіламі гаспадарчых пытанняў, іх звычка жыць у крэдыт і спусташэнні падчас вайны 1812 года.

Клецкая, Давыд-Гарадоцкая ардынацыі і былое Барысаўскае староства, якія перайшлі да Леана Геранiма ад дзеда, прыбытку давалі няшмат, а клопату стваралі багата. Вырашыць гэту праблему дапамог шлюб з князёўнай Соф'яй Урусавай у лютым 1833 года. Па чутках, якія хадзілі ў Пецярбурзе, да таго, як стаць княгіняй Радзівіл, Соф'я была каханкай Мікалая I. Ён нібыта і прымусіў флігель-ад'ютанта зрабіць прапанову прыгожай фрэйліне. А на заўвагу апошняга, што той не мае сродкаў, каб



утрымліваць сям'ю, паабяцаў дапамогу.

Свае слова Мікалай стрымаў. Неўзабаве была створана адмысловая камісія для разбору радзівілаўскіх пазык. У выніку значная частка крэдытораў, якія на працягу пакаленняў на законных падставах трымалі ў закладзе радзівілаўскія маёнткі, былі выдаленыя адтуль без ніякай кампенсацыі. Ім дазволілі забраць хатнія рэчы і дваровых слуг ды абяцалі, што чацвёртая частка прыбыткаў з «вызваленых» маёнткаў пойдзе на пагашэнне даўгоў, але ў сапраўднасці мала хто дачакаўся хоць якой выплаты. Да таго, што з зямлі могуць зганяць сялян, неяк прызвычаіліся, але каб вось так нахабна зганялі памешчыкаў! Расійскі дэмакрат Аляксандр Герцэн нават назваў гэта «царскім камунізмам». Выгнанцам толькі заставалася спадзявацца, што прынамсі з іх унукамі разлічацца паводле ранейшых абавязацельстваў.

### Прыдворны генерал

Тым часам кар'ера Радзівіла складалася паспяхова. Ён карыстаўся даверам Мікалая I і не раз суправаджаў яго падчас паездак. У Польшчы Леан нават разбіраў скаргі, пададзеныя на імя імператара. Таксама выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Берліне, Касэлі (сталіца нямецкага курфюрства Гесэн-Касэль), Лондане.

Але найбольшы розгалас набыла ягоная паездка ў Стамбул у 1849 годзе. Ад імя Мікалая I Леан Радзівіл патрабаваў, каб Асманская імперыя выдала



Павел Сакалоў. **Партрэт Соф'і Урусавай**, 1827 год.

польскіх удзельнікаў венгерскай рэвалюцыі. Турэцкіх дыпламатаў не так уразіла само патрабаванне, як асоба выканаўцы місіі. «Няўжо сам Радзівіл прыбыў з вяроўкай для землякоў?» — здзіўляліся ў Стамбуле. Нягледзячы на гучныя пагрозы, аж да абвяшчэння вайны ў выпадку адмовы, місія аказалася правальнай. Турэцкі ўрад не паддаўся на ўльтыматум. Але няўдача ніяк не адбілася на кар'еры Радзівіла. У тым самым годзе за ўдзел у венгерскім паходзе ён атрымаў чын генерал-маёра, расійскі медаль «За усмирение Венгрии» і аўстрыйскі ордэн Жалезнай кароны.

Падчас Крымскай вайны 1853–1856 гадоў Леан Радзівіл камандаваў кавалерыйскай дывізіяй. У бітве пад Балаклавай у яго з'явіўся шанц захапіць ▸

**Венгерская рэвалюцыя 1848—1849 гадоў**

адна з рэвалюцый, якія ў той час пракаціліся па ўсёй Еўропе і атрымалі агульную назву «Вясна народаў». Венгерскія паўстанцы патрабавалі дэцэнтралізацыі Аўстрыйскай імперыі, у якую тады ўваходзіла Венгрыя, дэмакратызацыі і мадзьярызацыі. Рэвалюцыянеры абапіраліся на ліберальнае сярэдняе дваранства і гарадскую інтэлігенцыю, іх лідарам быў Лаяш Кошут.

18 сакавіка 1848 года Дзяржаўны сход Венгрыі зацвердзіў цэлы комплекс рэформаў, сярод якіх былі адмена прыгонніцтва з перадачай зямлі сялянам за дзяржаўны выкуп, увядзенне ўсеагульнага падаткаабкладання і пазбаўленне прывілеяў дваранства і духавенства, свабода друку, недатыкальнасць асобы і ўласнасці, адказнасць урада перад парламентам і іншае. Аўстрыйскі імператар мусіў зацвердзіць гэтыя рэформы, краіна рабілася канстытуцыйнай манархіяй, а фактычная ўлада апынулася ў руках нацыянальнага ўрада.

Аднак неўзабаве імперскі ўрад у Вене перайшоў у наступленне і паспрабаваў задушыць рэвалюцыю сілай. У жніўні 1848 года пачалася Венгерская вайна, у якой аўстрыйцаў падтрымалі прадстаўнікі іншых народаў імперыі (харваты, сербы, румыны, славакі), якія баяліся венгерскіх імперыялістычных памкненняў. Ваенныя дзеянні амаль год вяліся з пераменным поспехам, а зыход вайны вырашыла інтэрвенцыя расійскай арміі пад камандаваннем генерала-фельдмаршала Івана Паскевіча. Праз два месяцы венгерская армія мусіла капітуляваць, і рэвалюцыя такім чынам была задушана. Праўда, не ўсе запачаткаваныя ёй рэформы былі цалкам згорнутыя.

у палон лорда Джэймса Кардыгана, англійскага генерала. Падчас атакі той адбіўся ад сваёй кавалерыі і адзін заехаў у размяшчэнне расійскіх войскаў. На самотнага вершніка ніхто б і не звярнуў увагі, але Радзівіл пазнаў генерала, з якім калісьці пазнаёміўся ў Лондане, і накіраваў на яго казацкі раз'езд. Паводле ўспамінаў англійскага графа, казакі дзейнічалі так бесталкова, што ён без асаблівых цяжкасцяў прарваўся праз іх ланцуг і вярнуўся ў сваю брыгаду. Атака лёгкай кавалерыі Кардыгана пад Балаклавай стала адной з легендаў Крымскай вайны. Радзівіл жа не імкнуўся трапіць у легенды. З яго хапіла таго, што вайну ён скончыў генерал-лейтэнантам.

**Леан Радзівіл верна служыў царам, хоць слаба ведаў рускую мову**

Значна больш, чым пра ваенныя дасягненні, пры двары гаварылі пра продаж радзівілаўскіх барысаўскіх уладанняў аднаму з вялікіх князёў, нібыта па настойлівай просьбе новага імператара Аляксандра II. Яшчэ больш плётак выклікала сямейнае жыццё Радзівіла. Амаль увесь час Соф'я і Леан жылі паасобку. У розных гарадах і нават розных краінах. Яна някепска пачувалася ў Парыжы, пры двары французскага імператара Напалеона III, а ён завёў у Пецярбурзе раман з балетнай прымай Карлотай Грызі. Урэшце дайшло да разводу і скандальнага падзелу маёмасці. Пасля чаго генерал стараўся трымацца далей ад імператарскага двара.

Трывожны 1863 год ён правёў за мяжой, адкуль пісаў скаргі на абкладанне маёнткаў кантрыбуцыяй, што крыўдзіла вернападданніцкія пачуцці.

Падчас руска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў імператар Аляксандр II раптоўна выклікаў старога генерала ад кавалерыі ў сваю стаўку пад Плеўнай. Прычынай былі зусім не вайсковыя таленты. Проста самадзержцу, які нудзіўся ў палявым лагеры, спатрэбіўся дасціпны і вясёлы суразмоўца. Некалькі тыдняў Радзівіл правёў у стаўцы, гуляў з Аляксандрам у карты і адпускаў жарты ў бок прыдворных, пасля чаго ад'ехаў, спаслаўшыся на кепскае здароўе.

### Праблемы перакладу

Леан Радзівіл атрымаў хатнюю адукацыю. Яго настаўнікам быў французскі эмігрант, таму роднай мовай для князя стала французская. А вось з рускай у яго доўгі час былі праблемы. На манеўрах 1836 года імператар адправіў князя з загадам да аднаго з генералаў. Загад прагучаў па-руску, праз што Радзівіл кепска зразумеў яго сэнс і перадаў не тое, што патрабавалася. Гэты выпадак моцна раз'юшыў Мікалая І.

### Ці была родавая памяць?

Беларускай рэзідэнцыяй Леана Радзівіла быў маёнтак Радзівілімонты (цяпер Чырвоная Зорка Клецкага раёна Мінскай вобласці). Тут дзейнічалі адміністрацыйная і фінансава-прававая службы Клецкай ардынацыі, знаходзіўся архіў гаспадарчых і гістарычных дакументаў. Па ініцыятыве князя драўляны палац канца XVIII стагоддзя быў перабудаваны ў стылі класіцызму і ў такім выглядзе прастаяў да пажару ў 1985 годзе. З Радзівілімонтаў зручна было дабірацца як да Дзяніскавіцкіх, так і да Грэскіх лясоў, дзе Леан ладзіў гучныя паляванні. Казалі, за сваё жыццё ён здабыў не менш за трыста мядзведзяў. Але спраўдзіць гэта цяжка.




На канверце «Белпошты», які быў выпушчаны да 225-годдзя сядзібы ў Радзівілімонтах (мастак Мікола Рыжы), **паказаны выгляд княскай рэзідэнцыі ў 1840-я гады**, калі яна была перабудавана архітэктарам Янам Ельскім. Малюнак зроблены паводле фота пачатку XX стагоддзя.



А вось наступны факт падмацаваны дакументальна: з 1840 па 1854 гады на сродкі каталіка Леана Радзівіла былі адрамантаваныя восем праваслаўных цэркваў у Слуцкім павеце і адна царква на Барысаўшчыне. Пераважна — сельскія драўляныя храмы. Выключэнне складае каменная Свята-Уваскрасенская царква ў Клецку, перабробленая з зачыненага дамініканскага касцёла. У гэтым выпадку галоўная роля належала Соф'і Урусавай. Яна палічыла, што выгадней адрамантаваць стары касцёл, чым будаваць новую царкву, як таго патрабавалі ўлады. Князь не стаў пярэчыць жонцы.

Тым больш ён ніколі не пярэчыў уладзе. Хаця некаторыя даследчыкі лічаць, што менавіта ўмяшальніцтва Леана Радзівіла не дазволіла ператварыць у царкву славуты касцёл Божага Цела ў Нясвіжы. Мяркуюць, што тут спрацавала родавая памяць, як і ў выпадку з помнікам на Бярэзіне.

У 1836 годзе ўлады збіраліся паставіць помнік каля вёскі Студзёнка ў гонар перамогі над Напалеонам. Паколькі гэтыя мясціны належалі Леану Радзівілу, патрабаваўся ягоны дазвол. Адміністратар маёнткаў запэўніў, што перашкод з боку князя не будзе. Але запланаваны помнік так і не паўстаў. Паводле адной версіі, гэтаму перашкодзіў Леан (усё ж такі яго сваякі ваявалі на баку Напалеона). Па другой версіі, на помнік проста не знайшлі грошай, а Радзівілу было ўсё роўна, што стаіць на яго зямлі. Галоўнае, каб гэта не ўскладніла кар'еру.



Пра сучасны стан Радзівілімонтаў глядзіце выпуск праграмы Юрыя Жыгамонта «Падарожжа з дылетантам».



**Свята-Уваскрасенская царква на Рыначнай плошчы Клецка**, перароблена з былога дамініканскага касцёла. Фота пачатку XX стагоддзя.

### На схіле жыцця

Старасць прымусіла Леана падумаць пра лёс ардынацый. Ён не меў дзяцей (незаконнанароджаная дачка Карлоты Грызі спадкаемніцай не лічылася). Аддаваць ардынацыі ў чужыя рукі катэгарычна забаранялася. Таму ў 1874 годзе Леан перадаў усе землі пляменніку Антонію Вільгельму — палкоўніку прускай арміі. Узамен той абавязаўся штогод выплачваць дзядзьку 36 000 рублёў срэбрам. Для параўнання: у 1873 годзе чысты прыбытак Леана з Клецкай і Давыд-Гарадоцкай ардынацый, Цімкавіцкіх, Грэскіх, Сталовіцкіх і Пацейкаўскіх маёнткаў склаў 51 559 рублёў 22 капейкі срэбрам. З гэтай сумы 17 000 рублёў князь мусіў аддаваць на ўтрыманне былой жонкі. Так што здзелка выглядала выгаднай для старога генерала. Да таго ж ён захаваў за сабой права беспярашкоднага палявання ў ардынацкіх лясах. А профіт Антонія палягаў у тым, што ён аб'ядноўваў у сваіх руках усе беларускія ўладанні роду.

Рэшту жыцця Леан Радзівіл правёў у Парыжы, дзе цікавіўся балетам і балерынамі. Там ён і памёр 8 студзеня 1885 года. Цела князя было перавезена ў Нясвіж і пахавана ў фамільным склепе пад касцёлам Божага Цела. Атожылак магутнага роду не пакінуў па сабе іншай памяці, як балетаман, гуляка і чалавек, які забаўляў двух імператараў. ◆

# Спонсары вялікіх князёў

## Як габрэі Вялікага Княства Літоўскага сталі неад'емнай часткай грамадства

**Габрэі ў ВКЛ замянялі сабой банкі. Яны пазычалі грошы дзяржаве, якая часта не спяшалася іх аддаваць. Габрэяў у княстве шанавалі і ім жа зайздросцілі, піша Андрэй Шпунт.**

### Пачатак гісторыі

Габрэі былі аднымі з першых іншаземцаў, якія стала аселі на нашых землях. Пераважна гэта былі купцы, выціснутыя ў канкурэнтнай барацьбе мяшчанскімі гільдыямі Еўропы. Неўзабаве да купцоў далучаліся ліхвяры і фактары, то-бок пасярэднікі ў розных здзелках.

Недахоп пісьмовых крыніц не дае нам магчымасці нешта распавесці пра гісторыю габрэяў у ВКЛ да канца XIV стагоддзя, хоць іх прысутнасць тут і ў больш раннія часы цалкам верагодная. Але пунктам адліку ў засяленні гэтым народам тэрыторыі княства прынята лічыць 24 чэрвеня 1388 года, калі габрэі Берасця атрымалі прывілей з пацвярджэннем іх грамадзянскіх правоў ад вялікага князя Вітаўта. Неўзабаве падобныя прывілеі атрымалі таксама габрэі Трокаў і Гародні. Тым самым габрэйскія грамады фактычна не толькі легалізаваліся, але і трапілі пад велікакняжацкі пратэктарат.

**По сваіх правах габрэі ВКЛ былі спачатку практычна роўныя шляхце**

Гэта было ўзаемавыгадна. Гнаны адусюль народ хацеў хоць нейкай стабільнасці і гарантый, а ўлады ВКЛ, у сваю чаргу, былі зацікаўленыя ў эканамічным развіцці дзяржавы. А гэтаму несумненна спрыялі прадпрымальны характар уцекачоў і іх грошы.

Асабістыя правы літоўскіх габрэяў сягалі далей за замацаваныя ў аналагічных заходнееўрапейскіх граматах і спачатку былі практычна роўныя з правамі шляхты. Прытым было гэта не толькі на паперы. Пры ўласным жаданні габрэі маглі служыць у войску, яны гэтак жа апраналіся і насілі тую ж зброю, што і літоўская шляхта. Уступаючы ў шчыльныя зносіны з хрысціянскім асяроддзем, яны паступова асіміляваліся, пра што сведчаць, напрыклад, такія іх славянскія мянушкі, як Зубец, Рабчык, Альшэйка, Краўчык, Глухі і падобныя.

### Габрэйская шляхта

Самымі вядомымі габрэямі, якія сталі літоўскімі шляхцічамі, былі браты Езафовічы. Старэйшы брат, Ян Абрагам Езафовіч Рабінковіч, прыняў хрост у канцы XV стагоддзя, падчас рэпрэсій, якія чыніў супраць габрэяў вялікі князь Аляксандр Ягелончык. Ён быў земскім падскарбіем і членам Рады ВКЛ, буйным фінансістам і землеўладальнікам. Узведзены Жыгімонтамам Старым у шляхецтва, ён паклаў пачатак роду Абрамовічаў герба «Ляліва». Сын Абрагама Васіль быў берасцейскім войтам, а другі сын, Канстанцін, — менскім. Брат Яна Абрагама Міхель хрост не прыняў, таму вымушаны быў разам з іншымі апальнымі габрэямі пакінуць княства ў 1495 годзе. Але пасля вяртання, не без дапамогі ўплывовага сваяка, ён хутка аднавіў багацце і добрыя адносіны з уладай. Рабіў мноства паслуг дзяржаўнаму скарбу, які з часам цалкам аказаўся пад яго кантролем. Жыгімонт І Стары адзначыў высілкі Міхеля ў справе павелічэння дзяржаўнага дабрабыту і ў 1525 годзе таксама ганараваў яго шляхецкім тытулам, пад тым жа самым гербам, што і ягонага брата Абрагама.

### Велікакняскія банкіры

Самыя багатыя габрэі складалі замкнёнае кола і займаліся галоўным чынам водкупамі. Гэта значыць, што за пэўную плату яны атрымлівалі ад дзяржавы права збору з насельніцтва розных дзяржаўных збораў. На гэтым рабіліся вялікія капіталы, і багацце такіх людзей рэзка кантраставала з матэрыяльным станам асноўнай габрэйскай масы. Тая вяла, як правіла, розныя дробныя гандлёвыя і фінансавыя аперацыі, пры якіх нярэдка абаротныя сумы пазычаліся пад заклад хатніх рэчаў, нават верхняй вопраткі. Неяк стачыць канцы з канцамі гэта дазваляла, але нічога асабліва зайздроснага не было.

Ну а габрэі-адкупшчыкі былі багацейшыя і за мясцовых купцоў-хрысціян. Якімі сумамі адкупшчыкі варочалі, можна ўявіць з таго, што яны маглі сабе дазволіць чакаць па тры гады і больш сплаты такіх буйных сумаў, як 300, 400 і больш коп літоўскіх грошаў, набывалі цэлыя вёскі за 100 коп. У той жа час цэлая берасцейская габрэйская грамада, самая ўплывовая і заможная ў ВКЛ, у 1571 годзе залажыла для нейкіх сваіх патрэб срэбраныя сінагагальныя рэчы і на працягу шасці год была не ў стане іх выкупіць, хоць закладная сума разам з працэнтамі складала толькі 26 коп.

Багатыя габрэі ратавалі ад фінансавага краху пераемнікаў князя Вітаўта, якія пастаянна мелі праблемы з грашыма. Яны пазычалі ім вялікія сумы, а вяртання іх пагаджаліся чакаць гадамі. І аднойчы за гэта моцна пацярпелі.

**Багатыя габрэі ратавалі ад фінансавага краху пераемнікаў Вітаўта**

Вялікі князь Аляксандр, пры якім ВКЛ ваявала з Маскоўскай дзяржавай і праз гэта патрабавала шмат наяўных грошай, аднойчы не ўтрымаўся ад спакусы вырашыць фінансавыя праблемы радыкальным шляхам: скасаваць даўгі перад габрэямі сваіх папярэднікаў, захапіць габрэйскія грошы, нерухомасць і зямельныя ўладанні, а саміх сыноў Ізраіля «з зямлі нашай вон выбіць». Гэта было ў 1495-м. Спачатку ўсе, апрача габрэяў, былі гэтым задаволеныя, асабліва даўжнікі, але хутка аказалася, што перамога гэтая была піравай.

У 1501 годзе Аляксандр стаў каралём Польшчы, але ▶





Габрэй (крайні злева ў верхнім шэрагу) сярод іншых нацыянальных і сацыяльных групаў Рэчы Паспалітай на гравюры 1655 года **«Плач людзей розных станаў над памерлым крэдытам»** («Lament różnego stanu ludzi nad umarłym kredytem»).


WIKIMEDIA COMMONS

**Віленскі гаон, або Эліяху бен Шлома Залман** (1720–1797) — самы ўплывовы духоўны аўтарытэт літоўскіх габрэяў. Распрацаваны ім напрамак у артадаксальным іўдаізме атрымаў назву міснагедскага, альбо літоўскага. Гаон, што азначае «геній», нарадзіўся ў Сяльцы Бярозаўскага раёна — ён зямляк Алеся Разанава.

паўтарыць тое ж самае з каронnымі габрэямі ён не мог, бо тыя значна пераўзыходзілі літоўскіх па колькасці, значнасці ды багацці, а таму мелі магутных абаронцаў. Тым часам без габрэяў фінансавая сістэма ВКЛ пачала адчуваць праблемы. Немцы і швeды, якія прыйшлі на іх месца, аказаліся куды менш згаворлівымі. Таму ў 1503 годзе эксперымент бясслаўна скончыўся. Аляксандр даў дазвол габрэям вярнуцца і атрымаць назад канфіскаванае ў іх, а таксама спагнаць грошы з даўжнікоў. Праўда, за гэта ён запатрабаваў ад грамады выставіць у войска тысячу вершнікаў, ад чаго габрэі адкупіліся грашыма.

Гады на чужыне не прайшлі для іх дарэмна. Габрэі вярнуліся з выгнання аб'яднаныя і кансалідаваныя. З нешматлікай канфесійна-этнічнай меншасці яны паступова пераўтвараюцца ў буйную частку народа ВКЛ агульнай колькасцю больш за 100 тысяч чалавек.

### «Ды не адважацца насіць золата і срэбра»

У «залатым» для ВКЛ XVI стагоддзі дасягае свайго росквіту і мясцовае габрэйства. Расце ўплыў габрэйскіх капіталаў на эканоміку краіны, і ўвогуле жыць габрэям было тут дастаткова камфортна, асабліва ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі. Папскі легат кардынал Джавані Францэска Камендонэ пісаў у 1565 годзе, наведаўшы ВКЛ: «У гэтых землях сустракаецца яшчэ шмат габрэяў, якімі тут не так грэбуюць, як у некаторых іншых месцах. Яны тут не жывуць у няшчасным становішчы і не займаюцца толькі нізкімі промысламі, але валодаюць зямлёй, займаюцца камерцыяй, вывучаюць медыцыну і астраномію. Яны валодаюць значнымі багаццямі і не толькі стаяць у шэрагу годных людзей, але і часта нават маюць уладу над імі. Яны не носяць ніякага знаку адрознення ад хрысціян, ім нават дазваляецца насіць зброю. Наогул, яны карыстаюцца ўсімі правамі грамадзян».

**Аляксандр запатрабаваў ад габрэяў выставіць у войска тысячу вершнікаў, ад чаго тыя адкупіліся грашыма**

Пры гэтым жыццё ў ВКЛ працякала для габрэйскай грамады куды больш спакойна, чым у суседняй Польшчы, дзе мяшчанства буйных гарадоў, асабліва на захадзе, пераймала нямецкі антысемітызм, узмоцнены ў той час Рэфармацыяй.

Але зусім ідэалізаваць сітуацыю ўсё ж не варта, бо здараліся і спробы дыскрымінацыі. Гэтым адзначыўся Другі Статут ВКЛ 1566 года з яго дванаццатым раздзелам — ініцыятывай дробнай шляхты: «Ды не адважацца габрэі хадзіць у дарагіх строях з залатымі ланцугамі, а іх жонкі ў золаце і срэбры. Ды не адважацца габрэі насіць срэбра і золата на шаблях і ножнах... Хай носяць яны жоўтыя капелюшы, а жонкі іх наміткі з жоўтага палатна, каб кожны мог адрозніць хрысціяніна ад габрэя». Праз два дзесяцігоддзі Трэці Статут ВКЛ 1588 года, праўда, скасаваў большасць зневажальных палажэнняў, а шляхта ўжо не настойвала на тым, каб увасобіць сваю зайздрасць ці глупства ў форме закона.

### Моц — у кагале

Пасля Люблінскай уніі і згасання дынастыі Ягелонаў моц каралеўскай і велікакняжацкай улады пачынае саступаць шляхецкай анархіі. Гэта стварала для габрэяў небяспечныя выклікі, таму адначасова ўзмацняецца габрэйская кагальная арганізацыя.

Кагал (са старажытнагабрэйскага «кэгіла» — суполка) — гэта свайго роду ўрад габрэяў пэўнай мясцовасці: складаная арганізацыя, якая ахоплівала сваімі паўнамоцтвамі самыя розныя сферы: рэлігійна-выхаваўчую, адміністрацыйна-фінансавую, судовую, пасрэдніцкую (паміж габрэйствам і знешнімі ўладамі). Сэрцам кагалу была сінагога. Пры ёй месціўся сінагагальны двор — малельня і вучэльня, грамадскія лазні, кагальны дом, прытулак для бяздомных. Неадрыўна ад сінагагальнага комплексу існавалі габрэйскія могілкі.

Тон у кагальным жыцці задавалі габрэйскія багацеі, яны ж бралі на сябе і асноўныя яго фінансавыя выдаткі.

Кагалы розных мясцовасцяў мелі паміж сабой сувязі. А для каардынацыі іх дзейнасці ў 1580 годзе быў створаны «**Ваад** (з іўрыта — камітэт) абласцей», які аб'ядноўваў усе буйныя кагалы Рэчы Паспалітай.

У новых рэаліях, калі вялікі князь або кароль ужо не надта мог абараніць габрэяў ад шляхты, ролю іх абаронцаў узялі на сябе магнаты. Яны аддавалі сваю гаспадарку пад габрэйскі нагляд, а габрэй выступаў пасрэднікам у ланцужку «пан — селянін». Натуральна, што стаўленне сялян


WIKIMEDIA COMMONS

**Габрэі моляцца ў сінагозе на свята Ём-Кіпур.** Карціна Маўрыцыя Готліба, 1878 год. Захоўваецца ў Тэль-Авіўскім музеі выяўленчых мастацтваў.


КОРН И. ИУДАИЗМ В ИСКУССТВЕ. МИНСК, 1997

**Свяцільнік, які запальвалі на габрэйскае свята Ханука.** XVIII стагоддзе.

да сваіх наглядчыкаў не заўсёды было станоўчым. З мяшчанствам, якое было канкурэнтам для габрэяў у гандлёвых і фінансавых справах, адносіны таксама складваліся часам напружана, але кароль і магнатэрыя не дазвалялі і тут пераступаць межы.

Агульная колькасць габрэяў да сярэдзіны XVI стагоддзя ў Рэчы Паспалітай дасягнула паўмільёна. Тады гэта была не закрытая каста і не аднародная гаспадарчая група, а буйная частка народа, дзейнасць якой праяўлялася ў розных сферах сацыяльна-эканамічнага жыцця. Але многае змянілася пасля вайны з Масквой 1654–1667 гадоў, пасля якой не засталася ранейшай ні сама Рэч Паспалітая, ні габрэйская грамада ў ёй.

### Ад заняпаду да ўздыму

Спачатку ў 1648 годзе на Украіне выбухнула казацкае паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Надпіс «А ляхам, жыдам і папам-супастатам сім бердышом заграю на іх тоўстых шыях», які «аздабляе» бердыш на адным з партрэтаў Хмяльніцкага — сціслы маніфест, у якім згаданыя тры саслоўі ўвасабляюць сабой незадаволенне казацтва ўласным палітычным, эканамічным і рэлігійным становішчам. Ахвярамі казацкага антысемітызму ў гэты час сталі многія ўкраінскія габрэі, ды і беларускім, асабліва ў паўднёвых абласцях ВКЛ, куды дабіраліся казацкія загоны, моцна дасталася. А праз шэсць гадоў пачалася трынаццацігадовая крывавая вайна з Масквой, вынікі якой сталі катастрафічнымі для ўсёй дзяржавы, беларускае габрэйства тут не склала выключэння. У многіх беларускіх мясцовасцях габрэйскія грамады былі выразаныя ледзь не пагалоўна.

Найлепшыя рабіны падчас той вайны загінулі, габрэйскія навучальныя ўстановы пуставалі пасля яе некалькі гадоў.

### Хрысціянізацыя

Дзяржаўная ўлада ўсяляк спрыяла пераходу габрэяў у хрысціянскую веру, хоць не выкарыстоўвала для гэтага сілы, а дзейнічала праз наданне прывілеяў. Кароль Жыгімонт III Ваза, вядомы як гарачы каталіцкі вернік, за пераход габрэя ў хрысціянства гатовы быў даваць яму шляхецтва. Гэта было, дарэчы, замацавана ў артыкуле 5 Трэцяга Статута ВКЛ 1588 года: «А калі б які жыд да веры хрысціянскай прыступіў, тады такая асоба і яе нашчадкі шляхцічамі павінны лічыцца».
І такі бонус часам быў прыцягальным. У XVI стагоддзі 350 габрэяў прынялі хрысціянства і сталі пачынальнікамі шляхецкіх родаў.

Не стала былой кансалідацыі, што выклікала ўнутраныя спрэчкі. Па дапамогу ў іх вырашэнні кагальная старшына ўсё часцей звяртаецца да дзяржаўнай улады. Пераадольваючы вынікі вайны, габрэі вымушаныя былі рабіць пазыку за пазыкай, звычайна пад забеспячэнне кагальнай нерухомасцю. Так большая частка кагальнай маёмасці аказалася ў бестэрміновым закладзе.

## Да канца XVIII стагоддзя ў некаторых мястэчках насельніцтва стала габрэйскім амаль на 100%

Але праходзіў час, і жыццё лепшала. У XVIII стагоддзі ў гарадах ВКЛ склаліся больш спрыяльныя ўмовы для заняткаў гандлем і рамёствамі, чым гэта было ў Каралеўстве Польскім. Габрэйскі кагал, плацячы гораду падатак, знаходзіўся тут па-за юрысдыкцыяй гарадскога магістрата. Гэта стымулявала габрэяў з Польшчы і Украіны перасяляцца ў Беларусь і Літву, у выніку чаго іх колькасць імкліва расла.

Менавіта ў апошняе стагоддзе існавання Рэчы Паспалітай склалася сітуацыя, калі ў некаторых беларускіх гарадах габрэйскае насельніцтва стала складаць вельмі значны працэнт, нават да паловы насельніцтва.


ФОТА ВОЛЬГІ МАТАФЕЕ-ЧАВАН, TOUR GUIDE IN BREST

Невялікае мястэчка Ленін (назва старажытная, не ад прозвішча пралетарскага правадыра) у Жыткавіцкім раёне ў габрэйскім свеце вядомае перадусім **унікальнымі драўлянымі мацэвамі (надмагіллямі)** на мясцовых могілках.

Так, у Менску ў 1800 годзе з 6 852 жыхароў 3 182 былі габрэямі. А ў многіх мястэчках габрэі сталі нават яўна пераважаць, прытым аж да таго, што да канца XVIII стагоддзя, напрыклад, у такіх мястэчках, як Пружаны ці Сянно, насельніцтва стала габрэйскім амаль на 100%.

Такая дэмаграфічная сітуацыя прынцыпова не мянялася аж да Другой сусветнай вайны. Тым больш што яе захаванню надта спрыяла палітыка Расійскай імперыі з яе рысай аселасці для габрэяў і забаронай ім сяліцца на вёсцы ды займацца сельскай гаспадаркай. ◆



# «Тройца» з Дастоева

**Пра што нам гаворыць абраз XVII стагоддзя, расказвае кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Флікоп-Світа.**

Мы не ведаем, хто быў гэты майстар. Вядома толькі, што ён працаваў у ваколіцах Янава. Цяпер гэты горад у Брэсцкай вобласці часцей называюць Іванава, а тады гэта было паселішча на перыферыі гістарычнай Піншчыны.

Абраз «Тройца» спачатку знаходзіўся ў царкве Святой Тройцы каля Дастоева — менавіта адтуль, дарэчы, паходзіць род Дастаеўскіх. Пазней святыня нейкім чынам трапіла ў царкву Пакрова Багародзіцы ў Янаве, а адтуль у 1977 годзе — у Музей старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. Яе падчас навуковай экспедыцыі выявілі ў Янаве супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

Сюжэт іконы — вядомы эпізод Старога Запавету, калі першаму з біблейскіх патрыярхаў, старому Аўраму, у дуброве Мамрэ паказаўся Бог у выглядзе трох анёлаў. Аўрам і яго жонка Сара іх гасцінна сустрэлі: зарэзалі і прыгатавалі цяля, спяклі хлеб. Візіт вандроўнікаў да старога набожнага чалавека быў знакам — неўзабаве пасля гэтай сустрэчы ў гасцінных гаспадароў нарэшце нарадзілася доўгачаканае дзіця, сын Ісаак. Нашчадкі якога пачалі рухаць біблейскую гісторыю далей.

Паводле багаслоўскага тлумачэння, анёламі-гасцямі былі тры ўвасабленні Тройцы: Бог-Айцец, Бог-Сын і Бог – Святы Дух. Гэта можа здзіўляць, бо з дакладнасцю вучэнне пра траістасць Бога дадзена толькі ў Новым Запавеце, а гэты сюжэт — са Старога. Але ўсё тлумачыцца тым, што вытокі новазапаветнага вучэння пра траістасць хрысціянскія багасловы бачаць менавіта ў з'яўленні «трох мужоў» Аўраму. І прысутнасць сярод іх Ісуса Хрыста, які нарадзіўся праз тысячы гадоў пасля таго, іх не бянтэжыла.

Іканапісцы на сваіх творах паказвалі будынкі, вопратку персанажаў, прадметы побыту, флору, ландшафт не такімі, якімі яны былі ў рэальнасці ў біблейскіх мясцінах, а такімі, як яны іх бачылі ва ўласным жыцці. Таму многія помнікі беларускага іканапісу — не толькі пра Бога і біблейскія сюжэты, але і пра сучаснае для іх аўтараў жыццё. І гэтае «бытавое ў сакральным» і «сакральнае ў бытавым» зачароўвае. ◆

**Музей старажытнабеларускай культуры** валодае ўнікальнай калекцыяй нацыянальнага мастацтва. У ім захоўваецца больш за 11 з паловай тысяч экспанатаў, у тым ліку 800 твораў іканапісу і жывапісу, каля 800 твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, больш за 200 скульптур, каля 1300 помнікаў этнаграфіі, каля 2000 прадметаў керамікі і шкла, каля 550 мастацкіх тканін і каля трох тысяч узораў народнага ткацтва.
Адрас: Мінск,вуліца Сурганава, 1/2.



**Дом** — абавязковы кампанент сюжэта пра Святую Тройцу, ён ёсць на ўсіх абразах на гэту тэму. У гэтым выпадку мы бачым звычайную для тутэйшых прастораў барочную камяніцу, пакрытую дахоўкай.



З яе з гаршчочкамі ў руках выходзяць гаспадары, каб частаваць сваіх гасцей. Аўрам і Сара падобныя да беларусаў.

**Дуб** — наступны абавязковы кампанент троічнага сюжэта. Гэта напамін, што падзея адбываецца ў старазапаветнай Мамрыйскай дуброве. Прычым янаўскі іканапісец увасобіў не ўмоўнае дрэва, а сапраўдны дуб — прыгледзьцеся да формы лісця. Звяртае на сябе ўвагу і колькасць галінак — іх тры. Цяжка дакладна сказаць, імкнуўся іканапісец укласці ў гэтую колькасць глыбінны сэнс ці проста кіраваўся натурнымі назіраннямі. Але можна выказаць здагадку, што ў такой выяве ён увасобіў сутнасць Божага трыадзінства.

**Цэнтральны анёл** — увасабленне Ісуса Хрыста. Толькі ў яго німб упісаныя тры літары, якія трэба чытаць як «Існы». Увогуле, анёлы, напісаныя на іконах, маглі быць і раўназначнымі, без вылучэння адной з постацяў. Аднак магло быць і так, што адна з фігур з'яўлялася візуальным увасабленнем Бога-Сына. На абразе з Дастоева мы акурат і бачым такі выпадак.

**99-гадовы Аўрам і 90-гадовая Сара** гасцінна сустракаюць трох анёлаў, якія прынеслі ім вестку пра дзіця.

Ікона мае абсалютна выверaную сіметрычную кампазіцыю, што з'яўляецца адметнасцю гэтага помніка. Выключэнне — **жэсты дабраславення анёлаў**, якія паказаныя люстэркава. Гэтаму ёсць лагічнае тлумачэнне: калі б яны былі напісаныя сіметрычна адносна восі, то атрымалася б так, што адзін з анёлаў бласлаўляе левай рукой.



А вось **келіх для піцця** адзін на траіх анёлаў. Гэта не памылка іканапісца — гэта намёк на еўхарыстыю (прычасце). Зрэшты, і побытавы звычай на святы піць з адной чаркі, пускаючы яе па коле, пад Янавам захоўваўся да другой паловы XX стагоддзя.

У **глыбокай дэкаратыўнай талерцы** на стол пададзена цяля, якое Аўрам зарэзаў, а Сара прыгатавала адмыслова для гасцей. Гэтая пасудзіна падобная да тагачасных металічных балеек, аздобленых прачаканенымі арнаментамі.



На рускіх абразах з сюжэтам Тройцы ў гэтым баку кампазіцыі, супрацьлеглым ад дома, звычайна адлюстравана гара — напамін пра мясціны, дзе адбываліся старазапаветныя падзеі. Аднак на беларускіх абразах XVII–XVIII стагоддзяў **горы адсутнічаюць**. Тлумачэнне гэтаму простае: мясцовыя майстры пісалі на выявах ландшафт, знаёмы ім па навакольным асяроддзі, а не той, які быў у экзатычных краінах з Бібліі. А пад Янавам, якое ляжыць на поўдні ўрадлівага, багатага Загароддзя — мясцовасці, вядомай вам яшчэ па такіх назвах, як Моталь ці Хомск, гор няма, гэта суцэльная раўніна.

**Рэльефны дэкаратыўны фон**. Выконваўся ён наступным чынам: на дошку наносіўся тоўсты слой ляўкасу (спецыяльны грунт на аснове крэйды, ільнянога алею і рыбінага клею), пазначаліся абрысы малюнка, а свабодны ад выяваў фон аздабляўся прарэзаным па ляўкасе або вылепленым з яго арнаментам. Звычайна ён залаціўся, радзей — серабрыўся. У дадзеным выпадку бачым апошні варыянт. Гэта стварае большую вытанчанасць твора.



Яшчэ адно сведчанне, што перад намі Ісус Хрыстос — колеры яго вопраткі. Паводле традыцыі, Ісуса на іконах адлюстроўвалі ў **пурпуровым хітоне і сінім гіматыі** (накідцы).

Калі, малюючы Ісуса, мастак цвёрда прытрымліваўся правілаў, то ў выпадку з іншымі анёламі ён дазволіў сабе крыху творчай свабоды — намаляваў ім **каўнеры і гузікі на хітонах**.



Іканапісец насупраць кожнай постаці напісаў **талерачку з лыжкай і ножыкам**. У XVII стагоддзі ў Вялікім Княстве Літоўскім відэльцамі яшчэ не карысталіся, і мастак не меў уяўлення пра гэты прыбор.



Іканапісец старанна — для кожнага госця — намаляваў **пачастунак**: на стале ляжаць тры грушы, тры яблыкі, тры гронкі вінаграду, тры белыя карняплоды — здаецца, гэта пастарнак; на краі стала тры хлябы. Сервіроўка стала, форма крэслаў, на якіх сядзяць анёлы, — гэта дэталі, узятыя з рэалій жывапісца.



**Дубовыя мацэвы на могілках колішняга мястэчка Ленін** (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці). Дарэчы, Ленін — назва спрадвечная, а не перайменаваная, як шмат хто думае. А Жыткавічы даўней называліся «Жыдкавічы».

ФОТА ВОЛЬГІ МАЛЬФЕЛЬЧАВАЙ. TOUR GUIDE IN BREST

# «А не будзе дошак, пахаваюць як жыда»

## Як габрэі хавалі нябожчыкаў і што пра гэта думалі беларусы



**Традыцыі пахавання моцныя ў любой нацыянальнай культуры. Моцна трымалася ўласных і габрэйская супольнасць.**
**Піша Ірына Ваўранюк з Берасця.**

Першыя габрэйскія могілкі на тэрыторыі Беларусі з'явіліся, хутчэй за ўсё, у Берасці, іўдзейскай грамадзе якой князь Вітаўт у 1388 годзе дараваў першы вядомы ў ВКЛ прывілей. А далей яны з'яўляліся ўсюды, дзе сяліліся габрэі. У першай палове XX стагоддзя, апошні перыяд існавання традыцыйнай габрэйскай супольнасці на нашай зямлі, такія некропалі былі ў кожным беларускім мястэчку і горадзе, а ў некаторых нават і па некалькі, калі мястэчка было густа населенае іўдзеямі і яны жылі там здаўна. Напрыклад, у невялікім нават цяпер райцэнтры Камянцы на Берасцейшчыне габрэйскіх могілак было ажно тры.

### «Апошняя паслуга»

Габрэйскія могілкі называліся **кіркутамі** і былі ўласнасцю грамады. Як правіла, яны размяшчаліся за гарадской мяжой і былі аддзеленыя натуральнай ці штучнай агароджай: вадаёмам, земляным валам, плотам. У межах горада могілкі не закладалі, бо гэта супярэчыла іўдзейскай (як, зрэшты, і хрысціянскай) традыцыі і да таго ж узмацнялася эканамічным чыннікам: зямля за горадам, асабліва неўрадлівая, каштавала значна танней.

### Самыя старажытныя вядомыя мацэвы

заходнебеларускага рэгіёна — надмагіллі XVIII стагоддзя. Яны захаваліся на кіркутах Ружан і Шарашова (Пружанскі раён Брэсцкай вобласці).

А грамадзе трэба было яе выкупіць.

Адметна, што арганізацыяй хаўтураў займалася не сям'я, а спецыяльныя пахавальныя дабрачынныя таварыствы. Напрыклад, у Заходняй Беларусі ў міжваенны час, калі яна ўваходзіла ў склад Польшчы, былі два такія вялікія таварыствы — «Святое братэрства» і «Апошняя паслуга».

«Святое братэрства» мела глыбокія карані, яно было створана яшчэ ў 1800 годзе ў Берасці, а падставовыя прынцыпы яго дзейнасці сфармулявалі шанаваныя рабіны ў канцы XVIII і ў пачатку XX стагоддзяў. Згодна са статутам, таварыства існавала з сяброўскіх унёскаў і займалася «адданнем апошняй паслугі памерлым габрэям без адрознення полу і ўзросту і без розніцы, ці належаў памерлы да жыхароў горада. Ён павінен быць пахаваны на мясцовых габрэйскіх могілках. Пахаванне павінна праходзіць згодна з усімі рытуаламі і мясцовымі звычаямі».

Да непасрэдных абавязкаў членаў пахавальнага таварыства адносіліся: рытуальнае абмыванне, пераапрананне, праводзіны памерлага на кіркут. Паколькі ўсе члены таварыства былі мужчынамі, ім забаранялася чапаць нябожчыц: «Недапушчальна для мужчын дакранацца да памерлых жанчын... неабходна выказваць паважлівае стаўленне да жанчыны», — наказваў статут таварыства. Хто ж тады праводзіў адпаведныя абрады над нябожчыцамі? Для гэтага запрашалі паважаных жанчын з габрэйскай рэлігійнай гміны (форма габрэйскага рэлігійнага самакіравання пры Польшчы).

Калі нябожчык быў зусім бедны, што здаралася нярэдка, а сям'я не мела за што купіць месца на могілках, то гэтыя выдаткі таксама бралі на сябе пахавальныя таварыствы. Стаць сябрам «Святога братэрства» ці «Апошняй паслугі» было ганарова, таму новых членаў прымалі з улікам прыстойнасці іх ладу жыцця, плацежаздольнасці адносна ўнёскаў і пры ўмове згоды большасці дзейных членаў на галасаванні. ▸

### Куды падзеліся мацэвы?

У Берасці перад вайной вялікі кіркут знаходзіўся непадалёк ад сённяшняга цэнтра. Немцы пачалі разбураць яго яшчэ падчас акупацыі, калі размясцілі там супрацьпаветраныя ўстаноўкі і бункеры, для чаго частку могілак ачысцілі ад мацэў.
Мелася таксама распараджэнне акругавага камісара ад 23 сакавіка 1943 года, каб зраўняць рэшту могілак з зямлёй. Але гэты загад не быў выкананы, што адлюстравана ў архіўных дакументах і ўспамінах мясцовых жыхароў.
Як прыгадвае Уладзімір Губенка, мацэвы з кіркута зніклі ўжо ў пасляваенны час: яны былі знятыя і вывезеныя з могілак нямецкімі ваеннапалоннымі па распараджэнні лагернага начальства (лагер знаходзіўся па суседстве, у калоніі Варбурга). Гэтая акцыя была праведзена па ўзгадненні з гарадскімі ўладамі, якім лагер штодня даваў працоўную сілу, самую шматлікую на той час у горадзе.
Пасля мацэвы выкарыстоўвалі як будаўнічы матэрыял: з іх выраблялі тачылы, жорны, імі высцілалі тратуары, іх перараблялі на хрысціянскія помнікі. Драўляныя мацэвы проста палілі. Большая частка захаваных у Берасці мацэў цяпер знаходзіцца ў жудасным стане і патрабуе неадкладнай рэстаўрацыі. У 1970-я гады на месцы берасцейскага кіркута быў пабудаваны стадыён «Лакаматыў».

Часам здаралася, што два пахавальныя таварыствы не маглі падзяліць паміж сабой нябожчыкаў, а па арбітраж звярталіся за межы габрэйскай супольнасці. Так, у Пінску ў 1927 годзе члены таварыства «Святое братэрства» паскардзіліся палескаму ваяводзе на канкурэнтаў-дабрачынцаў з «Апошняй паслугі», што тыя праводзілі пахаванне габрэяў за грошы, прытым рабілі пахаванні бязладна, чым стварылі на кіркутах антысанітарную сітуацыю.



**Апошні шлях. Габрэйскае пахаванне.** Малюнак Уладзіміра Губенкі.

NEKROPOL-BREST.UCOZ.RU

### Да надыходу цемры

Сам абрад пахавання габрэяў у першай палове мінулага стагоддзя заставаўся вельмі традыцыйным. У выпадку смерці чалавека яго сваякі неадкладна паведамлялі пра гэта ў сінагогу і пахавальнае таварыства. Сінагога вяла ўлік смерцяў, на могілках прысутнічаў рабін або яго намеснік.

Пахавальнае таварыства займалася падрыхтоўкай нябожчыка і самім пахаваннем. Членам сям'і рэкамендавалася як мага менш кантактаваць з мёртвым целам, паколькі яно лічылася ўвасабленнем усяго нячыстага. Цела абмывалі ў спецыяльным памяшканні пры кіркуце ці ў хаце памерлага, пасля чаго нябожчыка апраналі ў белую пахавальную вопратку. Мужчын дадаткова абгортвалі ў «талес», малітоўнае пакрыва, прычым перавага аддавалася асабістаму пакрыву нябожчыка. Жонка памерлага заставалася дома, на могілкі не ішла.

Строгая традыцыя патрабавала хаваць памерлага габрэя ў дзень смерці да наступлення цемры, калі гэта не субота і не святочны дзень. Але гэта не заўсёды можна было здзейсніць з розных прычын, таму ў выключных выпадках адведзены час расцягваўся да трох сутак.

Традыцыя прадпісвала хаваць іўдзеяў проста ў саване, але пад ціскам польскіх санітарных службаў у міжваеннай Заходняй Беларусі і габрэі мусілі ўсё ж пачаць выкарыстоўваць труны.

### «Пакуль наш устане, жыд ужо пайшоў»

Пэўныя элементы абраду габрэйскага пахавання надоўга засталіся ў памяці беларусаў, паколькі выразна адрозніваліся ад іхніх. Як было запісана падчас этнаграфічнай экспедыцыі Вольгі Бяловай у пасёлку Жалудок на Шчучыншчыне ў 2012 годзе: «Габрэі на пахаванні вельмі шмат плакалі, а калі ў нябожчыкаў не было сям'і, наймалі плакальшчыц. Калі ўзыходзіў месяц, нябожчыка накрывалі чорным сукном і, высока падняўшы на насілках, неслі на могілкі. Звычайна праводзілі нябожчыка толькі самыя блізкія сваякі. Цела ляжала ў спецыяльнай чорнай скрыні, якая захоўвалася ў вартоўні на могілках. Магілу абкладалі дошкамі, і абкручанае прасцінай цела апускалі ўніз, дзе яно заставалася ў сядзячым становішчы. На вочы клалі манеты, а таксама кідалі іх у яму. У яме цела накрывалі дошкамі і тады толькі засыпалі зямлёй».

Гэтая дэталь — што хавалі ў сядзячым становішчы — уражвала хрысціян хіба найбольш. І яна нараджала шмат дадумванняў і жартаў. Беларусы спрабавалі тлумачыць усё славутай габрэйскай хітрасцю: маўляў, як надыдзе Страшны суд, «наш пакуль устане, дык жыд хутчэй. Ён ужо сядзіць, падымецца на ногі — і пайшоў». Прыгадвалі, што і самі габрэі перажартоўваліся з суседзямі-хрысціянамі на гэты конт: «Габрэяў хавалі седзячы, яны самі казалі: "Пакуль ваш сядзе, наш ужо пайшоў... каб хутчэй адкрыць краму"».

Яшчэ адно яскравае адрозненне — пахаванне без труны — здзіўляла беларусаў таксама. Пахавальны саван мясцовым здаваўся проста мяшком, таму, калі беларусы абмяркоўвалі ўласныя паховіны і з нейкай прычыны сумняваліся, што сваякі выправяць іх у іншасвет належным чынам, маглі жартам ці ад роспачы сказаць: «А не будзе дошак, пахаваюць як жыда, у мяшку».

### Малюнкі пра габрэяў

Берасцеец Уладзімір Губенка (1932 года нараджэння) пачаў маляваць ужо на пенсіі, калі на тое з'явіўся час. Разам са школьным таварышам яны абыходзілі вуліцы Берасця і прыгадвалі, як усё было ў часы іх юнацтва і як усё было ў вайну (пра апошняе Губенка толькі ўважліва слухаў, бо выязджаў на гэтыя гады да бабулі). Паступова малюнкі калектыўнай памяці пераходзілі на паперу: даваенныя абразкі габрэйскага жыцця, дэталёва задакументаваныя сцэны нямецкіх аблаў, знішчэнне гета. Уладзімір Губенка стварыў сотні замалёвак, па якіх можна вучыць гісторыю горада і краіны.
У 2019 годзе выйшла кніга Уладзіміра Губенкі пра Берасце, значную частку якой складаюць малюнкі і ўспаміны пра габрэяў.



ФОТА АРТУРА ЛЕВІ

**Габрэйскія могілкі ў Берасці.** Пачатак XX стагоддзя.

### Магілы продкаў

Пасля пахавання завяршаўся **Онэн** — першая з трох частак габрэйскай жалобы, якая прыпадала на дзень смерці і пахавання памерлага. Астатнія дзве часткі — **Шыва** і **Шлошым** — доўжыліся, адпаведна, тыдзень і год і завяршаліся абрадам **Хакамат мацэва** (усталяваннем надмагільнага каменя) ды памінальным святам **Ёрцайт**. На працягу ўсёй Шывы ў жалобны дом хадзілі з візітамі спачування, дапамагалі сваякам перажыць страту блізкага.

На Ёрцайт сямейнікі запальвалі спецыяльныя памінальныя свечкі і прамаўлялі асаблівыя малітвы памяці, а ў сінагозе праходзіла памінальная служба. Пасля самы блізкі са сваякоў запальваў дома ёрцайтавую свечку на гадавіну смерці штогод, каб прадэманстраваць пашану і памяць пра чалавека.

Як збольшага і ў нас цяпер, праз год пасля пахавання на магілу памерлага ўсталёўвалі надмагілле. Мы добра ведаем гэтыя каменныя пліты з надпісамі, што ўсталёўваліся на магілы габрэйскіх нябожчыкаў — **мацэвы**. Але, акрамя іх, на кіркутах з'яўляліся таксама **огелі**. Гэта штосьці падобнае на невялікія хрысціянскія капліччкі з дрэва ці каменю, часам упрыгожаныя роспісам ці скульптурай. Такія ставілі над магіламі цадзікаў (духоўных аўтарытэтаў).

Сваякам памерлага неабходна было заплаціць не толькі за выраб помніка, але і спецыяльную пошліну рэлігійнай гміне за дазвол на яго ўсталяванне. Памеры такіх пошлін ваганіся ў залежнасці ад могілак і нават месцаў на іх. Дзесьці можна было абысціся 15 злотымі, а дзесьці заплаціць усе 500, што на тыя часы было буйной сумай.

Тым не менш на гэта ішлі, бо помнік разглядаўся як важны атрыбут месца пахавання. Магіла трактавалася як месца чакання Месіі, і да яе адпаведна ставіліся. З тых жа меркаванняў недапушчальнай была крэмацыя, а пахаванне за межамі могілак асуджала душу на доўгія пакуты. ◆

### Габрэйская Радаўніца

Цягам года іўдзеі абавязкова наведвалі магілы продкаў у месяц элул (дванаццаты месяц габрэйскага календара, прыходзіцца на другую палову жніўня – першую палову верасня), напярэдадні габрэйскага Новага года. Прыходзілі ў асноўным у панядзелак і чацвер, але ні ў якім разе не на святы, у суботу ці ўначы. На магілы прыносілі каменьчыкі. А калі наведвалі магілы цадзікаў, то пісалі ім запіскі-просьбы. Напрыклад, прасілі выдаць дачку замуж ці грошай або маліцца за памерлых родзічаў.


**Тыран са сваімі наёмнікамі прымае дэлегацыю ад грамадзян.** Рэльеф манумента Нерэід каля Ксанфа ў Лікіі. Брытанскі музей, Лондан.

# ТЫРАНІЯ

**Старажытная Грэцыя — радзіма сучаснага палітычнага лексікону. Са старажытнагрэчаскай у сучасныя еўрапейскія мовы прыйшлі такія словы, як «палітыка», «дэмакратыя», «аўтаномія». Адтуль жа прыйшло слова-антыпод усяго вышэйпералічанага — «тыранія». Піша Аляксей Казленка.**

## Паходжанне

Слова «тыран» — не грэчаскага паходжання. Хутчэй за ўсё, яно прыйшло да грэкаў ад іх суседзяў лідзійцаў, якія жылі ў Малой Азіі. Падобны па гучанні тытул правіцеля сустракаецца ў некаторых надпісах, якія захаваліся пасля іх. Вядомы такі тытул быў таксама ў этрускаў у Італіі, якія ў старажытнасці лічыліся нашчадкамі лідзійцаў. Упершыню гэты тэрмін з'яўляецца ў вершах грэчаскага паэта Архілоха ў дачыненні да «вельмізалатога» лідзійскага цара Гіга, які жыў у першай палове VII стагоддзя да н. э. Гэты Гіг шмат ваяваў са сваімі суседзямі, у тым ліку з самімі грэкамі, а таксама валодаў незлічонымі багаццямі. Яго нашчадкі кіравалі Лідзіяй аж да яе заваёвы персамі ў 546 годзе да н. э. Адным з іх быў знакаміты сваім багаццем Кроз.

Спачатку слова «тыран» не мела таго ўстойліва негатыўнага сэнсу, якое яно мае сёння. У процілегласць спадчыннай царскай уладзе, што пераходзіла ад бацькі да сына, тыранамі называлі ўладароў, якія дамагліся панавання ўласнымі высілкамі. Прытым неабавязкова гвалтоўным шляхам. Тыранію маглі добраахвотна ўручыць самі грамадзяне прызнанаму ўсімі лідару за выдатныя заслугі, напрыклад за перамогу над ворагамі. Нярэдка народ надзяляў надзвычайнай уладай заканадаўца, каб ён без лішніх перашкод мог ажыццявіць палітычныя пераўтварэнні ў горадзе.

**У процілегласць спадчыннай царскай уладзе тыранамі называлі ўладароў, якія дамагліся панавання ўласнымі высілкамі**

Славутая трагедыя Сафокла, вядомая ў беларускім перакладзе як «Эдып-цар», у арыгінале па-старажытнагрэчаску называецца «Эдып-тыран». Галоўны герой гэтай трагедыі Эдып у юнацтве вызваліў горад Фівы ад страшнай пачвары Сфінкса. За гэта фіванцы аднадушна абралі яго сваім царом і аж да самай развязкі сюжэта ні разу не пашкадавалі аб сваім рашэнні. Эдып быў мудрым уладаром, які клапаціўся пра дабрабыт свайго народа, толькі вось з асабістым лёсам яму не пашанцавала. Як вядома, ён памылкова забіў свайго бацьку, сам пра гэта не ведаючы, і ажаніўся з жонкай забітага, то-бок уласнай маці. А даведаўшыся пра гэта, добраахвотна пазбавіў сябе зроку.



Трагедыю Сафокла «Эдып-цар» у перакладзе са старажытнагрэчаскай Лявона Баршчэўскага можна пачытаць па спасылцы.



## Барацьба за ўладу

Старажытнагрэчаскі філосаф Арыстоцель вылучаў чатыры галоўныя шляхі ўзнікнення тыраніі. Па-першае, тыранамі станавіліся цары, якія парушалі старадаўнія традыцыі і кіравалі сваім народам дэспатычна. Па-другое, носьбіты выбарных пасад маглі скарыстацца сваімі паўнамоцтвамі для захопу асабістай улады і ліквідацыі народаўладдзя. Па-трэцяе, паноўная алігархія магла прызначыць тыранам кагосьці са свайго асяроддзя, для падтрымання парадку надзяліўшы яго надзвычайнымі паўнамоцтвамі. Урэшце, па-чацвёртае, тыраны нярэдка паходзілі з асяроддзя дэмагогаў, якія жорстка крытыкавалі ранейшае кіраванне знаці і прыходзілі да ўлады на хвалі народнага абурэння.

Усе чатыры тыпы сустракаліся ва ўсе часы, аднак для «Старэйшай тыраніі» VII–VI стагоддзяў да н. э. больш характэрныя рэвалюцыі зверху і правіцелі, якія паходзілі са знаці ды ранейшых уладных колаў. Наадварот, «Малодшая тыранія» IV–III стагоддзяў да н. э. характарызуецца перавагай сярод тыранаў, якія кіравалі ў той час, выхадцаў з сацыяльных нізоў, дэмагогаў і папулістаў.

На агульнагістарычныя перадумовы ўзнікнення тыраніі звярнуў увагу гісторык Фукідыд: «Калі Элада ўмацавалася — пісаў ён, — і набыла больш уладанняў, з'явіліся тыраніі, бо стала больш даходаў».

Сапраўды, кідаецца ў вочы непасрэдная сувязь паміж усталяваннем тыраніі і дабрабытам. Не выпадкова тыранічныя рэжымы раней за іншыя з'явіліся ў такіх буйных гарадах, цэнтрах рамесніцтва і марскога гандлю, як Мілет, Карынф, Афіны, Мегары і іншыя. Гарадское насельніцтва тут жыло значна багацей, чым у іншых месцах. Даход, які прыносілі заняткі рамяством і гандлем, дазваляў найбольш абаротлівым простым людзям назапашваць значныя багацці і прэтэндаваць на больш высокае становішча ў грамадстве, чым яны мелі па праве паходжання.

З іншага боку, для радавой арыстакратыі, якая традыцыйна трымала ў сваіх руках лейцы кіравання грамадствам, паступова ўсё складаней станавілася канкурыраваць з гэтымі новымі ▸



**Карынфскі тыран Перыяндр** дзіўным чынам праславіўся ў якасці аднаго з Сямі мудрацоў. Мармуровы бюст з Ватыканскага музея.

## Карабель у бурным моры

Расчараванне і горыч старажытнагрэчаскай арыстакратыі, ад якой забіралі ўладу тыраны нізкага паходжання, знайшло адлюстраванне ў творах паэта VII–VI стагоддзяў да н. э. Феагніда з Мегары, які і сам паходзіў са збяднелых арыстакратаў. Свой горад, які страціў «уладу найлепшых», Феагнід вобразна параўноўваў з караблём, які трапіў у шторм без руля і ветразя:

Бачу, куды мы імкнемся,
спусціўшы ветрыла,
Морам Меліічскім глухім
скрозь непраглядную ноч.
Чэрпаць ваду не жадаюць,
і плешча сярдзітае мора,
Ужо праз абодва барты;
як тут ад смерці сысці?

Многія сучаснікі Феагніда падзялялі ягоны песімізм, але не ўсім хапала майстэрства, каб укладаць свой смутак у вершаваную форму. Таму большасць дэманстравала свае расчараванне і раздражненне ў іншых, больш канфліктных формах: палітычных спрэчках ці нават сутычках са зброяй у руках.

багацеямі. Яе высокае становішча ў грамадстве грунтавалася на землеўладанні і праве на ваенную здабычу. Ва ўмовах эканамічнага ўздыму гэтых сродкаў пераставала хапаць на падтрыманне дэманстратыўнага, бліскучага ладу жыцця, неабходнага для таго, каб забяспечваць знаці пашану і павагу суграмадзян.

Многія арыстакраты падчас гэтай канкурэнцыі бяднелі, а на змену ім прыходзілі іншыя людзі.

### Папулізм

Сёння гісторыкі лічаць, што тыранія з'яўлялася працягам барацьбы за ўладу, якую з даўніх часоў вялі групоўкі знаці. Амаль усе вядомыя нам тыраны VII–VI стагоддзяў да н. э. выйшлі з арыстакратычнага асяроддзя, мелі знатнае паходжанне і належнае выхаванне. Раней гэтая барацьба ішла за зачыненымі дзвярыма і па спартыўных правілах. Але з ростам значэння сярэдняга класа ў палітыцы частка прэтэндэнтаў вырашыла зрабіць стаўку на іх падтрымку.

Гэтыя людзі сталі вербаваць сабе масу прыхільнікаў шчодрымі абяцаннямі і падарункамі, выступаючы з лозунгамі адмены даўгоў і пераразмеркавання ўласнасці. Сёння мы б назвалі такіх палітыкаў папулістамі. Шырокая грамадская падтрымка забяспечвала ім колькасную перавагу над канкурэнтамі і супернікамі, якія не валодалі такімі рэсурсамі. У некаторых выпадках прыход да ўлады тыранаў быў бяскроўным і абстаўлены фармальнай бачнасцю закона. У іншых выпадках яны выступалі ў якасці лідараў рэвалюцыі.

Праціўнікаў тыранаў падвяргалі рэпрэсіям, іх уласнасць канфіскоўвалася. Гэтую маёмасць тыраны раздавалі сваім паплечнікам, каб саўдзелам у злачынствах мацней прывязаць іх да сябе. Каб надаць сваёй уладзе бачнасць законнасці, некаторыя тыраны імкнуліся заняць афіцыйную выбарную пасаду або засноўвалі такую пасаду спецыяльна пад сябе. Часам яны нават збіралі народны сход і ладзілі выбары. Праўда, да ўдзелу ў выбарах допускаліся толькі тыя кандыдаты, якіх хацеў сам тыран. У дачыненні да астатніх практыкавалася палітыка тэрору і запалохвання.

Імкнучыся выглядаць для грамадскай думкі сябрамі народа, тыраны нярэдка праводзілі прагрэсіўныя грамадскія рэформы, стымулявалі развіццё гандлю, рамёстваў і сельскай гаспадаркі. Яны стараліся дэманстраваць ваенныя поспехі, засноўвалі заморскія калоніі, куды перасяляліся ўсе незадаволеныя іх уладай. Дзеля ўласнай славы яны ўпрыгожвалі горад храмамі і манументальнымі пабудовамі, ладзілі пышныя цырымоніі і відовішчы для забаваў публікі.



**Помнік афінскім тыранаборцам Гармодыю і Арыстагітону**, створаны ў V стагоддзі да н. э. скульптарамі Крыціем і Несіётам. Мармуровая копія, зробленая ў Рыме ў II стагоддзі н. э., цяпер знаходзіцца ў Нацыянальным археалагічным музеі Неапаля.

WIKIMEDIA COMMONS

### Тыран не заўсёды дэспат

Афінскі тыран Пісістрат быў вельмі памяркоўным чалавекам. Свайму кіраванню ён стараўся надаць бачнасць законнай улады. Ён не займаў ніякай надзвычайнай пасады, захаваў старыя законы і пазбягаў рэпрэсій супраць апанентаў. Аднойчы ён нават асабіста з'явіўся на судовае пасяджэнне, калі нейкі афінянін выставіў супраць яго абвінавачанне. Праўда, убачыўшы яго ў судзе, абвінаваўца спалохаўся ўласнай дзёрзкасці і палічыў за лепшае адклікаць пазоў назад.





PINTEREST.COM

**Эдып перад Сфінксам**, чырвонафігурная ваза V стагоддзя да н. э. Ватыканскі музей, Рым.

### Найгоршы варыянт з усіх магчымых

Хоць некаторыя з тыранаў былі мудрымі заканадаўцамі ці паспяховымі военачальнікамі, у цэлым гэты тып кіравання цалкам справядліва заслужыў у грэчаскіх філосафаў званне найгоршага з усіх магчымых. Згодна з Арыстоцелем, тыраны з'яўляліся рабамі ўласных празмерных жарсцяў, у тым ліку славалюбства і прагі да ўлады. Калі яны дасягалі поспеху, гэта не прыносіла ім жаданай асалоды. Адно злачынства цягнула за сабой іншае. Таму нават сам стаміўшыся ад сваёй улады, тыран не мог адысці ад спраў, бо баяўся помсты тых людзей, якія пацярпелі ад ягонай жорсткасці.

Неабмежаваная ўлада вельмі хутка прыводзіла тыранаў да страты сувязі з рэальнасцю. Людзей сумленных, якія не баяцца казаць ім праўду, яны выганялі. Месца побач з тыранамі займалі спрэс ныгоднікі і ліслівцы. Падазраючы апошніх у няшчырасці, уладары ўрэшце пераставалі давяраць каму б там ні было і заставаліся ў поўнай адзіноце. Страх перад магчымымі замахамі рабіўся паталагічным. Кажуць, што тыран Дыянісій адмовіўся ад паслуг цырульніка і давяраў галіць сябе толькі сваім дочкам. А калі тыя выраслі і выйшлі замуж, яму давялося адпусціць бараду.



PINTEREST.COM

**Забойства тырана Эгісфа**, вазапіс IV стагоддзя да н. э. Луўр, Парыж.

### Дамоклаў меч

Шырокую вядомасць набыло наступнае паданне, звязанае з тыраніяй. Калі адзін з фаварытаў тырана Дыянісія, якога звалі Дамокл, неяк пачаў славіць асалоду і шчасце, якія даюцца тым, хто валодае ўладай, тыран прапанаваў яму на адзін дзень заняць ягонае месца. Дамокла раскошна апранулі і ўмасцілі духмяным алеем, мноства слуг мітусілася навокал, ловячы кожнае яго слова. Увечары ў палацы зладзілі свята. У разгар весялосці Дамокл раптам заўважыў востры меч, падвешаны над яго галавой на тонкім конскім воласе. Так Дыянісій даў яму зразумець усю прывіднасць бясклапотнага жыцця тырана.

Большасць вядомых нам тыранаў памерлі не сваёй смерцю. Адных забівалі змоўцы, а іншых ворагі, якія жадалі заняць іх месца. Самымі знакамітымі тыранаборцамі ў старажытнасці з'яўляліся Гармодый і Арыстагітон, якія ў 514 годзе да н. э. забілі афінскага тырана Гіпарха. Схопленыя, яны нават пад катаваннямі захоўвалі стойкасць духу. Калі праз чатыры гады тыранія ў Афінах канчаткова абрынулася, удзячныя суграмадзяне ўзвялі Гармодыю і Арыстагітону помнік. Гэтая скульптурная група, выкананая майстрамі Крыціем і Несіётам, набыла шырокую вядомасць. З усяго свету знаўцы мастацтва прыязджалі ў Афіны, каб зірнуць на помнік свабоды. Подзвіг Гармодыя і Арыстагітона праслаўляўся гісторыкамі і паэтамі. Да нашых дзён помнік дайшоў у выглядзе рымскай мармуровай копіі II стагоддзя н. э. ◆



ФОТА ГАННЫ КІСЛІЦЫНАЙ

# Што гатавалі ў доме Адамовічаў

## Кулінарныя сшыткі мамы, вытанчаныя рэцэпты жонкі

**Пра кулінарны самвыдат у сям'і пісьменніка Алеся Адамовіча распавядае Ганна Кісліцына.**

Калі чытаю кулінарныя кнігі па беларускай кухні, то часта лаўлю сябе на тым, што ў іх няма раздзела «Гарадская».

З дзяцінства помню, як у дамах маіх сябровак стаялі ў старых грувасткіх буфетах падносы з нарэзанымі квадрацікамі адкрытых пірагоў з варэннем ці пячэннем з карыцай «Зэмэлах» (іх звычайна нарыхтоўвалі на тыдзень, бо пясочнае цеста не чарсцвела)... Як на сямейныя святы падавалі заліўных карпаў пад салодка-пікантным парэчкавым марынадам, які востра пах духмяным гарошкам і лаўровым лістом... Як у бабулі аднакласніцы вучылася фаршыраваць качку блінамі і пячоначным паштэтам... Культура ежы перадавалася з пакалення ў пакаленне, а рэцэпты назапашваліся ў тым ліку і дзякуючы застоллям, пасля якіх гаспадыні, чырванеючы ад словаў падзякі і захаплення, дзяліліся сакрэтамі.

### Чатыры тамы ад рукі

І вось уявіце сабе жанчыну, якая не толькі збірала ўдалыя рэцэпты ў сшыткі, але і сістэматызавала іх, і нават зрабіла некалькі копій для сваіх нашчадкаў. І гэта не тонкія вучнёўскія сшыткі — гэта агульныя сшыткі на 96 лістоў, спісаныя ад коркі да коркі! Камплект складаўся з чатырох такіх сшыткаў і перапісваўся як мінімум шэсць разоў.

Зрабіла гэты побытавы подзвіг Ганна Мітрафанаўна Адамовіч (у дзявоцтве Тычына), маці знакамітага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча, якая, дарэчы, была прататыпам гераіні яго раманаў «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой». Гэта была жанчына неверагоднай душэўнай моцы, інтэлігентная і мудрая. Ёю немагчыма было не захапляцца. Мяккая знешнасць, мяккая манера выказвання... Яна гаварыла з людзьмі так, быццам бы той, хто перад ёю, — самы цікавы чалавек на свеце. Не дзіва, што, калі яна памерла, мая мама насіла па ёй жалобу сорак дзён, як па вельмі блізкім чалавеку. Хоць мая мама была ўсяго толькі жонкай пляменніка Ганны Мітрафанаўны.

### Рагалікі з курагой ад Веры Адамовіч

- 1/2 пачкі дражджэй,
- 200 г маргарыну альбо масла,
- 1/2 шклянкі цукру,
- 1 шклянка малака,
- 1 яйка,
- 3 шклянкі мукі,
- 200 г курагі альбо ўруку.

Першы раз, калі я пакаштавала рагалікі, яны былі з уруку (сушаных абрыкосаў) і сарцавінак костачкі. Пазней сарцавінкі пачалі замяняць міндалём альбо грэцкім арэхам.

Разводзім дрожджы з малаком і цукрам. Даём пастаяць 20 хвілін, дадаём яйка, пасля муку, растопленае масла. Размешваем, даём крыху пастаяць. Цеста атрымліваецца вельмі мяккае, таму дзелім яго на 4 часткі. Раскочваем на палоскі рукамі, палоска шырынёй у палец, таўшчынёй недзе каля 0,8 см. Кожную палоску рэжам на 10 трохкутнікаў. Робім невялічкія засечкі нажом з шырокага краю. Кладзём на яго адну замочаную курагу і два арэшкі. Скручваем рагалік, пачынаючы з шырокага краю, хвосцік павінен быць унізе. Кладзём на змазаную бляху рэдка, бо рагалікі моцна вырастаюць. Пячом у некалькі заходаў 20–25 хвілін пры агні зверху і знізу і тэмпературы 180 градусаў. Духоўку перад выпечкай можна не разаграваць.

Смачна есці!

І вось сшыткі з рэцэптамі — гэта, як для мяне, матэрыялізацыя яе дабрыні, яе доўгатэрміновы спосаб паклапаціцца пра тых, каго яна любіла. Такія рукапісныя зборы рэцэптаў былі зробленыя Ганнай Мітрафанаўнай для сваіх унучак Наташы, Галі і Іны, для пляменніцы Іны Тычыны і для жонкі пляменніка Міхася Тычыны, маёй мамы. Відавочна, што быў яшчэ як мінімум адзін камплект, бо той, што захоўваецца ў маёй сям'і, таксама перапісваўся.

### Гарнір з агуркоў

Усе сшыткі пранумараваныя. Рэцэпты ў іх таксама, што зручна, бо ў рэцэптах ёсць пазнакі, напрыклад, што адна страва пасуе да другой, і пад нумарамі такія пары лёгка адшукаць.

Іншым разам сустракаюцца і заўвагі, што тая ці іншая страва не пасуе, напрыклад, пры гастрыце (Ганна Мітрафанаўна была фармаколагам). Ці зроблены напамін, у якім посудзе лепш яе гатаваць. Ці ўказанне, што нейкага прадукту лепш узяць больш ці менш. Пасля зместу можна сустрэць парады, як што саліць, як смажыць, як мыць, замочваць, прасейваць.

У першым томе — стравы з рыбы і селядца, салаты, «ікра смачная з гародніны», супы, клёцкі для супоў і раздзел «Агуркі: рагу, смажаныя, пражаныя, як гарнір да мясных страваў». У гэтым раздзеле, як на мой сучасны погляд, даволі незвычайныя стравы: агуркі, смажаныя ў сухарах; рагу з агуркоў, вяршковага масла і воцату; агуркі тушаныя і салёныя, фаршыраваныя часнаком, цыбуляй і яйкам.

Сустракаюцца ў першым томе і даволі экзатычныя — з сучаснага гледжання — салаты, дзе інгрэдыентамі выступаюць адначасова вымачаны ў малацэ селядзец, бульба, морква, яйкі, марынаваныя агуркі, фасоля і маянэз. Дарэчы, некалькі старонак гэтых кулінарных запісаў прысвечаны таму, які селядзец трэба вымочваць і ў чым.

### І лыжка вішнёвага варэння

У другім сшытку акуратна перапісаныя стравы з бульбы, капусты, фаршыраваныя ▸



З АРХІВА НАТАЛЛІ АДАМОВІЧ

**Ганна Адамовіч з сынамі і ўнучкай.** 1960 год.



З АРХІВА НАТАЛЛІ АДАМОВІЧ

**Ганна Адамовіч.** 1970-я гады.




ФОТА ГАННЫ КІСЛІЦЫНАЙ

**Чатырохтомнік найлепшых мінскіх рэцэптаў** мама Адамовіча перапісала як мінімум 6 разоў для самых блізкіх людзей.

▸ памідоры і кабачкі, салянкі, фаршмак, прыправы з зеляніны, стравы з грыбоў, мясныя стравы, начынка для кур, пірагі і пончыкі з фаршам, соусы, а таксама «соус як закуска».

Пачынаецца сшытак з рэкамендацыі, як тушыць качку і гусь: «Вада з падсмажанай цыбуляй, у якую напрыканцы дадаецца лыжка вішнёвага ці брусьнічнага варэння».

З варэннем ёсць і яшчэ адзін рэцэпт, па якім і цяпер гатуе ўнучка Ганны Мітрафанаўны — Наталля Адамовіч. Гэта рэцэпт рысава-мясных катлет, якія смажацца, а пасля «даходзяць» у соусе з мукі, смятаны і лыжкі вішнёвага варэння!

Трэці том насяляюць стравы з морквы і тварагу, бліны, хворост і «віна-квасы», «варэнне з апельсінавых корак». Адзін з рэцэптаў называецца «пясочнікам нумар 49 на жаўтках, якія засталіся пасля снежак». Справа ў тым, што снежкі, альбо безэ, былі любімым ласункам унучак аўтаркі ў дзяцінстве. Вось і прыйшлося вынайсці рэцэпт, каб спажыць не выкарыстаныя для безэ жаўткі. Тут ёсць і малюнкі, як, напрыклад, рэзаць цеста, каб яго скруціць для печыва. У гэтым сшытку ажно 18 рэцэптаў хворасту!

Апошні том прысвечаны салодкаму. Тут рэцэпты тортаў, бісквітаў, снежак, пясочнікаў, пірагоў. У юнацтве я сама вельмі многа гатавала менавіта па гэтай кнізе, і на яе старонках засталіся падпісаныя маёй рукой назвы тортаў, якія я сама прыдумляла.

### Кухарчына нявестка

Трэба сказаць, што не толькі Ганна Мітрафанаўна была ўзорнай кухаркай у гэтай сям'і. Абсалютным ідэалам хатняй гаспадыні і для сваякоў пісьменніка, і для гасцей дома была жонка Алеся Адамовіча — Вера Сямёнаўна.

Прытым што яна ўвесь час займалася перадрукоўкай

### Рысава-мясныя катлеты з лыжкай вішнёвага варэння

300 г мяса прапусціць праз мясарубку, дадаць 1–2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі рысу адварыць, змяшаць з фаршам і зноў прапусціць праз мясарубку. Дадаць солі, перцу. Зрабіць катлеты, укачаць у муку і смажыць да гатоўнасці.

Заліць смятанным соусам.

**Соус да рысава-мясных катлет**

У паўшклянцы смятаны размяшаць сталовую лыжку мукі, пасля развесці 1/2 шклянкі булёну альбо проста гатаванай вады, пасаліць на смак, дадаць лыжку сіропу з любога варэння (Наталля Адамовіч традыцыйна дадае вішнёвае), размяшаць усё, заліць катлеты, даць закіпець.



ФОТА ГАННЫ КІСЛІЦЫНАЙ



### Любімыя снежкі

Піроокныя, якія Ганна Адамовіч рабіла для ўнучак

Аддзяліць ад жаўткоў 4 бялкі і ўзбіць калатоўкай да з'яўлення пены. Паступова ўсыпаць у бялкі шклянку цукровай пудры і ўзбіваць да крутой пены. Раскласці лыжачкай на бляху, папярэдне накрытую змазанай маслам паперай, і паставіць у духоўку або печ. Добра пячы безэ пасля пірагоў 15–20 хвілін.

і бібліяграфіяй твораў мужа, яна зрабіла цалкам самастойную кар'еру — працавала загадчыцай Кніжнай палаты Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, а пасля яшчэ і выкладала беларускую мову ў Інстытуце культуры. Вера Сямёнаўна вылучалася нават у інтэлігенцкім асяроддзі сваімі густам, розумам і далікатнасцю, таму ў доме пісьменніка заўсёды было шмат гасцей, з кожным з якіх яна ўмела падтрымаць цікавую яму гутарку. Разам з бацькамі я хадзіла на сямейныя святы, дзе за сталом збіраўся цвет тагачаснай інтэлігенцыі: Васіль Быкаў з жонкай Ірынай Міхайлаўнай, Рыгор Барадулін, Валянцін Тарас, Уладзімір Бойка, Навум Кіслік, фатограф Яўген Коктыш, ну і, само сабой, дачка пісьменніка Наталля, якая ўсё жыццё працуе ў доме-музеі Якуба Коласа і зрабіла неверагодна многа для папулярызацыі і перавыдання бацькавых твораў.

Кампанія, якая збіралася ў доме Адамовічаў, была не проста цікавай. Гэта была сапраўдная беларуская эліта. За сталом абмяркоўваліся і літаратура, і навука (Алесь Адамовіч працаваў у Акадэміі навук і меў шмат знаёмых сярод навукоўцаў самых розных галінаў), і праблемы Чарнобыля, і, зразумела, палітыка. І гэта я не пералічваю зорак сусветнай велічыні: рэжысёраў, пісьменнікаў, акцёраў, якія таксама ў свае прыезды былі ў гасцях у гэтай неверагоднай сям'і!

Вера Сямёнаўна ўмела прымаць гасцей на самым высокім узроўні, здзіўляючы і элегантнай сервіроўкай стала, і простымі, але неверагодна смачнымі стравамі, і ўтульнай сямейнай атмасферай. У яе кухні ніколі не было надта тлустага, празмерна смажанага, лішку салодкага — стравы як быццам бы адпавядалі яе стрыманаму, далікатнаму характару.

На памяць пра яе ў мяне засталося некалькі рэцэптаў, самы любімы з якіх — рэцэпт рагалікаў, якія яшчэ ў падлеткавым узросце ўразілі мяне сваім несалодкім высакародным смакам. ◆



ФОТА ЯЎГЕНА КОКТЫША

Жонка Алеся Адамовіча Вера зрабіла цалкам самастойную кар'еру — працавала загадчыцай Кніжнай палаты, а пасля яшчэ і выкладала беларускую мову ў Інстытуце культуры. Гаспадыня ж яна была ўзорная.

**Алесь і Вера Адамовічы, іх дачка Наталля.**

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ

## ПАЎСТАННЕ ЗАБЫТЫХ

### ЧАСТКА 4

СЮЖЭТ: АНДРЭЙ СКУРКО
МАСТАК: ФІЛІП КАКОША


ПАЧВАРЫ ВЫРВАЛІСЯ З БАРЫСФЕНІДЫ! ЯНЫ ЎЖО ТУТ!


КАЛІ НЕ СТРЫМАЕМ, ЯНЫ ПРАРВУЦЦА Ў СВЕТ ЛЮДЗЕЙ! ЦІ МОЖНА ПАВЯЛІЧЫЦЬ СІЛУ!?
ПАРТАЛ ПРАЦУЕ НА 70% МАГУТНАСЦІ!


ДАВАЙ 100!
КАЛІ ЁН ЗГАРЫЦЬ, НАМ УСІМ КАНЕЦ! І МАКСІМ НЕ ЗМОЖА ВЯРНУЦЦА. АДПРАВІМ ЯГО ЗАРАЗ!
...






І ВОСЬ...
...???


АТРЫМАЛАСЯ! Я ДОМА!


А ЯК ЖА З СУПЕРБЕЛАРУССЮ? ГЭЙ, ЁСЦЬ ХТО ЖЫВЫ? ПРЫЁМ!


ЗДАРОЎ, МАКСІМ! ЎЖО НЕПАКОІЦЦА ПАЧАЎ?
УСЯСЛАЎ!


ЯК ВЫ? УСЕ ЖЫВЫЯ? ШТО СТАЛАСЯ З СУПЕРПОЛАЦКАМ?
ТАК, УСЕ! ЯК ПАРТАЛ ЗАПРАЦАВАЎ НА СТО ПРАЦЭНТАЎ, АДБЫЎСЯ ВЫБУХ! ЁН ВЫПАЛІЎ ВІРУС І ЎСІХ ПАЧВАРАЎ, ПАЛОВЫ ГОРАДА ЦЯПЕР НЯМА... АЛЕ АДНОВІМ!
А БАРЫСФЕНІДА? І ЗАБЫТЫЯ?
ОХ, ДЗІЎНЫ ЯНЫ НАРОД! НЕ ПАСПЕЛА ЯШЧЭ ЎСЁ ГЭТА СКОНЧЫЦЦА – ДА НАС З'ЯВІЛІСЯ! ЗНОЎ ПАТРАБУЮЦЬ, КАБ ІМ ПАКЛАНЯЛІСЯ! БЫ І НЕ РАТАВАЛІ МЫ АДНО АДНАГО!
ПАКЛАНЯЛІСЯ? ЧАКАЙ, ЁСЦЬ У МЯНЕ АДНА ІДЭЯ...


ДОЎГА ПРАЦАВАЎ МАКСІМ...
БАРЫСФЕНІДА...
АСОБНЫЯ РАСЫ...
МАМАНТЫ, НЕЎРЫ, ГЕРОІ...


І НАРЭШЦЕ...
НАЙЛЕПШАЯ ГУЛЬНЯ ГОДА – БАРЫСФЕНІДА, БЕЛАРУСЬ!


МЫ БОЛЬШ НЕ ЗАБЫТЫЯ!

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**


WIKIMEDIA COMMONS

**Шапэн грае для Радзівілаў**, 1829 год. Карціна Генрыка Семірацкага 1887 года.

## За паўлітра квашанай капусты...

Кнігараспаўсюднік **Алесь Дудар** падзяліўся з падпісчыкамі цікавым сямейным фота ваеннага часу. На ім лёгка апранутыя вайскоўцы стаяць на фоне невялікага самалёта. Калі глядзіш на здымак, складваецца ўражанне, што ён зроблены ў гарачых краях.

Так і ёсць: «На адваротным баку фотаздымка надпіс "Персідскі заліў 1944". Першы справа — мой дзед Аляксандр Дудар. Падчас вайны ён перакідваў самалёты, атрыманыя па ленд-лізе, з Ірана ў СССР, на тэрыторыю савецкага Азербайджана. Нягледзячы на забарону, дастаўляў прадукты сям'і, якая жыла ў Кіравабадзе (Гянджа), з тэрыторыі Ірана, бо там дэфіцыту не было. Прадуктамі таксама расплачваўся за здымную кватэру. У Іране за паўлітра квашанай капусты, прывезенай з дому, вымяняў у амерыканскіх вайскоўцаў гадзіннік з залатым корпусам. Корпус, на жаль, бацькі пазней прадалі, каб пагасіць выплаты за кааператыўную кватэру».

Во як яно выходзіць: беларуская квашаная капуста — самая трывалая валюта ў свеце!



## Радзівілаўскі салон на месцы Рэйхстага

Чарговая цікавінка ад пастаяннага госця рубрыкі «Што пішуць» **Аляксея Ластоўскага**. Знаўца мастацтва і гісторыі звяртае ўвагу на былы будынак Рэйхсканцылярыі ў Берліне — той самы, пад якім знаходзіўся бункер Гітлера. Цікава, што да таго, як стаць важным дзяржаўным аб'ектам, будынак належаў Антонію Радзівілу — вайсковаму і грамадскаму дзеячу, а таксама кампазітару, які напісаў оперу «Фаўст». Салон у берлінскім палацы Радзівілаў быў папулярным месцам. Неаднойчы сяброўскія канцэрты там даваў сам Фрэдэрык Шапэн.

«Пазней палац у Радзівілаў выкупіў Бісмарк і перарабіў яго ў імперскую канцылярыю», — піша Ластоўскі.

Калегу дапоўніў гісторык **Кірыл Карлюк**: «Найстарэйшыя дрэвы першай алеі нясвіжскага Старога парку — з саджанцаў, прывезеных з саду радзівілаўскага берлінскага палаца. Рашэнне вярнуцца ў Нясвіж і пачаць тытанічную і вельмі дарагую справу адраджэння замка, дарэчы, шмат у чым і падштурхнула да продажу маёмасці ў Нямеччыне».

Ну і хто пасля гэтага асмеліцца сказаць, што Нясвіж менш прыцягальны за Берлін? Радзівілы так яўна не думалі, прадаючы свой тамтэйшы палац Бісмарку.

## Нобельскі скарб

Кнігазнавец **Алесь Суша** нагадвае пра адзін незаўважаны юбілей з гісторыі беларускага кніжніцтва. Гэтым летам споўнілася 500 год Нобельскаму Евангеллю (1520), пра якое ў сучаснай Беларусі мала хто ведае. Прычына хаваецца, напэўна, у тым, што вёска Нобель, дзе ствараўся рукапіс, цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Украіны, ля самай мяжы, але з таго боку.

Між тым Нобель здаўна быў пунктам прыцягнення Пінска. Нават калі ў савецкі час мястэчка былой Мінскай губерні апынулася ва Украінскай ССР, людзі працягвалі ездзіць у Пінск па тавары і хлеб, моладзь ехала працаваць на пінскія заводы. У Нобелі, дарэчы, у 1913 годзе нарадзіўся беларускі паэт Сяргей Грахоўскі.

Сітуацыя змянілася толькі з усталяваннем рэальнай мяжы пасля распаду СССР. Таму напісаны ў часы Вялікага Княства Літоўскага нобельскі рукапіс дакладна мае дачыненне і да нашай гісторыі.


СТАРОНКА АЛЕСЯ СУШЫ Ў FACEBOOK

**Старонка Нобельскага Евангелля.**


ARCHIWUM AKT NOWYCH

**Гісторык Уладзімір Садоўскі адшукаў вытанчаны ўзор польскага драўлянага канструктывізму.** Гэты незвычайны будынак быў Народным домам і стаяў у 1930-х у Мікашэвічах на Палессі. Пра яго лёс гісторык дакладна не ведае, але думае, што заходнебеларускі адпаведнік сённяшнім дамам культуры не перажыў вайну.

Алесь Суша: «Нобельскае Евангелле — цудоўны помнік кніжнай культуры Пінскага Палесся. Яно было перапісана, верагодна, на замову пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча, які вызначаўся тым, што ўласнаручна пісаў дакументы. Рукапіс гэты, як запісана на яго старонках, створаны "пры вялікім каралю Жыгімонце, пры епіскапе Іоне, уладыку тураўскім і пінскім"». Кнігазнавец, які бачыў рукапіс у месцы сённяшняга захавання — Бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх, — падкрэслівае арыгінальнасць яго пераплёту і почырку перапісчыка.

«У 1865–1871 гадах рукапіс трапіў у Віленскую публічную бібліятэку, куды звозілі старажытныя кнігі з тэрыторыі колішняга ВКЛ, — распавядае Алесь Суша. — У XX стагоддзі ён вывозіўся ў Маскву, але пасля Другой сусветнай вайны быў вернуты ў Літву, а з тых часоў захоўваецца ў Вільні». Па словах адмыслоўца, Украіна адзначыла юбілей Нобельскага Евангелля яго перавыданнем. У Беларусі ж пра рукапіс забыліся.

«А магла б быць глеба для беларуска-літоўска-ўкраінскай супрацы. Ці яшчэ можа быць», — не страчвае надзеі Алесь Суша. ◆